# ЗЬМЕСТ

ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

ШТОМЕСЯЧНАЯ ПОЛІТЫЧНАЯ, ПЭДОЛЁГА-ПЭДАГОГІЧНАЯ
І ПОЛІТЫКА-АСЬВЕТНАЯ ЧАСОПІСЬ



# КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ

ОРГАН НАРОДНАГА КОМІСАРЫЯТУ АСЬВЕТЫ
І САЮЗУ ПРАЦАЎНІКОЎ АСЬВЕТЫ









№ 1 СТУДЗЕНЬ 1930

ВЫДАНЬНЕ НАРОДНАГА КОМІСАРЫЯТУ АСЬВЕТЫ БССР

МЕНСК 1930

# ЗА КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ

Наша часопіс „Асьвета“ атрымоўвае новую назву—„Комуністычнае выхаваньне“. Гэта робіцца не выпадкова. Ня гледзячы на тое, што савецкая школа павінна быць школай комуністычнага выхаваньня і што наогул выхаваньне ў нашай краіне павінна быць падпарадкавана задачам комуністычнай рэволюцыі і соцыялістычнага будаўніцтва, ня гледзячы на ўсё гэта яшчэ і да апошняга часу не заўсёды і ня ўсімі зварочваецца ўвага на чоткую клясавую лінію па ажыцьцяўленьню асноўных прынцыпаў програмы комуністычнай партыі ў галіне народнай асьветы. У гэтай-жа програме сказана зусім выразна тое, што наша савецкая школа павінна быць „зброяй поўнага зьнішчэньня падзелу грамадзтва на клясы“, „зброяй комуністычнага пераджэньня грамадзтва“, павінна быць праваднікам прынцыпаў комунізму і выхоўваць пакаленьне, якое здольна канчаткова пабудаваць комунізм.

Ленін неаднакроць заўважваў, што нашай галоўнай задачай у галіне асьветы зьяўляецца комуністычнае выхаваньне. Пры гэтым пад апошнім ён разумеў ня „зуброжку“, не схолястычную вучобу, хоць-бы і па марксыцкіх кнігах, а крытычнае ўцямленьне навукі і тэхнікі ў сьвятле дыялектычнага матэрыялізму, пры абавязковым удзеле „ў політычнай барацьбе пролетарыяту“ і „у працы рабочых і сялян“, аддаючы свае сілы і сваю работу агульнай справе працоўных мас. Комуністычнае выхаваньне не абмяжоўваецца толькі школай і толькі дзецьмі—яно пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі праводзіцца праз яе, праз партыю і комсамол, праз нашы профэсійныя і грамадзкія організацыі, праз савецкі апарат. Актыўны ўдзел у эканомнарадах, фабкомах, МОПР‘ы, „Бязбожніку“, Чырвонай арміі, у сэкцыях Гарсавету, у рабоча-сялянскай інспэкцыі, у організацыях па ліквідацыі няпісьменнасьці, у газэтах і г. д.—ўсё гэта зьяўляецца сродкам комуністычнага выхаваньня.

Апошняе мае і свае мэтоды: соцыялістычнае спаборніцтва, самакрытыка, добраахвотная сумесная работа, як, напрыклад, суботнікі, комуністычныя арміі працы. Гэтыя мэтоды выхаваньня зьяўляюцца і мэтодамі комуністычнае працы. Калісьці Маркс паказваў, што ў будучым грамадзтве выхаваньне павінна быць злучана з вытворчай працай дзяцей, і што гэта будзе ня толькі мэтодам утварэньня ўсебакова разьвітых людзей, але-ж і мэтодам уздыму грамадзкай вытворчасьці. Гэта цалкам датычыцца і да гэткіх мэтодаў, як, скажам, соцыялістычнае спаборніцтва. Апошняе ня толькі садзейнічае ўздыму соцыялістычнага сэктару нашай савецкай гаспадаркі, але-ж зьяўляецца і мэтодам комуністычнага выхаваньня.

Кажучы аб сутнасьці дыктатуры пролетарыяту, Ленін адзначаў ня толькі яе прымусовы характар, але-ж і выхаваўчы. Такім чынам, комуністычнае выхаваньне зусім не разумеецца, як нешта аднабокае і абмежаванае. Яно ахоплівае сабою ўсе сродкі і мэтоды ўплыву комуністычнае партыі на пролетарыят і праз яго на шырокія пласты працоўных мас у напрамку ажыцьцяўленьня задач комуністычнай рэволюцыі і соцыялістычнага будаўніцтва.

Савецкая школа мае сваёй мэтай—„выхоўваць карыснага члена грамадзтва, жыцьцярадаснага, здаровага і працаздольнага, прасякнутага грамадзкім інстынктам, які-б уладаў організацыйнымі навыкамі, разумеў сваё месца ў прыродзе і грамадзтве, умеў разбірацца ў бягучых падзеях, вытрыманага барацьбіта за ідэалы рабочае клясы, умелага будаўніка комуністычнага грамадзтва“[1]). Комуністычнае выхаваньне ў пераходны пэрыод дыктатуры пролетарыяту павінна пад-

---

[1]) Тезисы ГУС'а о самоуправлении.

рыхтаваць рэволюцыйных барацьбітоў за комунізм і будаўнікоў социялістычнага грамадзтва.

Як гэта ажыцьцявіць? Комэнтуючы партыйную програму, тав. Крупская паказвае наступнае:

1) утварэньне адзінай сыстэмы выхаваньня;

2) поўнае ўтрыманьне вучняў за кошт дзяржавы;

3) праца дзяцей з політэхнічным характарам;

4) разьвіцьцё ў дзяцей уменьня працаваць колектыўна;

5) выхаваньне організацыйных навыкаў.

Зразумела, гэтымі рысамі комуністычнае выхаваньне ня вычэрпваецца. Складанымі элемэнтамі комуністычнага выхаваньня зьяўляецца клясавае выхаваньне, інтэрнацыянальнае, антырэлігійнае, працоўнае, політэхнічнае, профэсійная асьвета, агульнае абавязковае навучаньне, эстэтычнае, фізычнае, сумеснае і разумовае выхаваньне.

Па гэтых асноўных разьдзелах і павінна пайсьці распрацоўка комуністычнай пэдагогікі. І трэба адзначыць, што найбольш вядомыя працы савецкіх пэдагогаў як раз і не адбіваюць у сабе гэтыя моманты. Асабліва дрэнна абстаіць справа з такімі пытаньнямі, як інтэрнацыянальнае, антырэлігійнае і політэхнічнае выхаваньне. Гэтыя пытаньні не закранаюцца ці зусім мала закранаюцца ў найбольш распаўсюджаных падручніках па пэдагогіцы і па вучэньню аб працоўнай школе. Гэтых пытаньняў няма нават і ў такой фундамэнтальнай кнізе, як „Пэдагогічная Энцыклёпэдыя“. Нашы некаторыя савецкія пэдагогі знаходзяцца пад уплывам буржуазнай тэорыі і практыкі выхаваньня і не разумеюць, што комуністычная пэдагогіка ня можа ні ў якім разе ўпадабляцца буржуазнай пэдагогіцы. Мы павінны ўлічваць вопыт выхаваньня капіталістычных краін, але-ж гэта ня значыць, што мы павінны ставіць знак роўнасьці паміж савецкай і капіталістычнай пэдагогікай. А што тут у нас нярэдка назіраецца скажэньне клясавай лініі, астаецца бясспрэчным. Прыклады: „Пэдагогіка“ Блонскага, „Пэдагогіка“ Пінкевіча, някрытычныя адносіны Шацкага да Дзюі і г. д. Мы павінны весьці рашучую барацьбу як з ідэямі буржуазнай пэдагогікі, гэтак і з прымірэнцкімі адносінамі да іх з боку некаторых нашых пэдагогаў. У процэсе гэтай барацьбы мы будзем садзейнічаць разьвіцьцю тэорыі і практыкі комуністычнага выхаваньня.

Старая назва нашай часопісі „Асьвета“ у сучасны пэрыод разгорнутай клясавай барацьбы ўжо ўстарэла. Гэтая назва не адлюстроўвае якасных асаблівасьцяй нашай клясавай установкі ў галіне выхаваньня і адукацыі. Вось чаму зараз даецца часопісі новая назва: „Комуністычнае выхаваньне“. І гэтая назва павінна сьведчыць аб нашым імкненьні весьці рашучую барацьбу за комуністычную асьвету працоўных мас.

---

**„...Наша школа павінна даваць моладзі асновы ведаў, даваць уменьне выпрацоўваць самім комуністычныя погляды, павінна рабіць з іх адукаваных людзей. Яна павінна за той час, покуль людзі у ёй вучацца, рабіць з іх удзельнікаў барацьбы за вызваленьне ад эксплёататараў...**

**...Наша выхаваньне трэба злучыць з барацьбою працоўных суцроць эксплёататараў для таго, каб дапамагаць першым вырашаць тыя задачы, якія з вучэньня комунізму вынікаюць“...** ЛЕНІН.

---

# У БАРАЦЬБЕ ЗА СОЦЫЯЛІСТЫЧНУЮ РЭКОНСТРУКЦЫЮ С.-Г.

**Я. МЯДЗЬВЕДЗЕЎ**

## ВЕСНАВАЯ СЯЎБА І ЗАДАЧЫ ШКОЛ

„Дасягнутыя посьпехі ў галіне соцыялістычнага будаўніцтва нямінуча ідуць разам з пэўнымі цяжкасьцямі, якія абвастраюцца супраціўленьнем капіталістычных элемэнтаў. Як і раней, аднэй з найважнейшых задач гаспадарчай палітыкі партыі зьяўляецца перамога празьмернага адставаньня тэмпаў разьвіцьця сельскай гаспадаркі і, у прыватнасьці ды ў асаблівасьці, яе збожжавага і жывёлагадоўчага сэктару. Радыкальна разьвязаць гэту задачу можна праз далейшае форсаваньне процэсу колектывізацыі і будаўніцтва саўгасаў, праз далейшае палепшаньне і ўмацаваньне саміх колгасаў ды саўгасаў, нарэшце праз форсаванае разьвіцьцё індустрыі, якая зьяўляецца ключом да соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі“ (рэз. лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б.).

Сельска-гаспадарчая кампанія 1930 году будзе мець выключна важнае значэньне для соцыялістычнага будаўніцтва ўсяе народнай гаспадаркі. Можна з упэўненасьцю сказаць, што гэта кампанія будзе рашаючай у сэнсе канчатковага замацаваньня атрыманых вынікаў у галіне перабудовы сельскай гаспадаркі на соцыялістычны лад, у сэнсе ліквідацыі кулацтва як клясы.

Для пасьпяховага правядзеньня сельска-гаспадарчай кампаніі бягучага году складаюцца спрыяючыя ўмовы. Атрыманыя здавальняючыя вынікі ў правядзеньні веснавой пасеўкампаніі 1929 г. і выключна пасьпяховае сканчэньне хлебазагатовак даюць магчымасьць сказаць, што сельска-гаспадарчая кампанія прыме надзвычайна шырокі размах.

**Колектывізацыя сельскай гаспадаркі—галоўная задача кампаніі.**

XV зьезд партыі паставіў за асноўную задачу партыі ў вёсцы „паступовы пераход раздробленых сялянскіх гаспадарак на рэйкі буйнай вытворчасьці. За апошнія два гады партыя дасягнула вялізарнейшых посьпехаў у ажыцьцяўленьні гэтай дырэктывы XV зьезду“ [1]).

Колгасны рух за апошні год прыняў аграмадны размах. Дзесяткі тысяч двароў, цэлыя сельсаветы і раёны сталі на новы шлях па будаўніцтву сельскай гаспадаркі. К часу веснавой сяўбы павінна быць закончана суцэльная колектывізацыя 15 раёнаў, а к канцу 1930 году—усёй Магілеўскай акругі.

Програма соцыялістычнага наступу, у параўнаньні з мінулым годам, прыме значна большы размах. Далейшае ўзмацненьне і пашырэньне соцыялістычнай гаспадаркі прадугледжвае ў мерапрыемствах сельска-гаспадарчай кампаніі павялічэньне пасеўнай плошчы да часу веснавога севу ня менш чым на 25 проц. агульнай пасеўнай плошчы з давядзеньнем да канца 1930 году ўдзельнай вагі колгасаў па агульнай плошчы да 40 проц.

Калі такі шырокі размах вызначаецца па рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, дык зразумела, што ня меншымі павінны быць мерапрыемствы ў галіне ўздыму яе інтэнсыўнасьці і таварнасьці. Паводле плянавых меркаваньняў, прадугледжваецца пашырэньне агульнай плошчы яравых культур на 6 проц. з засевам 2.300 тыс. га, у тым ліку: у саўгасах—44,5 тыс. га, колгасах – 614,5 тыс. га і ў індывідуальных гаспадарках—1641,0 тыс. га [1]).

[1]) З рэзолюцыі лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б) аб колгасным будаўніцтве.

[1]) Усе лічбы, прыведзеныя на працягу ўсяго артыкулу, узяты з пастановы СНК БССР аб сельска-гаспадарчай кампаніі.

Лён, каноплі, бульба, травы, караньплоды—галоўныя культуры, ад разьвіцьця якіх залежыць асноўная галіна сельскай гаспадаркі—жывёлагадоўля. Забясьпечыць разьвіцьцё жывёлагадоўлі ў аграмаджаным сэктары сельскай гаспадаркі зьяўляецца неадкладнай і ўдарнай задачай.

Па забесьпячэньню сродкамі вытворчасьці аграмаджанага сэктару сельскай гаспадаркі таксама вызначаюцца значныя мерапрыемствы. Па машыназабесьпячэньню ў працягу 1930 году павінна быць выдаткавана 12.386 тыс. руб. Аграмаджаны сэктар атрымае 60 проц. колькасьці сельска-гаспадарчых машын, што ў значнай ступені дасьць магчымасьць пад цэлы шэраг вытворчых процэсаў сельскай гаспадаркі падвесьці машынную тэхніку і зьменшыць гэтым удзельную вагу нескладаных машын.

**За падвышаны ўраджай палёў.**

У справе падвышэньня ўраджаю, асабліва ў аграмаджаным сэктары сельскай гаспадаркі, вызначаны пунктуальныя паказчыкі, якія павінны даць належны гаспадарчы эфэкт.

З пашырэньнем плошчы засеву інтэнсыўных культур адпаведна пашыраецца і патрэба на пасеўны матар'ял. Частку насеньня можна загатовіць у межах БССР, а астатнюю колькасьць прыдзецца прывезьці з іншых рэспублік Савецкага Саюзу.

Мяркуецца загатовіць і прывезьці: канюшыны—1.370 тон, вікі—4.600 тон, сэрадэлі—530 тон, лубіну—8.755 тон, караньплодаў—2.156 тон, аўсу і ячменю—27.041 тону, ільну-насеньня—4089 тон, лугавых траў—на 178.921 руб. і гароднага насеньня—на 182.000 руб. У агульнай суме павінна быць выдаткавана каля 7 мільёнаў рублёў.

Вызначаныя мерапрыемствы па ўтварэньню насенных фондаў могуць быць выкананы толькі пры ўмовах, калі ў гэтую справу будуць уцягнуты шырокія бядняцка-серадняцкія масы сялянства, усе грамадзкія і культурныя сілы вёскі. Мобілізацыя грамадзкай думкі вакол стварэньня мясцовых насенных фондаў зьяўляецца баявой задачай, і яе трэба поўнасьцю выканаць. Кожная вёска, сельсавет павінны мець організаваныя насенныя фонды для забесьпячэньня поўнасьцю патрэб у гатунковым насеньні саўгасаў і колгасаў.

Другой важнай справай у падвышэньні ўраджаю нашых палёў зьяўляецца ачыстка насеньня. Зараз ачыстка насеньня пакуль што ідзе надта марудна. Вопыт мінулых гадоў паказаў, што там, дзе аб гэтым важным мерапрыемстве мала гаварылася, меліся выпадкі, калі перасовачныя абозы прастойвалі бяз усякай работы цэлымі тыднямі. Гэта лішні раз падкрэсьлівае, што пры наяўнасьці „абломаўшчыны" на мясцох, якая ўжо назіраецца, ачыстка насеньня ставіцца пад пагрозу зрыву. Таму патрэбна зараз-жа распачаць ня толькі растлумачальную работу, а і організацыю гэтай справы з прыцягненьнем да яе ўсіх лепшых грамадчыкаў-актывістаў, настаўнікаў, агрономаў, якія павінны сваім кіраўніцтвам забясьпечыць пасьпяховасьць гэтай работы.

У значнай меры падвышэньне ўраджайнасьці глебы залежыць і ад таго, наколькі яна будзе добра ўгноена. У гэтым напрамку сіламі самога працоўнага насельніцтва, асабліва школамі і вучнёўскай масай, можна шмат што зрабіць. Адным з каштоўных мінэральных угнаеньняў для нашай глебы зьяўляецца звычайны драўляны попел, які мы часта выкідаем пад ногі. Гэтую работу трэба шырока разгарнуць, і ў першую чаргу сама школа павінна быць застрэльшчыкам гэтай важнай справы.

Разам усё гэта ўзятае дасьць магчымасьць падняць ураджайнасьць, якая павінна быць падвышана ў саўгасах на 30 проц., у колгасах на 25 проц. і ў сялянскіх гаспадарках на 20 проц. Гэта мінімум, які нам трэба атрымаць.

**Організацыя мас вакол конкрэтнай задачы соцыялістычнай перабудовы вёскі.**

Вопыт мінулых гадоў паказаў, што посьпех у правядзеньні як васеньняй сяўбы, гэтак і шэраг іншых кампаній залежыць ад таго, наколькі будуць вакол іх організаваны шырокія бядняцка-серадняцкія масы сялянства.

Зараз ужо пляны сяўбы даводзяцца да кожнага саўгасу, колгасу і бядняцка-

серадняцкага двара. Гэта дае магчымасьць лепш прыстасавацца да выкананьня цэлага шэрагу мерапрыемстваў, якія намечаны для правядзеньня ў веснавую сельска-гаспадарчую кампанію. Справа з давядзеньнем плянаў сяўбы да паасобных гаспадарчых адзінак зьяўляецца зусім новай. Таму патрэбна шырока разгарнуць растлумачальную работу сярод бядняцка-серадняцкіх мас.

Такое шырокае наступленьне соцыялістычных элемэнтаў на капіталістычныя выкліча яшчэ больш жорсткую клясавую барацьбу. Калі ў мінулым годзе кулак адкрыта выступаў супроць савецкай улады, дык у надыходзячую кампанію ён будзе шукаць новыя мэтады, менш прыкметныя, але больш шкодныя, для таго, каб перашкодзіць справе па рэконструкцыі сельскай гаспадаркі. Кулацкай агітацыі і барацьбе трэба супроцьпаставіць узрослую актыўнасьць і палітычную сьвядомасьць батрацкіх, бядняцка-серадняцкіх мас.

У гэтай бойцы школа, яе кіраўнік-настаўнік павінен прымаць самы найактыўнейшы ўдзел. Гэта павінны памятаць настаўніцкія масы і падрыхтаваць сябе да важнай палітычнай работы па арганізацыі ў першую чаргу батракоў і беднаты вакол мерапрыемстваў нашай партыі і савецкай улады ў галіне перабудовы сельскай гаспадаркі на новы соцыялістычны лад. Усю работу па арганізацыі беднаты і батракоў вакол лёзунгаў кампаніі, бязумоўна, будуць праводзіць партыйныя ячэйкі; вось тут школа і настаўніцтва павінны забясьпечыць пэўную дапамогу, якая павінна выражацца галоўным чынам у агітацыі і пропагандзе ідэй, якія забясьпечылі-б падрыхтоўку глебы для арганізацыі соцыялістычных ячэек—комун і колгасаў.

Калі настаўніцкая маса, уся школа моцна ўпрагуцца ў гэтую вялікую палітычна важную справу, разам з усёй савецкай грамадзкасьцю, дык можна ўпэўнена сказаць, што тыя задачы, якія зараз пастаўлены перад школай, будуць выкананы поўнасьцю. Гэта ў поўнай меры падвядзе нас да вырашэньня проблемы падрыхтоўкі новых людзей у поўным сэнсе гэтага слова, людзей, якія будуць мець колектывісцкую ідэолёгію.

**Школа, як адзін з асяродкаў, вакол якога павінна згрупавацца ня толькі культурнае, а і палітычнае жыцьцё.**

Зразумела, што на долю культурных установаў, асабліва школ, прыпадаюць задачы практычнага ўдзелу ў справе перабудовы сельскай гаспадаркі.

Ёсьць падставы гаварыць, што ў гэтым напрамку яшчэ ёсьць шмат недахопаў, і што работы тут непачаты край.

Ёсьць выпадкі (па Койданаўскаму, Бягомльскаму і інш. раёнах), што некаторая частка настаўнікаў (а ў тым ліку і школа, бо яна ідзе за сваім кіраўніком), ня то-што сталі тварам да сучасных задач перабудовы вёскі на новы соцыялістычны лад, а наадварот, сьвядома шкодзіць гэтай справе. Гэта назіраецца галоўным чынам сярод тае часткі настаўнікаў, якія маюць сваю ўласную гаспадарку і часам самага сапраўднага кулацкага тыпу.

Вынікі ў правядзеньні хлебазагатовак паказалі, што некаторыя настаўнікі ня прымалі ніякага ўдзелу ў чырвоных абозах, а калі і прымалі, дык рабілі гэта толькі для таго, каб не адстаць ад мас і паказаць сваю „лёяльнасьць“ да савецкай улады і да партыі. Супроць усяго гэтага павінна быць абвешчана самая жорсткая барацьба.

Уся навучальна-выхаваўчая работа школ павінна быць пранізана практычным удзелам у падрыхтоўчай рабоце да сяўбы. У чым жа яна павінна выражацца? Памер артыкулу не дае магчымасьці падрабязна на гэтым застанавіцца. Але ўсё-ж такі можна вызначыць цэлы шэраг пытаньняў, якія павінны легчы ў аснову работы школ на ўвесь час сельска-гаспадарчай кампаніі.

Такія галіны работы, як праверка аграмінімуму, складаньне плянаў сяўбы для кожнага двара, правядзеньне бацькаўскіх сходаў па асобных пытаньнях сельска-гаспадарчай кампаніі і цэлы шэраг іншых галін павінны быць прадугледжаны ў рабоце школы.

Цяпер паўстала задача перад школай—стаць ня толькі культурным, але і палітычным асяродкам. Гэтага вымагае наша сучаснае жыцьцё і характар савецкае школы, як сродку комуністычнага выхаваньня ўзрастаючага пакаленьня.

Таму, наколькі школа зможа сябе організаваць у сельска-гаспадарчай кампаніі, можна будзе мець магчымасьць сказаць аб яе політычным узроўні і зрабіць належныя захады да зьнішчэньня зьявішчаў адмоўнага парадку, замацаваньня і пашырэньня станоўчых на ўсю сыстэму народнай асьветы.

* * *

Такіх тэмпаў разьвіцьця сельскай гаспадаркі мы ня мелі ў мінулыя гады, такіх ня ведала ні адна капіталістычная краіна ў сьвеце. Спадзявацца на тое, што колгасны рух пойдзе самацёкам, цяпер ня прыходзіцца. Для выкананьня гэтых вялікіх гісторычных задач уся савецкая грамадзкасьць, у тым ліку настаўніцкія масы, павінна быць пастаўлена на ногі. Усе сілы партыі, савецкай улады і грамадзкіх організацый павінны быць плянава расстаўлены. Кожны павінен ведаць свой вучастак работы і несьці за даручаны абавязак поўную адказнасьць.

Надыходзячая сельска-гаспадарчая кампанія будзе прадстаўляць сабою грандыёзную барацьбу за больш хуткія тэмпы соцыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі, барацьбу супроць капіталістычных элемэнтаў, за іх зьнішчэньне, ліквідаваньне.

У гэтай барацьбе рабочыя, бядняцка-серадняцкія масы, пад кіраўніцтвам КП(б)Б, выйдуць пераможцамі, і ганьба тым асьветнікам, якія застануцца з боку ад гэтай вялічэзнай барацьбы рабочых, бядняцка-серадняцкіх мас з капіталістычнымі элемэнтамі.

**В. ЗАЙЦАЎ**

# АСЬВЕТНІКІ НА ФРОНЦЕ КОЛЕКТЫВІЗАЦЫІ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ

*(Па матар'ялах Ц. П. саюзу працасьветы)*

Калі мінулы навучальны год характарызаваўся надзвычайна слабай увагай з боку профсаюзных органаў да пытаньняў колгаснага будаўніцтва, калі летась асноўная маса асьветнікаў амаль ня прымала ўдзелу ў апошнім, дык з пачатку 1929-30 навучальнага году як профсаюзныя органы, так і асноўная маса асьветнікаў пачынаюць удзельнічаць ня толькі ў абгаварэньні пытаньня аб сваім удзеле ў колгасным руху, але і ў практычным ажыцьцяўленьні дырэктыў партыі і органаў саюзу.

Зараз уся маса асьветнікаў ў асноўным азнаёмлена з задачамі колгаснага будаўніцтва. Азнаямленьне гэта ідзе ня толькі па лініі растлумачэньня профсаюзнымі органамі, але, і, галоўным чынам, пры дапамозе друку і работы мясцовых партыйных організацый. Трэба сказаць, што тэмп растлумачальнай работы профсаюзных органаў значна адстае ад патрабаваньняў сучаснага моманту. Мы маем нямала фактаў, калі растлумачэньне профорганаў аб тым, што павінен рабіць асьветнік ў галіне колектывізацыі сельскай гаспадаркі, на месца пападае тады, калі асьветнік ужо ў колгасе і актыўна дапамагае бядняцка-серадняцкай масе сялянства будаваць новае жыцьцё.

Трэба адзначыць, што ўдзел асьветнікаў у колгасным будаўніцтве з кожным месяцам павялічваецца. Калі ў верасьні гэта пытаньне толькі абгаварвался сярод асьветніцкіх мас, дык у лістападзе і сьнежні мы маем масавы ўваход асьветнікаў у колгасы. Па няпоўных вестках з 5 акруг, па 1 студзеня ў колгасы ўступіла 717 настаўнікаў вясковых школ.

Перадавая частка асьветнікаў ставіць пытаньне аб сваім уступленьні ў колгас яшчэ да моманту організацыі апошняга ў данай мясцовасьці. Пры правядзеньні сходаў беднаты і агульных сходаў працоўнага сялянства гэтыя асьветнікі першымі падымаюць голас за ўступленьне ў колгас, уступаюць самі і сваім прыкладам уцягваюць бядняцка-серадняцкія масы сялянства ў колгасы. Сіламі і энэргіяй гэтай перадавой часткі асьветнікаў, па няпоўных яшчэ вестках, было організавана ў розных раёнах БССР 14 кол-

гасаў, з якіх адзін налічвае 1.500 чалавек. З гэтай часткі асьветнікаў 22 чалавекі зьяўляюцца старшынямі або членамі праўленьня колгасаў.

Другая частка асьветнікаў уваходзіла ў колгасы пад уплывам агульнага ўздыму бядняцка-серадняцкіх мас вёскі. Гэта частка асьветнікаў таксама галасавала за організацыю колгасаў, вяла растлумачальную работу, але не з такім уздымам, як передавыя асьветнікі-застрэльшчыкі організацыі колектыўных гаспадарак. Сярод гэтай часткі асьветнікаў мела месца пужлівасьць вялізарнага колгаснага руху. На пытаньне, чаму яны мала вядуць растлумачальную работу сярод працоўных мас вёскі, мелі адказ, што яны самі добра яшчэ не разьбіраюцца ў пытаньнях колгаснага руху і таму баяцца весьці растлумачальную работу. Калі ў гэтым і ёсьць маленькая доля праўды, дык усё-ж трэба сказаць, што ў гэтай часткі асьветнікаў была, і зараз ёсьць, поўная магчымасьць добра азнаёміцца з усімі пытаньнямі колгаснага будаўніцтва. Сярод гэтай катэгорыі асьветнікаў ёсьць і такія, якія аполітычны, стаяць з боку і калі не праяўляюць варожасьці, дык нічога ня робяць для таго, каб быць у першых шэрагах будаўнікоў колгасаў.

Усё-ж трэба сказаць, што за апошні час асноўная маса асьветнікаў ставіць усё вастрэй і вастрэй пытаньне—ці туды, ці сюды. Адмаўленьне асьветніка ісьці ў колгас пачынае разглядацца ня толькі як звычайнае нежаданьне, а як акт, які накіраваны супроць колгаснага будаўніцтва. Мы маем шэраг такіх выпадкаў, калі сама маса асьветнікаў ганьбіць такіх асьветнікаў, і гэта аказвае вялікае выхаваўчае значэньне.

Былі выпадкі і актыўнай „работы“ супроць колгаснага руху варожай нам часткі асьветнікаў. Гэта „работа“ замаскавана. Яна часам хавалася пад маскай савецкай актыўнасьці, а часам прыкрывалася нібы няведаньнем сутнасьці і значэньня колгаснага будаўніцтва. Пры выяўленьні такіх выпадкаў сама асьветніцкая маса неадкладна выключала гэтых варожых элемэнтаў з саюзу і патрабавала зьняцьця з работы. Гэткія выпадкі былі ў Сіроцінскім раёне (Віцебшчына) і ў некаторых іншых раёнах БССР.

Як-жа ставіцца пытаньне аб удзеле ў колгасным будаўніцтве профсаюзнымі органамі і самой асьветніцкай масай?

На ўсіх асьветніцкіх конфэрэнцыях і на сходах ставіцца на абгаварэньне пытаньне аб практычных мерапрыемствах па калгаснаму будаўніцтву. Гэта-ж пытаньне прапрацоўваецца ў асобных мясцох у гуртках і колектывах. У рэзолюцыях, якія ўхваляюцца асьветнікамі па пытаньнях колгаснага будаўніцтва, апрача пунктаў аб практычных мерапрыемствах, ёсьць і пункты, якія абавязваюць асьветнікаў уступаць у колгас.

Трэба адзначыць, што спачатку ў масе асьветнікаў ставілася пытаньне аб уступленьні ў колгасы ў першую чаргу толькі тых асьветнікаў, якія маюць уласную гаспадарку, г. зн. якія, апрача настаўніцтва, займаюцца і сельскай гаспадаркай. Зараз-жа пытаньне ставіцца аб уступленьні ў колгасы ўсіх без выключэньня асьветнікаў. У раёнах суцэльнай колектывізацыі ўжо пачалося пагалоўнае ўступленьне асьветнікаў у колгасы.

Пару месяцаў таму назад сярод асьветніцкіх мас дыскусавалася пытаньне аб становішчы асьветніка ў колгасе. Асьветнікаў цікавілі пытаньні: як будзе з іх заработнай платай, іх узаемаадносіны з колгасам, ці абавязкова ім працаваць па сельскай гаспадарцы. Вельмі цікавала асьветнікаў і пытаньне, што будзе з імі пасьля ўступленьня ў колгас—ці, застануцца яны членамі саюзу.

Бязумоўна, гэта пытаньне патрабуе растлумачэньня з боку вышэйшых профорганаў. Ц.П. саюзу зараз зьбірае матар'ялы, вывучае гэта пытаньне, і пасьля чарговага пленуму ЦК саюзу трэба спадзявацца, што гэта пытаньне будзе вырашана.

Нельга ня спыніцца і на тэй вялізарнай культасьветнай рабоце, якую зараз праводзяць нашы асьветнікі на мясцох. Досыць сказаць, што, па папярэдніх і яшчэ няпоўных вестках з 5 акруг, сярод насельніцтва асьветнікамі за апошнія часы праведзена 1.408 сходаў спэцыяльна па пытаньнях колектывізацыі сельскай гаспадаркі. У некаторых мясцох праводзяцца зборы літаратуры, галоўным чынам сельска-гаспадарчай, для колгасаў. У саміх колгасах організуюцца чырвоныя куткі, праз якія асьветнікі праводзяць работу,

чытаюць лекцыі, наладжваюць консультацыю па розных пытаньнях, праводзяць гутаркі і г. д.

За сродкі, якія сабраны асьветнікамі, набыта для колгасаў 8 складаных сельска-гаспадарчых машын, праводзіцца збор сродкаў на набыцьцё трактараў.

У мэтах лепшага абслугоўваньня колгасаў культасьветнай работаю профорганізацыі бяруць шэфства над калгасамі. Па вестках Ц. П. саюзу, такое шэфства ажыцьцяўляецца над 31 колгасам. Да колгасаў прымацоўваюцца асобныя асьветнікі, якія там застаюцца на вядомы час, організоўваюць у колгасах розныя гурткі і праводзяць у апошніх работу. Такіх гуртмоў, па няпоўных вестках, асьветнікамі організована 34. З гэтай-жа мэтай організоўваюцца і асьветніцкія брыгады Па папярэдніх вестках, сіламі асьветнікаў у колгасах ліквідуецца нят пісьменнасьць 2.299 чалавек колгасьнікаў. Работу ў лікпунктах тормозіць адсутнасьць дапамогі і дрэннае абсталяваньне тых лікпунктаў, якія знаходзяцца ня ў школьных памяшканьнях. Асьветнікамі організавана і індывідуальнае навучаньне колгасьнікаў грамаце. У асобных мясцох для колгасьнікаў організаваны курсы па падрыхтоўцы ў тэхнікумы і рабфакі.

Соцыялістычнае спаборніцтва, якое разгортваецца сярод асьветнікаў, зьяўляецца моцным стымулам для пашырэньня работы па культасьветнаму абслугоўваньню колгасаў. Школы, хаты-чытальні, профколективы і цэлыя раёны ў дагаворы па соцыялістычнаму спаборніцтву ўносяць пункты пра ўдзел у колектывізацыі сельскай гаспадаркі, абслугоўваньне колгасаў і г. д.

---

**ХАЙТУН**

# СЫСТЭМА І ОРГАНІЗАЦЫЯ ПОЛІТАСЬВЕТУСТАНОЎ У РАЁНАХ СУЦЭЛЬНАЙ КОЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

Колектывізацыя ідзе шпаркім тэмпам. Яшчэ 1-2 гады, і ўся Беларусь ператворыцца ў раён суцэльнай колектывізацыі. Гэта прымушае нас пераглядзець ня толькі зьмест політасьветработы, але пераглядзець усю сыстэму політасьветустаноў, організацыю політасьветработы.

Да гэтага сыстэма політасьветработы была наступная: ў населеных пунктах—чырвоныя куткі, затым падраённыя хаты-чытальні, яшчэ вышэй нардом—мэтадычны кіраўнік работай хат-чытальняў і яшчэ вышэй—райполітасьветком—організатар і кіраўнік усёй політасьветработы ў раёне.

Старая сыстэма не падыходзіць для новых форм вядзеньня гаспадаркі, бо, па-першае, яна ня можа задаволіць колькасна ўсё ўзрастаючыя патрэбы працоўнага насельніцтва, аб'яднанага ў калгасы, па-другое, на сцэну выходзіць новы орган—колгассаюз, які мае поўную рацыю ды і павінен кіраваць па сваёй галіне культработаю, па-трэцяе, сама назва хата-чытальня-нардом зьвязана з гаспадаркай індывідуальна і разам з зьнікненьнем індывідуальнай гаспадаркі павінны вырасьці і другія тыпы ўстаноў.

З гэтага мы павінны выходзіць пры распрацоўцы новай сеткі. Нам здаецца, што гэтая сетка павінна адпавядаць наступным правілам, кіруючым органам усяе політасьветработы павінен зьяўляцца Наркамасьветы і яго органы на мясцох, па-другое, уся работа павінна быць пабудована на шчыльнай увязцы з работаю колгассаюзу і мясцовых органаў саветаў і, нарэшце, сетка і організацыя павінна дапамагаць падняцьцю культурнага ўзроўню, організацыі новага быту, клясаваму выхаваньню, выхаваньню чалавека новага грамадзтва, пры чым, зразумела, павінна быць улічана матар'яльная магчымасьць.

Сетка політасьветустаноў шчыльна зьвязана з організацыйнай структурай саміх колгасаў; як відаць, на Беларусі мяркуецца наступная схэма колгасаў: колгас у 5-7 тысяч га, куст у 3-4 колгасы, прыблізна ў 15-17 тысяч гэктараў і, нарэшце, комбінаты, роўныя па тэрыторыі сучасным раёнам. Зразумела, што і куст

і комбінат можа зараз не супадаць тэрыторыяльна ні з сельсаветам, ні з раёнам, але гэта значыць толькі тое, што пасьля колектывізацыі раёнаў патрэбна будзе тэрыторыяльна перараьзмеркаваць сельсаветы і раёны з тым, каб яны супадалі і экономічна і тэрыторыяльна.

Выходзячы з сказанага, трэба застанавіцца на наступнай схэме політасьветустаноў.

Цэнтрам усёй політасьветнай работы павінен зьяўляцца клюб колгасу, які павінен быць організаваны пры кожным колгасе, за яго сродкі ў лік адлічэньняў з культфонду. Кожны колгас організуе ў населеных пунктах чырвоныя куткі або куткі чытачоў, як першапачатковыя ячэйкі політасьветустаноў на мясцох—у залежнасьці ад колькасьці насельніцтва і адлегласьці ад колгасаў. Пры чырвоных кутках могуць быць організаваны гурткі, але гэта будзе залежаць ад адлегласьці ад колгасаў, наяўнасьці жадаючых і культурных сіл, пры чым зразумела, што калі ў наяўнасьці будзе 1 кіраўнік, дык гурток будзе організаваны пры клюбе колгасу.

Пры кожным куставым аб'яднаньні павінен быць організаваны куставы клюб на дзяржаўныя сродкі. Прымаючы пад увагу, што колгасы ўсёж такі будуць абмежаваны сродкамі і што, асабліва ў першыя часы, у нас ня хопіць кваліфікаваных клюбных работнікаў, куставы клюб будзе фактычным організатарам і мэтодычным кіраўніком усёй работы кусту.

Пры кусьце павінна быць організавана і школа колгаснай моладзі, школа для дарослых колгасьнікаў ды 2-3 перасоўкі. Тут-жа павінна быць і бібліотэка, якая будзе задавальняць перасоўкамі колгасы.

Пры раённым комбінаце павінна існаваць агрыкультурная база. Тут павінен быць раённы клюб, накшталт „Дому культуры“ з стацыянарным кіно, стацыянарнай бібліотэкай і перасовачным фондам, якія будуць задавальняць праз куставыя клюбы чырвоныя куткі і колгасы; пры „Доме культуры“ павінна быць і радыё-станцыя, якая зьвязана тэлефонамі з кожным колгасам; пры ім-жа павінна быць школа для дарослых узвышанага тыпу, дзённая школа колгаснай моладзі, курсы па перападрыхтоўцы трактарыстых, культурных работнікаў і інш.

Чаму мы настойваем на гэтай сетцы? Справа заключаецца ў тым, што зараз мы маем 1 дзяржаўную хату-чытальню на 2-3 сельсаветы, і, значыцца, рабіць дзяржаўны клюб пры кожным колгасе, гэта значыць, павялічыць каштарыс у 9 разоў, справа цяжкая. Іншая справа павялічыць сетку ў 2-3 разы, гэта магчыма і патрэбна. Апрача таго, вопыт паказаў, што колгас у 4-5 тыс. гэктараў пры адлічэньні 1 проц. на культпатрэбы бязумоўна зможа ўтрымаць свой клюб на сродкі колгасу.

Як мы ўжо казалі, трэба зьмяніць ня толькі сыстэму, але і самую організацыю політасьветустаноў. Зразумела, што пры гэтым мы павінны выходзіць з таго, каб, з аднаго боку, зьнішчыць паралелізм у рабоце, а з другога, увязаць усю работу такім чынам, каб гэта лепш дапамагала разгортваньню політасьветработы. Мяркуем мы гэта зрабіць наступным чынам.

Пры кожным колгасе ёсьць культкомісія. Яна павінна застацца, і ніякіх новых організацый (клюбны савет) організоўваць ня трэба, бо лішняя організацыя прывядзе да распыленьня сіл і паралелізму ў рабоце Культкомісія павінна складацца з культурных сіл колгасу, актыву, прадстаўнікоў чырвоных куткоў пад старшынствам членаў савету колгасу.

У населеных пунктах пры чырвоных кутках павінен быць выбраны савет чырвонага кутку ў ліку 3-5 чал., а ў гуртку чытачоў—толькі 1 адказны.

Больш складаная справа ў кусьце, бо тут мы маем с.-с. з культурна-асьветнай комісіяй, куставую організацыю колгассаюзу ды яшчэ і райклюб. Мяркуем мы організацыю наступным чынам: адзіным органам, які кіруе ўсёй работаю ў кусьце, зьяўляецца праўленьне клюбу, пад старшынствам загадчыка райклюбу або прадстаўніка колгассаюзу. У склад праўленьня клюбу ўваходзяць прадстаўнікі с.-с. (культасьветная комісія), старшыні культкомісій колгасаў і культурныя сілы кусту.

Што мы гэтым дасягаем? Сельсавет будзе ўвесь час практычна кіраваць работаю, а праз заслухоўваньне справаздач на прэзыдыуме і пленумах будзе ў курсе ўсёй работы і даваць належныя дырэктывы. Колгассаюз таксама зможа ўвязаць і кіраваць усёй работой, гэта значыць мы зьнішчаем паралелізм.

Дом культуры адыгрывае ролю амаль выключна мэтодычнага кіраўніка і таму зьяўляецца такім асяродкам, які будзе прыцягваць да работы ўсіх культурных работнікаў раёну. Яго праўленьне павінна складацца толькі з культурных сіл базы (у тым ліку колгассаюзу і РВК) ды актыву.

Кіраўніком усяе політасьветработы і грамадзкасьці раёну павінен застацца раённы політасьветны комітэт, які арганізоўваецца як сэкцыя РВК, пад старшынствам райінспэктара політасьветработы (гэты штат павінен быць уведзены ў кожным раёне). У склад яго павінны ўвайсьці прадстаўнікі кустоў, прадстаўнікі партыйных, савецкіх и профэсійных організацый раёну (райком КП(б)Б, ЛКСМБ, Жанаддзел, райпрофбюро), а таксама культурныя работнікі райбазы.

Вось схэма і організацыя політасьветработы, якая, па нашай думцы, зьяўляецца найбольш простай і адначасова найбольш адпавядаючай задачам колектывізаванага раёну.

**Рэдакцыя**

заклікае чытачоў выказацца па закранутаму тав. Хайтунам пытаньню.

---

**Колгаснае будаўніцтва немагчыма бяз узмоцненага падвышэньня культурнасьці колгаснага насельніцтва. Савецкія органы, сама калгасная сыстэма, сельска-гаспадарчая ды спажывецкая коопэрацыя і ўся савецкая грамадзкасьць павінны разгарнуць шырокую работу па культурным абслугоўваньні колгаснага насельніцтва, у першую чаргу ў буйных калгасах і ў раёнах суцэльнай колектывізацыі. Узмацненьне дзейнасьці таварыстваў ліквідацыі няпісьменнасьці, бібліотэчнай справы, колгасных курсаў і рознага тыпу завочнага вучэньня, як найбольшы ахоп школьнай сеткай дзяцей, узмацненьне культурнай і політычнай работы сярод жанчын, шырокае разгортваньне школ сялянскай моладзі, масавае пашырэньне агрономічных ведаў, палепшаньне соцыяльна-бытавога абслугоўваньня колгаснага насельніцтва, у асаблівасьці жанчын (організацыя ясьляў, грамадзкае харчаваньне і г. д.)—зьяўляюцца абавязковымі ўмовамі пасьпяховага разьвіцьця колгаснага будаўніцтва. Асабліва важна таксама стварэньне пры міжпаселішчных машына-трактарных станцыях культурных цэнтраў. Самы актыўны ўдзел у гэтай рабоце павінна ўзяць спажывецкая коопэрацыя. Асаблівая ўвага павінна быць аддадзена радыё ды кіно, а таксама організацыі сродкаў сувязі (тэлефон, пошта) і разьвіцьцю дарожнага будаўніцтва ў колгасах. Значна павінна быць узмоцнена абслугоўваньне колгасаў з боку агульнага і спэцыяльнага друку.**

*(З рэзолюцыі лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б)*

# КУЛЬТУРНАЯ СПАДЧЫНА І ПРОЛЕТАРЫЯТ

А. СТАЛЯРАУ

## ДВА ЎХІЛЫ І БАРАЦЬБА НА ДВА ФРОНТЫ

Разьвінаючы ўсяляк барацьбу за соцыялістычную культуру і ідэолёгію, арганізуючы на гэтым фронце паўсюдны і штодзённы адпор уплывам чужых клясаў, нельга, аднак, упадаць у культурнае „комчванства“, у „пролеткультаўскае“ наезьніцтва і забывацца на найпрасьцейшыя задачы прыўлашчваньня тых элемэнтаў культуры, якія створаны ўсім мінулым разьвіцьцём чалавецтва, паколькі яны не супярэчаць соцыялістычным задачам пролетарыяту.

Калі нельга гаварыць пра „культуру наогул“, незалежна ад яе соцыяльнага зьместу, дык нельга гаварыць і пра новую соцыялістычную культуру незалежна ад таго, што ўжо створана „ўсім разьвіцьцём чалавецтва“. „Пролетарская культура“ не вырастае на голым месцы з адных добрых пажаданьняў. Ленін жорстка крытыкаваў тых „пролеткультаўцаў“-багданаўцаў, каторыя мысьлілі, што „пролетарскую культуру“ мажліва ствараць лябораторным шляхам у чатырох сьценах розных студый і спэцыяльных устаноў „пролетарскай культуры“. Маючы на мэце пролеткультаўцаў, Ленін гаварыў: „Бяз яснага разуменьня таго, што толькі дакладным веданьнем культуры, створанай усім разьвіцьцём чалавецтва, толькі пераапрацоўкай яе мажліва будаваць пролетарскую культуру,—без такога разуменьня нам гэтае задачы ня вырашыць. Пролетарская культура не зьяўляецца нямаведама адкуль вынікнуўшай, не зьяўляецца выдумкай людзей, якія называюць сябе спэцыялістымі па пролетарскай культуры. Гэта ўсё глупства. Пролетарская культура павінна зьявіцца законамерным разьвіцьцём таго запасу ведаў, якія чалавецтва выпрацавала пад уціскам капіталістычнага грамадзтва, абшарніцкага грамадзтва, чыноўніцкага грамадзтва“ (Зб. тв., т. XVIII стар. 317)

Вядомы адзнакі, зробленыя Леніным на старонках артыкулу аднаго з ідэолёгаў пролеткульту—В. Плятнёва. Плятнёў піша: „Стварэньне новай пролетарскай клясавай культуры—асноўная мэта пролеткульту“. Супроць гэтых слоў Плятнёва Ленін на старонках артыкулу піша: „Ха-ха!“ Гэтым воклікам Ленін выказвае свае адмоўныя адносіны да гутарак аб нейкім штучным, лябораторным, габінэтным спосабе „стварэньня новае пролетарскае культуры“ спэцыяльна організаванымі для гэтага ўстановамі. Новая культура органічна вырастае ў процэсе агульнага нашага руху да соцыялізму, разам з прыўлашчваньнем і пераапрацоўкай масамі культуры мінулага, у барацьбе з гэтым мінулым, разам з перамогай культуры мінулага. Перамагчы—гэта ня значыць проста „адкінуць“.

„Мы расьціснулі капіталізм,—кажа Ленін у 1919 г.,—але гэтага яшчэ недастаткова. Ад расьціснутага капіталізму сытым ня будзеш; трэба ўзяць усю культуру, якую капіталізм пакінуў, і пабудаваць соцыялізм; трэба ўзяць усю тэхніку, навуку, веды, мастацтва“.

Марксызм сам зьяўляецца „законным насьлядоўцам лепшага, што стварыла чалавецтва ў XIX стагодзьдзі“; марксызм не адкінуў старую навуку, ён стаў на яе плечы, ён „працягвае“ яе работу, крытычна пераглядзеўшы, зразумела, узятую спадчыну. „Гісторыя філёзофіі і гісторыя соцыяльнай навукі,—пісаў Ленін,—паказваюць зусім выразна, што ў марксызьме няма нічога падобнага на „сэктанцтва“ ў сэнсе нейкага замкнёнага, закасьцянелага вучэньня, якое ўзьнікла ў баку ад бальшаку разьвіцьця сусьветнае цывілі-

зацыі. Наадварот, уся геніяльнасьць Маркса заключаецца ў тым, што ён даў адказы на пытаньні, якія перадавая думка чалавецтва ўжо паставіла. Яго вучэньне ўзьнікла як просты і непасрэдны працяг вучэньня найвялікшых прадстаўнікоў філёзофіі, палітычнае экономіі і соцыялізму."[1])

Некаторыя „звыш-марксысты" разважаюць на конт таго, буржуазная ці небуржуазная арытмэтыка: Ленін адносіўся да гэтага, як да балбатні. Ён ведаў, што ёсьць гэтакія элемэнтарныя, найпрасьцейшыя рэчы, як пісьменнасьць, без якіх ні аб „пролетарскай", ні аб якой сучаснай культуры гаварыць нельга.

„Нам-бы для пачатку досыць сапраўднай буржуазнай культуры,—пісаў Ленін.—Нам першае пяцігодзьдзе дастаткова набіла галаву недаверлівасьцю і скэптыцызмам. Мы міжвольна схілены пранікацца гэтай якасьцю адносна тых, хто занадта многа і занадта лёгка развважаюць, напрыклад, аб „пролетарскай" культуры: нам-бы для пачатку досыць сапраўднае буржуазнае культуры, як бы для пачатку абыйсьціся без асабліва махровых тыпаў культур дабуржуазнага парадку, г. ё. культур чыноўнічай, або прыгоннай і г. д."[2])

На IV конгрэсе Комінтэрну Ленін у сваёй прамове гаварыў: „Мы цяпер толькі атрымалі мажлівасьць вучыцца. Я ня ведаю, як доўга гэта мажлівасьць будзе працягвацца, і ня ведаю, як доўга капіталістычныя дзяржавы дадуць нам мажлівасьць вучыцца, але кожны момант, вольны ад баявой чыннасьці, ад вайны, мы павінны выкарыстаць для вучобы... Спрачаюцца аб тым, ці належыць гэта да пролетарскае, ці да буржуазнае культуры. Гэтага я ня ведаю; ва ўсякім разе, я кажу: нам патрэбна перш за ўсё вучыцца чытаць, пісаць і разумець прачытанае".

Такім чынам, Ленін лічыў у корані нягоднымі да прыняцьця агульна-адмоўныя адносіны да ўсяе мінулае культуры чалавецтва. Гэтак-жа ён глядзеў і на агульна-адмоўныя адносіны да носьбітаў старое культуры, да спэцыялістаў, да тэхнічнай інтэлігенцыі і інш. Спэцаедзтва і махаеўшчына, спэцыфічна „анты-інтэлігенцкія" настроі належаць да падобнага, калі хочаце, „ультра-левага" ўхілу ў пытаньнях культуры. Ленін зусім ня лічыў, што культуру соцыялізму мажліва пабудаваць выключна „рукамі рабочых", або што пролетарская ідэолёгія даступна сапраўднаму разуменьню толькі рабочым па пахаджэньню. Над такімі глупствамі Ленін сьмяяўся. Па-першае, просты факт працы на прадпрыемстве і г. д. зусім яшчэ не забясьпечвае для кожнага данага рабочага ўладаньня сапраўды-пролетарскай псыхолёгіяй і ідэолёгіяй. Рабочы, казаў Ленін, ня прыходзіць чысьценькім, ён сам стаіць „па калена ў брудзе" старога сьвету. Сьвядомасьць кожнага асобнага чалавека вызначаецца быцьцём, але быцьцём грамадзкім, а ня толькі „быцьцём" яго сям'і, яго хатніх абставін і інш. Ідэолёг „пролеткульту" Плятнёў пісаў аб тым, што пролетарый ня мае забабонаў, што „тут (г. з. у пролетарыяту) усё ясна і матэматычна дакладна". Супроць гэтых слоў Плятнёва Ленін зрабіў гэткую многазначную адзнаку: „А рэлігія рабочых і сялян?" Тым самым Ленін паказвае на тое, што пролетарыят, як ён ёсьць, зусім не пазбаўлен забабонаў. З другога боку, іншае, не пролетарскае, паходжаньне не асуджае кожнага чалавека на тое, што ён пролетарскую, соцыялістычную ідэолёгію не прыўласьціць ніколі. Соцыялістычная ідэолёгія нават была выпрацавана ў асноўным людзьмі, выхадцамі з іншых клясаў. „Аб самастойнай, самімі рабочымі масамі ў самым ходзе іх руху выпрацоўваемой ідэолёгіі ня можа быць і гутаркі",—пісаў Ленін яшчэ ў „Што рабіць".[1]) Гэта

[1]) Ленін. „Маркс, Энгельс, марксызм", ст. 41. Падкрэсьлена Леніным".

[2]) Ленін. Зб. тв., т. XVIII, частка 2, ст. 116.

[1]) Ленін. Зб. тв., т. V, ст. 148. Зусім зразумела, што буржуазная інтэлігенцыя ў цэлым зьяўляецца носьбітам ідэй буржуазіі гэтак-жа, як пролетарыят у цэлым уяўляе з сябе „далакопа капіталізму". Гутарка ідзе аб паасобных адзінках, сьвядомасьць якіх у поўнай згодзе з усімі законамі гісторычнага матэрыялізму, зусім не абавязкова формуецца іх індывідуальным ці сямейным „быцьцём". Гэта асабліва трэба ведаць махаеўцам. Падзел членаў партыі на „інтэлігентаў" і „рабочых" у махаеўцаў прымае асабліва недарэчны выгляд і даўно ўжо асуджаны партыяй. „Падзяляючы членаў партыі толькі па ступені іх сьвядомасьці, адданасьці, вытрыманасьці, палітычнай сталасьці, рэволюцыйнай спрактыкаванасьці, гатоўнасьці да самаахвяры, партыя змагаецца з усякімі спробамі праводзіць розьніцу паміж членамі партыі па якой-небудзь іншай адзнацы: вярхі і нізы, інтэлігенты і рабочыя, па нацыянальнай адзнацы і г. д.". (З рэзалюцыі Усерасійскай конфэрэнцыі РКП(б), верасень 1920 году. Падкрэсьлена мною—А. С.).

ні ў якім разе ня значыць, што ня можа быць рабочых-тэорэтыкаў. Але гэта значыць, што нельга спрашчаць пытаньня аб адносінах пролетарыяту і выхадцаў з непролетарскага асяродзьдзя да будаўніцтва соцыялістычнай культуры.

У гэтым-жа артыкуле, аб якім вышэй успаміналася, В. Плятнёў выкладае наконт гэтага свае „страшэнна рэволюцыйныя“ ідэі, якія цікавы цяпер толькі тым, як Ленін рэагаваў на іх, робячы адзнакі на старонках плятнёўскага артыкулу. Гэтак, В. Плятнёў пісаў: „Задача будаўніцтва пролетарскай культуры можа быть вырашана **толькі** сіламі самога пролетарыяту, вучонымі, мастакамі, інжынэрамі і г. д., якія выйшлі з **яго** асяродзьдзя“. Ленін у гэтым сказе Плятнёва падкрэсьліў словы: „толькі“ і „яго“, а на баку напісаў: „архіфікцыя“.

Гэтак Ленін аднёсься да сказу аб будаўніцтве пролетарскае культуры **толькі** выхадцамі з рабочага асяродзьдзя.

У другім месцы Плятнёў піша: „Пролетарскі мастак будзе адначасова і мастаком і рабочым; бязьдоньне, створанае паміж першым і другім у буржуазным грамадзтве, зьнікне тады, калі рабочы вылучыць з масы свайго мастака“. Супроць гэтага сказу Ленін каротка піша: „глупства“.

У трэцім месцы Плятнёў кажа аб навуцы, аб „стварэньні новай мэтодолёгіі навуковай творчасьці“. Плятнёў пры гэтым заўважвае: „І першыя крокі па гэтым шляху павінен зрабіць сам пролетарыят“. Ленін падкрэсьлівае ўвесь апошні сказ і зноў піша ўсё тое-ж сьцізлае: „глупства“.

Ці значыць гэта, што культурная рэволюцыя ня справа пролетарскіх (і нават—працоўных) мас? Вядома, не. Масы пасунуліся і пасунуцца яшчэ больш у гэроічны культурны „паход“. Але патрэбна пры гэтым выкарыстаць абодвы „элемэнты“, якія Ленін лічыў патрэбным мобілізаваць на справу будаўніцтва соцыялізму, г. ё. саміх рабочых і „элемэнты ведаў, асьветы, навучаньня, якіх у нас да сьмешнага мала“.

Ленін нападаў на багданаўцаў, „пролеткультаўцаў“ за іх агульную немарксыцкую ўстаноўку, за габінэтнае“ ці за **вузка-цэхавае, абмежаванае разуменьне „пролетарскай культуры“**, па сутнасьці „трэд-юніонісцкае“. Але гэта зусім не азначае, што ніякай пролетарскай культуры ня існуе наогул.

Некаторыя (у тым ліку і Троцкі) стаяць на тым пункце погляду, што нельга гаварыць аб культуры клясаў, трэба гаварыць толькі аб культуры соцыяльных формацый (капіталізму, соцыялізму і інш.). На гэтай падставе адкідаецца мажлівасьць усякай пролетарскай культуры, бо культура соцыялізму бяскласавая.

У гэтых разважаньнях, якія практычна вядуць да капітуляцыі перад культурай буржуазнай, ігноруецца, абыходзіцца такі рашаючы факт, як факт пераходнай эпохі, эпохі дыктатуры пролетарыяту, калі бясклясавая грамада будучага будуецца ў процэсе **заядлай клясавай барацьбы**. У гэтай барацьбе буржуазнай культуры ня можа процістаяць **бясклясавая культура будучага**. Ёй процістаіць баявая клясавая, якая хоць і носіць элемэнты будучага, ідэолёгія, псыхолёгія, культура пролетарыяту. Пролетарская культура **для нашага часу адзіная** з соцыялістычнай культурай, паколькі яна адна носіць у сабе элемэнты соцыялістычнай культуры будучага (колектывізацыя, псыхолёгія солідарнасьці, грамадзкая дысцыпліна працы і інш.) і ўсёй сваёй істотай накіравана на змаганьне за комунізм, супроць капіталізму і супроць спэцыфічна буржуазных, клясавых элемэнтаў капіталістычнай культуры.

---

У адносінах паміж культурай мінулага і культурай будучага, капіталізму і соцыялізму, як і ва ўсякім процэсе разьвіцьця, ёсьць пераемнасьць і барацьба, неперарыўнасьць і разрыў. У аснове ляжыць **пераход** ад аднаго да другога, а значыць разрыў, змаганьне, хоць і з захаваньнем сувязі і пераемнасьці шэрагу істотных элемэнтаў (асабліва дакладных навук, тэхнікі, вытворчых сіл наогул).

На практыцы могуць быць дапушчаны памылкі ў той ці іншы бок: у бок недаацэнкі неабходных элемэнтаў культуры мінулага (напрыклад, у форме спэцаедзтва) або ў бок недаацэнкі адмоўнага з пункту погляду пролетарскай рэволюцыі значаньня буржуазна-клясавых элемэнтаў культуры. Адпаведна гэтаму мажліва

гаварыць аб двох магчымых ухілах у пытаньнях культуры і аб неабходнасьці барацьбы „на два фронты“.

Нельга адмаўляць тое, што ў нас ёсьць элемэнты спэцаедзтва, махаеўшчыны, бытавога і моральнага нігілізму, „ультралевага“ крыўляньня ў пытаньнях мастацтва і г. д. Магчыма ўмоўна назваць гэта „левым“ ухілам у пытаньнях культуры, што, зразумела, ні ў якім разе не адсоўвае правага па сутнасьці, г. ё. дробнабуржуазнага і буржуазнага характару гэтага ўхілу, як і яго пахаджэньня. Разам з тым зусім зразумела, што галоўная небясьпека ў пытаньнях культуры і ідэолёгіі ляжыць у даных умовах у другім: у забыцьці асобных клясавых задач пролетарыяту ў культурным будаўніцтве, ва ўступках элемэнтам буржуазнай клясавай культуры.

Гэты сапраўды правы ўхіл звычайна адрозьніваецца „супакоенасьцю“, забыцьцём элемэнтаў і задач клясавае барацьбы, імкненьнем ня ўмешвацца ў ход падзей. Але „супакоенасьць“ правых ухілістаў зьяўляецца выяўленьнем іх капітулянцтва перад клясавым ворагам, іх боязьні ўступіць у адкрытае змаганьне. Калі правыя не ўпадаюць у перапуд, дык яны сьцешваюць сябе і другіх дасягнутымі посьпехамі, аслабляючы тым самым рэволюцыйную настарожанасьць пролетарыяту і яго партыі.

Нельга, аднак, сьцешваць сябе посьпехамі, нельга забывацца на ворага, на змаганьне, на клясавыя задачы пролетарыяту, нельга паслабляць рэволюцыйнай уважлівасьці. Інакш самыя „посьпехі“ могуць прывясьці да вельмі непажаданых вынікаў. У нас сям-там наглядаюцца гэткія тэндэнцыі. „Пераапрацоўваючы“ чужых нам працаўнікоў навукі, мастацтва, пэдагогаў, выдавецкіх спэцыялістаў і інш., падпарадкоўваючы іх нашаму ўплыву, мы набліжаем іх да сябе, мы падпадаем пад небясьпеку ўзмацніць іх уплыў на нашу работу. Наўкол комуністаў зьбіраецца цэлая армія „падарожнікаў“, якую ня сьлед адпіхіваць, але за якой трэба пільна сачыць. Тут магчыма прывясьці адзін прыклад. Марксызм распаўсюджвае свой уплыў ня толькі на грамадазнаўчыя, але і на прыродазнаўчыя навукі. Але ў той час, як у галіне грамадазнаўчых навук марксызм даўно грунтоўна замацаваў свае позыцыі, стварыўшы праверанныя кадры сваіх вучоных, у галіне прыродазнаўства ўплыў марксызму быў амаль няпрыметны, сваіх кадраў марксыстаў-прыродазнаўцаў мы ня мелі амаль зусім да апошняга часу. У апошнія гады шэраг навуковых працаўнікоў, профэсараў і інш. з ліку прыродазнаўцаў, далёкіх раней ад марксызму, пачаў набліжацца да марксызму, бяручы больш або менш яго тэрмінолёгію і не заўсёды яго сутнасьць. Сам па сабе станоўчы, гэты процэс прывёў, аднак, да таго адмоўнага выніку, што частка марксыстаў-комуністаў у сваю чаргу пачала набліжацца да сьветапогляду падобных вучоных колаў, бяручы іх недастаткова пераваранны „марксызм“. Гэтак, у галіне філёзофіі марксызму ўтварылася плынь мэханічнага або „мэханістычнага“ матэрыялізму, якая адкідае або бярэ пад сумненьне шэраг карэнных палажэньняў матэрыялістычнай дыялектыкі. Бязумоўна, на „мэханістых“ адбіваецца ўплыў тых прыродазнаўцаў, якія прыйшлі ці прыходзяць да марксызму, якія нават пры самым шчырым жаданьні ня могуць гэтак хутка пазбавіцца старых навыкаў чужое дыялектыкі формальна-лёгічнага мысьленьня.

Магчыма прывесьці шэраг выпадкаў, калі комуністы ідуць на повадзе буржуазных спэцыялістаў, профэсараў і інш., бяз крытыкі бяручы іх паказаньні, пераймаючы іх погляды і інш. там, дзе гэта зусім недапушчальна. Гэтак, напрыклад, частка вузаўскіх працаўнікоў, сумесна з буржуазіяй, профэсурай, перашкаджала па сутнасьці тэй рэформе вышэйшае школы, якая была намечана ліпнёўскім пленумам ЦК партыі ў 1928 г., не дапамагала актыўна пераходу на бесьперапынную практыку і г. д. У часе перавыбараў профэсуры 1929 г. частка працаўнікоў брала на сябе няўдзячную і чорную ролю абаронцаў і апякуноў профэсараў-рэакцыянэраў.

Усё гэта такія праявы опортунізму на практыцы, правага ўхілу на практыцы, якія могуць сумяшчацца з галасаваньнем усялякіх рэзолюцый „супроць правых“. Правы ўхіл, опортунізм у пытаньнях культурнага будаўніцтва, як і ў іншых пытаньнях, трэба пазнаваць па справах, а ня толькі па словах. Вельмі нярэдка практычны опортуніст сам шчыра верыць у незаплямленасьць

сваёй комуністычнай рэволюцыйнасьці, а ў сапраўднасьці, ён даўно ўжо „асеў“, „зьмяк“, вядзе пагаджальную лінію адносна буржуазных элемэнтаў, страціў клясавае чуцьцё.

Тэзісы агітпропнарады 1928 г. па дакладу т. Крыніцкага наступным чынам малююць рысы правага опортунізму ў пытаньнях культуры і ідэолёгіі:

„Патрэбнасьць далейшага актыўнага наступу пролетарыяту ў галіне ідэолёгіі, культуры і быту, асабліва ў сувязі з ажыўленьнем контр-атак з боку клясавага ворага, патрабуе выразнае клясавае лініі ў рабоце комуністаў на культурным фронце.

Між тым, у шэрагу комуністаў, якія працуюць у галіне культуры і ідэолёгіі, заўважаецца „прытупленьне комуністычнай дбайнасьці і рэволюцыйнага чуцьця ў адносінах клясавых ворагаў“, якое няўхільна вядзе да скажэньня лініі партыі.

Гэтыя асобныя скажэньні партыйнай лініі выцякаюць з антырэволюцыйнага і опортуністычнага ўяўленьня аб культурнай рэволюцыі, як аб „спакойным“, пазаклясавага змаганьня і супярэчнасьцяй, процэсе агульнага культурнага ўздыму, з неразуменьня другое часткі ленінскага палажэньня аб неабходнасьці пераробкі буржуазнай культурнай спадчыны, інакш кажучы, прыводзіць да „земскага“ пункту погляду ў пытаньнях культуры і ідэолёгіі.

Гэта памылковая лінія азначае—у адносінах да зьместу культурнай работы—адрыў масавай работы ад задачы комуністычнай асьветы мас („апалітычнасьць“) і мобілізацыі мас наўкола практычных пытаньняў будаўніцтва соцыялізму, раўненьне на „даваенны ўзровень“ культуры, някрытычныя адносіны да старой культурнай спадчыны (агульнае прыняцьце старых клясыкаў, ідэалізацыі талстоўшчыны і г. д.), неахайныя адносіны да пытаньняў тэорыі і ідэолёгічнай барацьбы, прымірэнчыя адносіны да буржуазных і дробнабуржуазных перажыткаў, падначаленьне буржуазнай і дробнабуржуазнай інтэлігенцыі замест крытычнай вучобы ў яе і кіраўніцтва ёю і гэтак далей.

Скажэньне клясавай лініі ў галіне культурнага будаўніцтва ў адносінах соцыяльнага ахопу насельніцтва прыводзіць да пасыўнасьці ў выкананьні ра-шаючае задачы культурнай рэволюцыі—абслужыць культурнай работай у першую чаргу рабочую клясу і надзвычайна адсталыя ў культурных адносінах батрацкія і бядняцкія пласты вёскі (паслабленьне актыўнай лініі клясавага адбору вучняў у школе, раўненьне ў мастацтве на „тоўстыя кашалькі“ і г. д.).

З гэтакімі скажэньнямі клясавай лініі патрэбна самая рашучая барацьба з боку партыйных організацый“.

Што такое правы ўхіл наогул?

„Правы ўхіл у комунізьме, ва ўмовах савецкага разьвіцьця, дзе капіталізм ужо скінуты, але дзе яшчэ ня вырваны яго карэньні, азначае тэндэнцыю, нахіл аднэй часткі комуністаў, праўда, неафармлены і, мажліва, яшчэ не ўсьвядомлены, але ўсё-ж нахіл да адыходу ад генэральнае лініі нашае партыі ў бок буржуазнай ідэолёгіі“ (Сталін. „Прамова на пленуме МК і МКК“).

Гэты адыход у бок буржуазнай ідэолёгіі можа зьдзяйсьняцца, між іншым, у форме адмаўленьня ад усякай „ідэолёгіі“, „тэорыі“ і г. д. Гэткі вузкі практыцызм, дзяляцтва некаторых працаўнікоў, якія лічаць, што яны займаюцца „справамі“, з гэтай прычыны ім няма часу „тэорэтызаваць“, думаць аб „высокай політыцы“ і г. д. Тэорыя і ідэолёгія гэта, маўляў, справа тэорэтыкаў, а мы—практыкі.

У сапраўднасьці ўсякая практыка абапіраецца на тую ці іншую ідэолёгію, служыць тэй ці іншай політыцы, толькі, можа быць, несьвядома і значыць вельмі дрэнна. Такое дзяляцтва на практыцы зьяўляецца рознавыгляднасьцю опортунізму, адзнакай ці праяўленьнем адыходу ад выразнай прынцыповай політычнай і ідэолёгічнай лініі бальшавізму. На тым жа пленуме МК і МКК т. Сталін гаварыў з прычыны выступленьня аднаго працаўніка: „Я зусім разумею т. Фрунтава, які да таго заклапочаны штодзённай практычнай работай, што яму няма калі думаць аб пэрспэктывах нашага разьвіцьця. Але гэта яшчэ ня значыць, што мы павінны вузкі і дзелавы практыцызм некаторых партыйных працаўнікоў абярнуць у догмат нашага будаўніцтва“.

Вузкаму дзяляцтву ў практыцы адпавядае „паўзучы эмпірызм“, суб'ектывізм і прагматызм у тэорыі і філёзофіі.

Эмпірызм, „філёзофія факту“—гэта сапраўды буржуазная філёзофія, буржуазная мэтодолёгія. На жаль, яна мае сякоетакое распаўсюджаньне і сярод нашых тэорэтыкаў і практыкаў.

Такім чынам, змаганьне на „два фронты“ гэтак-жа неабходна ў пытаньнях ідэолёгіі і культуры, як і ў пытаньнях політыкі.

Змагаючыся з правым ухілам у пытаньнях культурнага будаўніцтва, ня трэба разам з тым упадаць у „левае дзяцінства“. Вядома, аб „лявізьне“ ўхілаў у гэтай галіне трэба гаварыць ня менш умоўна, чымся ў пытаньнях агульна-палітычных. „Махаеўшчына“, напрыклад, зусім не зьяўлялася ў партыі адзнакай бальшавізму і раней.

Справа, аднак, ня ў назьве. Важна ў даным выпадку тое, што менавіта ўхіл, які выражаецца ў забыцьці задач клясавай барацьбы ў галіне культуры і ідэолёгіі, зьяўляецца ў даны момант больш небясьпечным, больш актуальным. Змагацца-ж даводзіцца „на два фронты“ з усімі і ўсялякімі скажэньнямі сапраўднае ленінскае лініі ў пытаньнях культбудаўніцтва. Бяз гэтага нельга правільна разабрацца ў нашай сучаснай сапраўднасьці, каб на яе ўплываць.

**КОНЕ-ЛІСАЎ**

# ПРА „ГІСТОРЫЗМ“ У ВЫКЛАДАНЬНІ МАСТАЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Нябывалы, рашучы, рэволюцыйны тэмп жыцьця нашага часу—шпаркі пераход ад адбудоўчага да рэконструкцыйнага пэрыоду, бяз жалю і аглядкі ламае старыя формы быцьця і пазнаньня.

У гэтай напружанай завірусе соцыялістычнага будаўніцтва і клясавай барацьбы зьявы жыцьця настолькі актывізаваны, што тыя, хто яшчэ не пасьпеў разьлічыцца з старым спосабам мысьленьня, выхаваным на прынцыпах старой формальнай лёгікі, адстаюць ад жыцьця, яны ня здольны сваімі старымі меркамі зьмерыць тэмп і зьмест новага сучаснага буйнага жыцьця, іх сьвядомасьць адстае ад быцьця.

Тэмп соцыялістычнага будаўніцтва так узрос, што тое, што год таму назад меркавалася будаваць пяць год, сёньня мы высоўваем жыцьцём апраўданыя лёзунгі: „даёш пяцігодку за чатыры гады“. Лепшым довадам гэтага могуць служыць нашы дасягненьні ў галіне перабудоўлі сельскай гаспадаркі.

Увесь грандыёзны тэмп гаспадарчага росту, гэта бурная рэволюцыя цягне за забою з адпаведным тэмпам і рашучасьцю культурную рэволюцыю: пераапрацоўку псыхолёгіі людзей і ўзброеньне іх пролетарскай культурай, прыстасаваньне людзкога матар'ялу да новых умоў і задач сёньняшняй клясавай барацьбы і соцыялістычнага будаўніцтва.

Тэмп соц. будаўніцтва ва ўмовах напружанай клясавай барацьбы нямысьлімы без адпаведнага тэмпу і перамог на франтох культурнай рэволюцыі.

Павінна быць усім відавочна, што нельга гаварыць аб мастацтве як такім (у тым ліку і чыстых літаратурных задачах), аб гісторычным як гісторычным, нельга і шкодна разглядаць мастацтва бяз сувязі з культурнай рэволюцыяй, бяз сувязі з сучаснымі задачамі і мэтамі пролетарыяту.

Каб давесьці, што справа ў нас стаіць у галіне мастацтва і карыстаньня ім зусім інакш, трэба праглядзець нашы „гісторыі“, „тэорыі“ і „навучальныя програмы“ хаця-б мастацкай літаратуры, але гэта будзе зроблена ніжэй. Паспрабуем азначыць месца мастацкай літаратуры ў нашай сёньняшняй клясавай барацьбе і соцыялістычным будаўніцтве.

Ленін на 3-м зьезьдзе К. С. М. у 1920 годзе казаў: „каб перайсьці да комунізму, трэба вучыцца комунізму“, і далей т. Ленін адзначыў:

„Яно (маладое пакаленьне) можа вучыцца комунізму, толькі зьвязваючы кожны крок свайго вучэньня, выхаваньня

і адукацыі з нясупыннай барацьбой пролетарыяў і працоўных супроць старога эксплёататарскага грамадзтва“.

Адсюль выцякае, што сёньня трэба бязьлітасна бічаваць тую літаратуру і яе дзеячоў, якія адмяжоўваюцца ў сваёй рабоце ад сёньняшніх задач культурнай рэволюцыі, якія мараць аб „агульна-чалавечых мотывах“, рашуча змагацца з „эстэтуючай буржуазіяй“, з рознага роду „пролетарскімі (!) романтычнымі стылямі“, нац. дэмократычнымі плынямі і г. д.

Мастацкая літаратура, як магутны рэволюцыянэр псыхікі чалавека, побач з марксыцкай навукай, павінна быць баявым атрадам культурнай рэволюцыі, якая органічна зьвязана з соцыялістычным будаўніцтвам і клясавай барацьбой пролетарыяту ўсяго сьвету.

Як-жа ў сувязі з гэтым мы павінны карыстацца старой буржуазнай літаратурай?

Наша эпоха барацьбы і будаўніцтва, тэмпы жыцьця робяць з нас не пасыўных сузіральнікаў жыцьця, а актыўных перабудоўшчыкаў яго. Вось чаму адказам на гэта пытаньне будуць, бясспрэчна, верныя вывады нябожчыка марксыцкага літаратуразнаўцы В. Ш. Фрычэ, які казаў:

„Мінулае не павінна і ня можа займаць нас, як мінулае. Яно ня мае для нас самагоднага значэньня. Мы не пасэісты, а людзі сучаснасьці, не сузіральнікі, а практыкі. Навука для нас толькі сродак організацыі жыцьця. Праў адзін аўтар, кажучы: чым быў Пушкін для дваранства—пытаньне цікавае для пасыўнага гісторычнага сузіраньня, але чым ён зьяўляецца для нас у нашай перабудове культуры — пытаньне актуальнай практыкі“. „На абавязках марксыста-мастацтвазнаўцы ляжыць ня толькі растлумачваньне стыхійнай ролі стыляў мастацтва, але і іх прыгоднасьць для культурнага будаўніцтва пролетарыяту“. „Веды разьвіцьця і законаў стыляўтварэньняў,—піша далей Фрычэ, - гісторыя і соцыолёгія стыляў, для нас толькі падсобны сродак, каб, з аднаго боку, лепш і лягчэй разабрацца ў літаратурнай сучаснасьці, у барацьбе літаратурных кірункаў сёньняшняга дню, з другога—каб беспамылкова вырашыць пытаньне аб літаратурным стылі, новай пануючай, але яшчэ маладой клясы. Пасьля рэволюцыі палітычнай—рэволюцыю культуры, якая цяпер утварае яе працяг і завяршэньне“ (падкр. намі—К.-Л.).

„Гісторызм“ нам патрэбен ня ўвесь і пры тым не як самамэта, а як сродак правільнага, усебаковага, найхутчэйшага зразуменьня „сучаснага“, каб, добра ведаючы сучаснасьць, можна было заглянуць у „будучае“, з найменшымі памылкамі адшукоўваць, намячаць шляхі далейшай барацьбы сусьветнага пролетарыяту і ўзмацняць тэмпы пабудовы соцыялізму.

А як жа, фактычна, стаіць у нас справа з вывучэньнем „старой“ літаратуры?

Зараз мы фактычна бяз гісторыі беларускай літаратуры як марксыцкай навукі. Працы М. Гарэцкага, Ул. Дзяржынскага і проф. Піотуховіча пабудаваны на 0,9 па старых буржуазных мэтадах, з адпаведнымі мэтавымі ўстаноўкамі і вывадамі і на 0,1 па „марксыцкай фразэолёгіі“.

Кніжка Гарэцкага (4 выд.) складаецца з 240 старонак, з якіх на „пасьлякастрычнікавы“ пэрыод адводзіцца 13 старонак; як бачым ужо з гэтых суадносін, мінулае Гарэцкаму больш блізка за сучаснае, Гарэцкі скарыстоўвае „сучаснасьць“ для вывучэньня і ідэалізацыі „гісторычнага“.

У сваёй „Гісторыі (!) беларускае літаратуры“ Гарэцкі распрацоўвае такія актуальныя (?!) тэмы:

„Беларускія (літоўскія) кронікі“ (XV-XVI-XVII век).

„Фёдар Еўлашэўскі і яго запіскі“.

„Прамова Мялешкі“,

„Паўлюк Бахрым“, „Павел Шпілеўскі“ і шэраг інш. чыста гісторычных тэм. Бязумоўна, нам патрэбны і такія тэмы ў некаторых працах, але ў такой, якую Гарэцкі ў сваёй прадмове называе:

„Гэта была адзіная больш-менш поўная і сыстэматычная гісторыя беларускай літаратуры, напісаная пабеларуску, і таму яна павінна была абслужваць і настаўнікаў ды вучняў розных школ і быць справачнікам для кожнага грамадзяніна“,—у такой кніжцы трэба было даць „вучню і кожнаму грамадзяніну“ ня толькі гісторычныя даведкі, але і

вывады, ацэнку ўсяго гісторычнага ў сувязі з сучасным і ня толькі гісторычнае, а і сучаснае.

Гарэцкі прапануе сучасным вучням і ўсім грамадзянам вывучаць мінулае, як такое. Ён гэтым адрывае свайго чытача ад сучаснасьці і імкнецца зрабіць яго не актывістым, перабудоўшчыкам жыцьця, а пасыўным сузіральнікам „мінулага“.

Мала гэтага, Гарэцкі ў сваіх аналізах падмяняе „социяльнае“ на „нацыянальнае“.

Усім вядомы твор Дуніна-Марцінкевіча „Гапон“, дзе ідэалізуецца панства, прыгон, дзе Д. Марцінкевіч яскрава выступае як абаронца паншчыны і для гэтага сьцірае клясавую розьніцу паміж панам і мужыком. Вось невялічкія прыклады:

„Як родны бацька быў ён (пан)
для чэлядзі.
Любілі яго ў цэлай грамадзі“
або:
„А пані—ня пані, маці
Маўляў, роднаму дзіцяці
Прыгожы пасаг дала,
Радасну сьлёзку ўраніла,
Маладых благаславіла,
Сама к вянцу павяла“.
(гл. „Гапон“).

Твор, дзе паны апяваюцца, як родныя бацькі прыгонных сялян, дзе социяльная крыўда ўскладаецца не на паноў, а на кепскі характар падпанкаў-аконамаў, Гарэцкі ацэньвае так:

„Повесьць „Гапон“ зьяўляецца лепшым і найбольш характэрным творам Марцінкевіча (падкр. намі.—К.-Л.). Тут далей разьвязваецца тая-ж тэндэнцыя, што і ў „Сялянцы“, але напісана повесьць з большым мастацтвам і толькі на беларускай мове (падкр. намі.—К.-Л.). Аўтар у гэты час карыстаўся ўсімі ўцехамі спакойнага, здаволенага, жыцьця. Але навокал ён бачыў (?) розныя крыўды ўжыцьці прыгоннага сялянства (і ўскладаў гэтыя крыўды на аконамаў.—К.-Л.) і яму як чалавеку па натуры добраму і справядліваму (?!) хацелася, як калісьці Чачоту, „Каб усім было добра“ (паном і сялянам—таму Марцінкевіч і „добры“ і „справядлівы“ па Гарэцкаму.—К.-Л.). З другога боку, маючы ў натуры (?) многа вясёласьці, жартаўлівасьці, ён ня мог так засмуціцца, як Чачот, а яго асабістыя радасьці панскага жыцьця заміналі яму глыбей праняцца цярпеньнем прыгоннагалюду ,і вось повесьць „Гапон“ твор вясёлы, жыцьцярадасны (а ці адпавядае яна сапраўднасьці, дзе яе мастацкая праўда, акрамя буржуазнай хвальшы і хлусні, т. Гарэцкі?), мастацкі там, дзе аўтар апісвае павярхоўнае харство жыцьця, і слабы (а мо‘ яскрава варожы, т. Гарэцкі) ў разьвязваньні социяльных пытаньняў“. (Усё падкр намі. К.-Л.). Глядзі яго кніжку, стар. 123, 4 выд.

Прачытайце ўважліва і іншыя гісторычныя тэмы, „распрацаваныя“ ў кнізе Гарэцкага, зьвярнеце ўвагу на ацэнку „нацыянальна-адраджэнцкай літаратуры пасьля рэволюцыі 1905 г.“,—вы і тут знойдзеце не сапраўдную, марксыцкую ацэнку мінулага, а падхварбованае фальшывасьцю замілаваньне мінулым, як такім; і гэты падручнік, пасьля ўсяго гэтага, прапануецца „для абслугоўваньня настаўнікаў ды вучняў розных школ і быць справачнікам (!) для кожнага грамадзяніна“ (з прадмовы).

Вялікія, тоўстыя і дарагія па цане „Выпісы з беларускае літаратуры XIX і XX ст.“ Дзяржынскага маюць вельмі танную („тонкую“) і малую каштоўнасьць па зьместу, хаця, параўнаўча з кнігай Гарэцкага, гэта праца меней шкодная.

Разьбяром апошняе (другое) выданьне гэтай кнігі.

Першае, што кідаецца ў вочы, гэта заўвагі Дзяржынскага да паасобных твораў. Іх можна было не рабіць зусім, тады-б гэта былі самыя звычайныя выпісы старога пашыбу, а калі Дзяржынскі пажадаў крыху ацэньваць літаратурны матар‘ял, дык трэ‘ было ў сваіх ацэнках і заўвагах займацца меней апісаньнем твораў, а болей іх аналізам, бо мала зьмясьціць твор у кнізе, трэба ацаніць яго социяльную і мастацкую каштоўнасьць і трэба зрабіць вывады з ацэнкі, бо гэта кніга прызначаецца для школы, а ў нас далёка ня ўсе настаўнікі самастойна, без дапамогі крытыкі, могуць так. як трэба, ацаніць твор. Без об‘ектыўнай марксыцкай ацэнкі твору ў школе могуць панаваць бязьмежныя, featured разнакаляровыя „пункты поглядаў“ і „вывады“, часамі шкодныя для нашага комуністычнага выхаваньня і адукацыі.

Разглядаючы „Энэіду навыварат“, Дзяржынскі толькі ў форме заўвагі, і пры тым аднабокай, зазначае, калі і кім напісана поэма, прызнае, што „поэма дае сапраўдную (?) характарыстыку тагочаснага жыцьця“, і, не абгрунтаваўшы робіць вывад: „Энэіда навыварат“ мае вялікае бытавое і нацыянальнае (?!) значэньне“, а ў чым конкрэтна яе соцыяльная каштоўнасьць, яе бытавое і нацыянальнае значэньне, – аб гэтым ні гуку. Мы маем тут і такую заўвагу: „Поэма напісана прыгожаю моваю з усходнімі беларускімі асаблівасьцямі“, а ў чым яе прыгожасьць?—зноў ні гуку. Няведама, каму верыць—ці Дзяржынскаму, ці Піотуховічу, які кажа: „асаблівых мастацкіх каштоўнасьцяў яна (Энэіда) ня мае: мова яе перасыпана дыялектызмамі, якія патрабуюць спэцыяльнага тлумачэньня; часта трапляюцца вульгарныя звароты“ і інш.

Такія ж заўвагі, з павярховымі голымі сьцьвярджэньнямі бяз фактаў і довадаў мы маем і пры разглядзе „Тарас на Парнасе“.

Пры разглядзе далейшых тэм паказаныя недахопы крыху компэнсуюцца пастаўленымі ў канцы кожнага твору контрольнымі пытаньнямі, але ў пабудове пытаньняў мы знойдзем і ў Дзяржынскага нахіл вучыць у савецкай школе гісторызму, як такому. Такіх пытаньняў як: „навошта мы вывучаем гэты твор“ або: „чым карысьцен гэты твор для сучаснасьці, для клясавай барацьбы пролетарыяту з буржуазіяй“, такіх тэм мы ня знойдзем, бо ў гэтай кнізе зьмешчаны такія творы, у якіх з мікроскопам не адшукаеш карысьці для сучаснасьці, для барацьбы, для культурнага будаўніцтва пролетарыяту. Ну, хоць бы ўзяць такія тэмы: „Энэіда“, творчасьць Баршчэўскага, у прыватнасьці верш „А чымжа твая, дзевунька, галоўка забіта“, „Нячысьцік“ Рыпінскага, некаторыя творы Чачота і Ядвігіна Ш. і інш.

Аб „Новай зямлі“ Коласа ён піша: „Змаганьне Міхала за ўласную зямлю сымболізуе змаганьне беларускага працоўнага народу (падкр. намі—К.-Л.) таго народу, які на працягу сталецьцяў ня меў свае айчыны, які быў чужым у гэтай айчыне“. Дзяржынскі далей верна констатуе, што гэты твор „мае вялікую органічную сувязь з беларускай літаратурай нашаніўскай пары“, а вось што гэта за „нашаніўская літаратура“ і „нашаніўская ідэолёгія“, і які ўплыў зрабіла нашаніўская літаратура на сучасную літаратуру—вось гэтага галоўнага і няма ў Дзяржынскага.

Пры характарыстыцы нашаніўцаў Дзяржынскі ня выявіў сапраўдны ідэолёгічны твар „Нашае Нівы“ і яе дзеячоў.

Ён лічыць „нашаніўцаў“ новым тыпам народнікаў, якія былі інтэлігентамі з глебы працоўнай (!?), ён ня робіць тут агаворкі, што ў працы нашаніўцаў прымалі актыўны ўдзел беларускія памешчыкі і буржуазія; ён не ўпамінае тут, чамусьці, што з самага першага нумару газэта: „Наша Ніва“, навакол якой групаваліся гэтыя „новыя народнікі“ з „прылажэньнем“, абвясьціла сябе выразна нацыянальна-дэмократычным, буржуазным, а не працоўным органам (хоць і была тут вясковая інтэлігенцыя).

Вось што мы знаходзім у першым нумары газэты:

„Ня думайце, што мы хочам служыць ці паном, ці адным мужыком. Не, ніколі не. Мы будзем служыць усяму беларускаму пакрыўджанаму народу; пастараемся быць люстрам жыцьця, каб ад нас, як ад люстра (?), сьвет падаў у цёмнасьць. Мы будзем старацца, каб усе беларусы (падкр. намі—К.-Л.), што ня ведаюць, хто яны ёсьць, зразумелі, што яны беларусы і людзі, каб пазналі свае правы і памаглі нам у нашай рабоце“.

Проф. Піотуховіч піша, што „Наша Ніва“ вялікую ролю адыгрывае ў разьвіцьці беларускай літаратуры, у справе групаваньня навакол сябе і выхаваньня новых літаратурных сіл. Так, яна выхавала наша цэльнае пакаленьне нац.-дэмократаў, з якімі яшчэ і сёньня барацьба ў разгары. Прачытайце заяву аднаго з выхаванцаў гэтай „нашаніўскай“ школы Ц. Гартнага, дзе пішацца:

„Гэтыя мае памылкі не зьяўляюцца бяспрычыннымі, самі собой народжанымі. Яны ёсьць продукт тых настрояў, якія пераняліся мною ад доўгачаснага нац.-дэмократычнага акружэньня мяне ў маёй рабоце. Яны таксама мелі сваё паглыбленьне ад недастатковасьці маёй сувязі з рабочымі ды сялянскімі гушчамі. Пачынаючы з так званага нашаніўскага

пэрыоду, праз беларускую соцыялістычную грамаду я быў шчыльна зьвязаны з дробна-буржуазнымі плынямі ў беларускім руху. Гэтыя плыні моцна націскалі на мяне, прытупляючы мае рэволюцыйныя пролетарска-клясавыя настроі і імкненьні, падпарадкуючы іх агульна-беларускім, па сутнасьці сваёй нацыяналдэмократычным поглядам" (падкр. намі—К.-Л.). (Гл. „Зьвязду", ад 20 сьнежня).

Вось дзе сапраўдны твар „нашаніўцаў", вось з чаго трэба пачынаць ацэнку нашаніўскай літаратуры, а не з ідэолізаваных Дзяржынскім настрояў нашаніўцаў. Дзяржынскі замазвае нашу клясавую барацьбу ў нацыянальным беларускім руху, кажучы:

„Зашумелі віхры, загудзелі. Прышла на сьвет вялікая соцыяльная рэволюцыя. Частка беларускіх адраджэнцаў адразу пазнала яе і кінулася ў яе рэчышча на барацьбу за вызваленьне соцыяльнае і нацыянальнае ўсяго сьвету, а разам з тым і Беларусі. Другая частка, ня бачачы за клясава-інтэрнацыянальным яе зьместам, зьместу нацыянальнага, яшчэ прыглядалася (да зручнага выпадку—К.-Л.) да яе на працягу некалькіх год. Цяпер і яна ўвайшла ў яе рэчышча (значыцца, на „Шыпке" ўсё спакойна.—К.-Л.). Беларускі адраджэнцкі рух зрабіўся аднэй з складаных частак сучаснага вялікага руху соцыяльнай рэволюцыі, каторая вызваляе пролетараў і сялян, з аднаго боку, і прыгнечаныя народы, з другога боку, каторая змагаючыся наогул з капіталізмам, змагаецца разам з тым і з вышэйшаю яго формаю—імпэрыялізмам" (стар. 87, падкр. намі—К.-Л.).

Па-першае, што можа быць больш заблытана, чым гэты аляпаваты вывад? Па-другое, з гэтага „крытычнага брэду" выцякае, што нашаніўскія нац.-дэмократы нічога дрэннага не рабілі і ня робяць, падумалі „на працягу некалькіх год", а потым „бясшкодна" ўліліся ў агульнае пролетарскае рэчышча. А як нашаніўцы прынялі Кастрычнік? А як сам нашанівец Гартны ацэньвае дзейнасьць нашаніўцаў? Дзяржынскі, бачыце, забыўся на гэта, ён ма быць ня ведае, што соцыяльная рэволюцыя змагаецца ня толькі з імпэрыялізмам, а і з нац.-дэмократызмам, які яшчэ не дабіты канчаткова.

Што датычыцца „Нарысаў гісторыі беларускай літаратуры" проф. Піотуховіча, то лічу непатрэбным паўтараць тут ранейшыя довады крытыкі, якая прызнала гэту працу, як скажэньне марксыцкага мэтаду ў пэрыодызацыі літаратуры і ў мэтадзе дасьледваньня літаратурных твораў.

Я ня буду застанаўлівацца на „тэорыях беларускай літаратуры", паколькі гэта непасрэдна не ўваходзіць у задачы мае тэмы, а паспрабую разглядзець нашы навучальныя програмы: наколькі яны задавальняюць патрэбы сёньняшняга комуністычнага выхаваньня і адукацыі, наколькі яны прыстасаваны да задач падрыхтоўкі кадраў.

Калі ўзяць навучальныя програмы па мастацкай літаратуры ў сямігодках, профшколах, с.-г. і індустрыяльных тэхнікумах, дык мы тут убачым, што гэта за „актуальнейшыя" (?) тэмы, на распрацоўку якіх траціцца народныя сродкі, сілы, час у профшколах, індустрыяльных і інш. навучальных установах.

„Водгукі псэўда (!) клясыцызму", „сэнтымэнталізм", „романтызм", „рэалізм", і толькі ў самым кончыку програмы мы знаходзім вельмі скромнае месца і для „літаратурнай сучаснасьці".

Праглядзеце кніжку Піотуховіча, вы пераканаецеся, што гэтыя тэмы ўзяты бяз усякай апрацоўкі з гэтай кніжкі. Што-ж нарэшце даюць карыснага і патрэбнага гэтыя „псэўдаклясыцызмы", „сэнтымэнталізмы", „фэодалізмы" і інш. „ізмы"? А вось што даводзіцца: калі былі напісаны „Тарас на Парнасе", „Энэіда навыварат", „хто іх аўтары, адкуль гэтыя аўтары", што лепшае—„Тарас на Парнасе" ці „Энэіда навыварат".

Ня ўздумайце вініць тут настаўніка; вывучаючы гэтыя тэмы, соцыяльна-карыснага тут днём з агнём ня знойдзеш, бо „соцыяльная каштоўнасьць твору „Тарас на Парнасе" ня высокая; ў ім малюецца не сапраўдная сялянская рачаістасьць часоў паншчыны, а рачаістасьць, прапушчаная скрозь прызму шляхецкай сьвядомасьці" (Піотуховіч, стар. 38). Далей: „Беларуская „Энэіда навыварат" захоўвае для нас не сваё мастацкае значэньне, але выключна значэньне гістарычнае" (там-жа, стар. 32, падкр. намі.—К.-Л.).

Пры вывучэньні „рамантызму“ і тут пасьля доўгай працы з вучнямі зноў прыходзіцца рабіць вывад, які будзе падобен на частку вываду Піотуховіча:

„ .... гэта дзейнасьць (Рапінскага), калі разглядаць яе ў гістарычна-літаратурным аспэкце, мае бязумоўную (?) вартасьць, паколькі яна зьяўляецца продуктам рамантычнай зацікаўленасьці, галоўнай адзнакай (?) беларускай народнасьці“ (там-жа, стар. 44, падкр. намі. К.-Л.).

Новая Амэрыка, адкрытая праф. Піотуховічам.

Разьбіраючы далейшыя тэмы па програме, мы маем такое-ж самае вывучэньне гісторызму, як такога (асабліва, калі будзем карыстацца памянёнымі падручнікамі). Вось як ацэньвае іх Піотуховіч: „Там, дзе патрэбны быў востры меч, які-б адразу расьсек заблытаны гордыеў вузел (!) соцыяльных супярэчнасьцяй, яны (Баршчэўскі, Чачот і інш.) выстаўлялі нікчэмныя дзіцячыя дроцікі дыдактызму“ (стар. 57).

Пры тых умовах, калі на літаратуру адводзіцца вельмі мала часу (1-2 гадзіны ў тыдзень), калі пры праводжаньні сыстэматычнага курсу ўсіх па парадку буржуазных, гісторычных нябыліц мы адрываемся ад сучаснай літаратуры, ад сучаснага будаўніцтва пролетарскай культуры, калі замест таго, каб, вывучаючы літаратуру, як фактар сёньняшняга культурнага будаўніцтва, мы навучалі-б нашу моладзь і мэтадам самастойнай работы над кніжкай і з кніжкай,—мы фактычна вывучаем усе гэтыя „гордыевы вузлы“ і гісторычныя „дроцікі дыдактызму“. Трацім гэтак-жа дарэмна сродкі, сілы, час, як трацілі яго калісьці софістыя, вырашаючы зьмест контрольнага пытаньня Дзяржынскага: „Дзе больш удала замалёваны народны быт—у гэтай поэме („Тарас на Парнасе“) ці ў „Энэідзе“? Такія проблемы, як „які нуль круглей“, або „колькі анёлаў сядзе на кончыку голкі“.

Сказанае датычыцца і програм і некаторых падручнікаў па расійскай літаратуры. Мы і тут знаходзім у програмах: „Эпоха средневекового феодализма“, „Русская аристократия эпохи нарастания торгово-промышленного капитализма“ шэраг іншых „гісторычных“ тэм, у той час, як за 2 гады прахаджэньня літаратуры з сучаснай літаратуры па програме профшкол і с.-г. тэхнікумаў узяты толькі 6 пісьменьнікаў: Нявераў, Серафімовіч, Лебядзінскі, Шадкоў, Клюеў і Гасьцеў.

Як бачым, усе програмныя гісторычныя „ізмы“ як у беларускай, так і ў расійскай літаратуры ня ўвязаны з сучаснымі, з такімі „ізмамі“, як нац.-дэмократызм, шовінізм, рэлігія, бюрократызм (не чапаючы ўжо футурызмы, імпрэсыонізмы і інш., сутнасьць якіх таксама трэба ведаць сёньняшняму чалавеку, як зьявы сучаснасьці). Такім чынам, мы, вывучаючы „мінулае“, як такое, зьяўляемся не актыўнымі перабудоўшчыкамі сёньняшняга жыцьця, а, як гэта сьведчаць факты, пасыўнымі сузіральнікамі „мінулага“, гэтаму спрыяюць нашы навучальныя програмы, нашы падручнікі, ня гледзячы на тое, што для вялікага соцыялістычнага будаўніцтва патрабуюцца ня „веды наогул“, а конкрэтныя, усебаковыя, глыбокія веды, як дабіць сусьветную буржуазію і пабудаваць соцыялізм.

**Як-жа мы павінны скарыстоўваць „старое“ для пабудовы новага?**

Ленін у сваёй прамове аб задачах саюзу моладзі казаў:

„Старая школа была школай вучобы, яна прымушала людзей уцямліваць масу непатрэбных, лішніх, мёртвых вед, якія забівалі галаву і ператваралі маладое пакаленьне ў падагнаных пад агульны ранжыр чыноўнікаў. Але вы зрабілі-б вялізную памылку, калі-б паспрабавалі зрабіць той вывад, што можна стаць комуністам, ня ўцяміўшы таго, што накоплена чалавечымі ведамі. Было-б памылкова думаць так, што дастаткова ўцяміць комуністычныя лёзунгі, вывады комуністычнай навукі, ня ўцяміўшы сабе той сумы вед, вынікам якіх зьяўляецца сам комунізм“.

Але-ж Ленін казаў, што з старой культуры мы павінны ўмець выбраць толькі тое, што неабходна для комунізму.

# У ПАХОД ЗА ПРОЛЕТКУЛЬТУРУ

С. РЫЧКОЎ

## АСЬВЕТНІК У ПЕРШЫЯ ШЭРАГІ

1-га студзеня г. г. па ініцыятыве комсамолу Беларусі пачаўся трохмесячнік беларускай і нацменаўскай пролетарскай культуры. Няма асаблівай неабходнасьці гаварыць аб палітычным значэньні, важнасьці гэтага вялікага пачынаньня. Трохмесячнік—гэта масавы паход за пролетарскую культуру на Беларусі, практычнае ажыцьцяўленьне задач культурнага будаўніцтва. Як і соцыялістычнае спаборніцтва, якое пачалося па ініцыятыве комсамолу і ператварылася зараз у магутную хвалю творчага ўздыму, энтузыязму мільённых рабочых і працоўных мас, трохмесячнік павінен ператварыцца і ператворыцца ў паход гэтых жа мас за хутчэйшае вырашэньне складаных і адказьнейшых задач пэрыоду соцыялістычнага наступленьня.

На дапамогу комсамолу павінна прыйсьці і прыйдзе ўся пролетарска-савецкая грамадзкасьць. Не апошняе месца павінна заняць і зойме ў шэрагах барацьбітоў за перамогу соцыялізму, за разгортваньне культурнага будаўніцтва маса асьветнікаў Беларусі.

Пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, цьвёрда памятаючы, што сучасны момант патрабуе ад кожнага з нас асабліва напружанай работы, правядзеньня выразнай пролетарска-клясавай лініі, барацьбы з усім варожым, передавая частка асьветнікаў ня прымусіць сябе чакаць, а докажа ня столькі словам, колькі справай, што задачы трохмесячніку яна зразумела, за выконваньне іх узялася, падасьць прыклад таго, якім у сучасны момант павінен быць працаўнік культурнага фронту, сваім энтузыязмам будзе садзейнічаць уцягваньню ў ажыцьцяўленьне задач трохмесячніку ўсю асноўную масу асьветнікаў.

Мы ўжо зараз маем такія прыклады, якія сьведчаць аб тым, што передавая частка асьветнікаў падрыхтавалася ўжо да трохмесячніку, ужо вызначыла сабе практычныя задачы, ужо ўзялася за ажыцьцяўленьне гэтых задач. Але гэта толькі адзінкі, зруху ўва ўсёй масе асьветнікаў няма. Трэба як мага хутчэй дабіцца, каб узварушыць масу, дапамагчы ёй лепей выканаць свае абавязкі. Гэта задача цалком ускладаецца на кіруючыя і асабліва на нізавыя профорганы.

Чым жа конкрэтна могуць і павінны дапамагчы комсамолу саюзныя органы, маса асьветнікаў у правядзеньні трохмесячніку? Конкрэтныя задачы цалком выцякаюць з агульных задач—падцягнуць культурны фронт, які адстае ад гаспадарчага, разгарнуць рэволюцыйныя тэмпы работы на культурным фронце, змагацца за генэральную лінію партыі ў культурным будаўніцтве, моцна ўдараючы па нацыянал-дэмократах, шовіністых усіх колераў—нашых клясавых ворагах; за будаўніцтва культуры нацыянальнай па форме, пролетарскай па зьместу, за поўнае аўладаньне пролетарыятам команднымі вышынямі культурнага фронту.

На падставе гэтых задач Цэнтральнае Праўленьне Саюзу Працасьветы распрацавала конкрэтныя мерапрыемствы, якія і павінны легчы ў аснову актыўнай работы кожнага асьветніка гораду і вёскі па правядзеньню трохмесячніку.

Зараз мы хочам кораценька сказаць аб конкрэтных задачах, якія стаяць перад кожным саюзным органам. Першае і асноўнае, што павінен зрабіць кожны саюзны орган, асабліва нізавы,—гэта мобілізаваць думку асьветнікаў на мэтах і задачах трохмесячніку, дабіцца ўцягненьня ў гэты новы масавы паход асноўнай масы асьветнікаў. Другое—распрацаваць

конкрэтны плян свайго ўдзелу ў трохмесячніку, абгаварыўшы яго ў масе асьветнікаў, дабіваючыся поўнага яго выкананьня. Трэцяе—на працягу трох месяцаў організоўваць даклады, гутаркі па нац. пытаньню з дапамогай мясцовых партыйных сіл. Чацьвёртае—поўнасьцю дабіцца аўладаньня белмовай усімі асьветнікамі, організоўваючы для гэтага ўдарныя брыгады, гурткі па вывучэньню белмовы, гісторыі КП(б)Б, рэволюцыйнага руху на Беларусі і г. д. Пятае—вызначыць пэўную колькасьць асьветнікаў, якія ў парадку грамадзкай работы, у добраахвотным парадку, возьмуць на сябе абавязак кіраўніцтва гурткамі па вывучэньню белмовы рабочымі. Шостае—шырока азнаямляць і папулярызаваць сярод мас рабочых, працоўных і асьветнікаў беларускую і нацменаўскую пролетарскую літаратуру, організоўваючы для гэтага даклады, дыспуты аб шляхох разьвіцьця пролетарскай літаратуры на Беларусі, распаўсюджаньне гэтай літаратуры. Сёмае—організацыя агляду саюзных і школьных бібліотэк, праверка ідэолёгічнай і мастацкай вартасьці драматычных і харавых гурткоў. Восьмае—дабіцца у тых мясцох, дзе зараз распачалася, альбо пачне правадзіцца самаправерка работы школ, удзелу ў гэтай самаправерцы рабочых з прадпрыемстваў, організуючы пастаноўку дакладаў аб пролетарска-клясавым выхаваньні ў школах (конкрэтна вызначыць, на якіх прадпрыемствах). Дзевятае—гэта пытаньні конкрэтнага ўдзелу ў рабоце кіно, тэатру, абгаварэньне разам з рабочымі, батрацка-бядняцкімі масамі ідэолёгічнай вартасьці п'ес, кіно-фільм. Дзесятае—ліквідацыя няпісьменнасьці. Поўнасьцю ліквідаваць няпісьменнасьць сярод членаў саюзу Працасьветы, конкрэтна вызначыць колькасьць няпісьменных рабочых, батракоў, беднякоў, вызначыць патрэбную колькасьць асьветнікаў для гэтага, вядучы гэтую работу ў грамадзкім парадку. Адзінаццатае—дапамагчы комсамолу ў падрыхтоўцы 1000 комсамольцаў з рабочых, беднаты, батрацтва ў ВНУ, тэхнікумы, вызначаючы конкрэтна колькасьць рабочых, батракоў, беднякоў і колькасьць асьветнікаў, тое самае і ў галіне падрыхтоўкі батракоў у тэхнікумы, рабфакі і ВНУ. Дванаццатае—прыняць удзел у правадзімым комсамолам месячніку праверкі клясавага зьместу політасьветнай работы на вёсцы з мэтай ачысткі політасьветных устаноў, хат-чытален і чырвоных куткоў ад чужых, клясава-варожых элемэнтаў, організуючы для гэтага брыгады. Трынаццатае—у кожнай акрузе організаваць ня менш аднэй брыгады для пасылкі яе ў раён суцэльнай колектывізацыі на доўгі час для наладжваньня і пастаноўкі культ-асьветнай работы ў колгасах.

Зразумела, што гэтымі пунктамі ня вычэрпваюцца ўсе конкрэтныя мерапрыемствы саюзных органаў; кожная саюзная організацыя на мясцох, выходзячы з мясцовых умоў, знойдзе новыя. Трэба толькі заўважыць, што ўся гэта работа павінна ісьці па лініі аказаньня дапамогі комсамолу, што кожны крок гэтай работы патрабуе правядзеньня выразнай пролетарска-клясавай лініі, рашучага наступу на клясавага ворага. Кожнай саюзнай організацыі трэба шырока асьвятляць у насьценгазэце, у пэрыодычным друку ход удзелу яе ў трохмесячніку.

Конкрэтныя задачы асьветніка выцякаюць ужо з конкрэтных задач, якія стаяць перад саюзнымі органамі. Мы прыводзім заклік настаўніка Бардзілоўскай школы, Самахвалавіцкага раёну, Менскай акругі—т. Бакштэйна, у якім ён сам вызначыў сабе конкрэтныя задачы.

„Я, настаўнік Бакштэйн, жадаючы непасрэдна ўдзельнічаць у практычным выкананьні задач 3-месячніку беларускай і нацменаўскай пролетарскай культуры, бяру на сябе абавязак фактычна зрабіць наступнае:

1) 2 разы ў месяц рабіць абход 3-х вёсак, якія абслугоўваюцца школай, з мэтай распаўсюджаньня беларускай пролетарскай літаратуры;

2) кожныя 2 тыдні буду праводзіць чыткі лепшых мастацкіх твораў беларускай мастацкай літаратуры.

3) організаваць пры школе беларускі літаратурны гурток.

4) правесьці праверку, ці ўсе няпісьменныя займаюцца ў лікпункце, і прыняць шэраг захадаў да поўнага ўцягненьня няпісьменных у лікпункты,

5) у працягу 3-месячніку дабіцца выпіскі розных газэт ня менш аднаго экзэмпляру на двор“. І далей ён піша: „усе

гэтыя мерапрыемствы я гарантую выканаць і замацаваць на працягу 3-месячніку, выклікаю зрабіць тое-ж самае ўсіх настаўнікаў Самахвалавіцкага раёну". Зразумела, што тут ня ўсё, што можна і што патрэбна зрабіць, але і тое, што ім вызначана пры правядзеньне ў жыцьцё ёсьць ужо дасягненьні, гэтае дасягненьне памножанае на яшчэ большы ўдзел 24000 асьветнікаў Беларусі, будзе значным крокам наперад на фронце культурнага будаўніцтва.

Вось да гэтай работы нам і трэба зараз прыступіць, разгортваючы соцспаборніцтва, уцягваючы вучняў і іх бацькоў, карыстаючыся пролетарскай самакрытыкай.

Пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі дапаможам комсамолу выканаць цалкам задачы трохмесячніку.

---

**ХВ. СЬЦЕПАНЮК**

# УДАРНЫ ВУЧАСТАК РАБОТЫ

*(Да абвешчанага ЦК ЛКСМБ 3-месячніку беларускай пролетарскай культуры і культуры нац. меншасьцяй)*

У сучасны пэрыод разгорнутага соцыялістычнага будаўніцтва, масавага руху колектывізацыі сельскай гаспадаркі, як ніколі, мы адчуваем спадчыну панаваньня капіталістых і памешчыкаў, вялікую няпісьменнасьць, якая зьяўляецца значнай перашкодай у нашым шпаркім пасоўваньні наперад.

Зусім зразумела, што няпісьменнаму рабочаму, батраку, колгасьніку надзвычайна цяжка разабрацца і ўявіць сабе сучасныя складаныя задачы рэконструкцыйнага пэрыоду, таксама зразумела, што бяз гэтага немагчыма актыўна ўдзельнічаць у рэконструкцыі прамысловасьці, аб'яднаньні дробнай уласнай гаспадаркі ў буйную колектыўную соцыялістычную гаспадарку, будаваць яе на аснове найноўшых дасягненьняў навукі і тэхнікі.

Цяжка, а часам і зусім немагчыма, рашуча змагацца ня толькі з замаскаванымі выступленьнямі клясавага ворага ў практыцы і тэорыі, выкрываць усю дробна-буржуазную, рэакцыйную ідэолёгію на ўсіх вучастках нашага гаспадарчага культурна-нацыянальнага будаўніцтва, але і з адкрытымі вылазкамі яго. Таму партыя паставіла перад усімі савецкімі, профсаюзнымі, комсамольскімі організацыямі і перад ўсёй грамадзкасьцю задачу поўнай ліквідацыі няпісьменнасьці, у першую чаргу ў гэтым 1929-30 годзе сярод рабочых, батракоў, колгасьнікаў, грамадзкіх працаўнікоў, падросткаў ва ўзросьце ад 12 да 15 г. і дапрызыўнікаў. Сярод астатніх працоўных мы павінны будзем ліквідаваць няпісьменнасьць на працягу трох год (1929-30--31-32) з тым, каб нашу пяцігодку выканаць у чатыры гады. Такім чынам, на працягу трох год у БССР патрэбна зьліквідаваць няпісьменнасьць толькі сярод актыўнай часьці насельніцтва ва ўзросьце ад 12 да 35 год, усяго 685.294 чал., а калі ўзяць усіх няпісьменных ад 12 г. і вышэй, дык гэта лічба узрастае больш чым у два разы—1.546.443 чал. Па плянавых меркаваньнях НКА, ЦС „П. Н." і профсаюзаў, у бягучым 1929-30 годзе намечана навучыць грамаце 280.490 чал. і ахапіць школамі малапісьменных 24.966 чал.

Для гэтай справы трэба будзе організаваць ня менш як 10-15 тысяч лікпунктаў і школ.

На справу ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці ў бягучым годзе асыгнавана 1.082 тыс. руб. Аднак, гэтымі сродкамі мы забясьпечваем выкананьне плянавых меркаваньняў толькі на 60 проц. Астатнія 40 проц. выкананьня пляну ўскладзены на ўсе грамадзкія організацыі, якія прымаюць удзел у ліквідацыі няпісьменнасьці. Пастаўленая задача надзвычайна адказная і патрабуе ўзмацненьня тэмпу работы ў чатыры разы больш, чым у мінулым годзе. Выкананьне яе магчыма будзе толькі пры ўмове сапраўды масавай мобілізацыі ўвагі, сіл і сродкаў выключна ўсіх грамадзкіх організацый, ўсёй грамадзкасьці на справу ліквідацыі няпісьменнасьці.

**Узмацніць тэмп**

Комсамол, будучы ініцыятарам шэрагу „паходаў“, у прыватнасьці і асабліваьсці культурнага паходу, і адначасова зьяўляючыся застрэльшчыкам у барацьбе за пісьменнасьць, павінен узяць на сябе і надалей адказную і пачэсную ролю актыўна дапамагаць партыі і савецкай уладзе ў выкананьні пастаўленых задач поўнасьцю і ў самы кароткі тэрмін, ліквідаваць няпісьменнасьць, прыцягнуць да справы лікбезу грамадзкія організацыі і шырокія колы насельніцтва, узмацніць тэмп агульнай працы, пераключыць яе ў далейшы працяжны „паход за грамату“.

Абвешчаны трохмесячнік „Пролетарскай культуры“ фактычна зьяўляецца працягам „культурнага паходу“. Гэты 3-месячнік павінен зрабіць рашучы пералом ва ўсёй комсамольскай організацыі, мобілізаваць увагу і сілы яе на справу ліквідацыі няпісьменнасьці.

Практычныя мерапрыемствы трохмесячніку шмат чаму абавязваюць кожную ячэйку і пасобнага яе члена. Яны конкрэтна вызначаюць:

1. Сіламі КСМ організацыі дадаткова організаваць 500 лікпунктаў, навучыць індывідуальна 5 000 няпісьменных.

2. Мобілізаваць 500 комсамольцаў для работы ў лікпунктах і школах малапісьменных.

3. Дабіцца ажыцьцяўленьня лёзунгу 8 га зьезду ўсеЛКСМ: „кожны пісьменны навучае няпісьменнага“.

4. Правесьці масавы двухтыднёвік збору і распаўсюджаньня кніжак сярод малапісьменных.

Аднак, пры ажыцьцяўленьні гэтых задач акруговыя, раённыя комітэты і ячэйкі ЛКСМБ ні ў якім разе не павінны абмяжоўвацца формальным выкананьнем апошніх. Трэба дабіцца таго, каб кожны комітэт, ячэйка і комсамолец штодзённа актыўна ўдзельнічалі ва ўсёй рабоце, праявілі-б максымум ініцыятывы і самадзейнасьці, поўнасьцю скарысталі-б вопыт работы іншых комсамольскіх організацый у справе ліквідацыі няпісьменнасьці.

**З чаго пачаць работу**

Для таго, каб прыступіць да непасрэднай работы па ліквідацыі няпісьменнасьці, неабходна перш за ўсё устанавіць самую шчыльную сувязь з усімі грамадзкімі організацыямі, якія знаходзяцца на тэрыторыі дзейнасьці ячэйкі і вядуць непасрэдную работу альбо прымаюць удзел у ёй, дасканала пазнаёміцца з вызначанымі плянамі, дырэктывамі, і, вельмі важна, мець вучот няпісьменных.

Усё гэта патрэбна, па-першае, для таго, каб не распыляць кожнай організацыі паасобку сіл і сродкаў, а, наадварот, аб'яднаць іх у адзін плян работы; па-другое, з тым, каб комсамольская ячэйка ў значнай меры змагла зьявіцца ініцыятарам, штурхачом у прыцягненьні да ўдзелу ўсіх організацый і шырокіх колаў грамадзкасьці. Такім чынам зрабіць гэтую работу масавай, галоснай работай, вядомай усяму насельніцтву. Пасьля гэтага неабходна паставіць пытаньне: „аб ліквідацыі няпісьменнасьці і практычным удзеле ячэйкі“, выпрацаваць практычныя мерапрыемствы, што калі і дзе павінны правесьці, зрабіць і г. д. Разам з гэтым вылучыць сталых прадстаўнікоў у комісію садзейнічаньня пры сельсавеце і ў ячэйку т-ва „П. Н.“. У далейшым сыстэматычна ставіць інформацыі аб ходзе работы і выкананьні пастаноў на бюро і сходзе ячэйкі.

Лепшай формай правядзеньня работы, гэта організацыя спэцыяльных ініцыятыўных груп брыгад ня толькі выключна з комсамольцаў, але і прыцягваць як мага больш беспарытйнай батрацка-бядняцкай колгаснай моладзі, грамадчыкаў, настаўнікаў.

Праз організацыю такіх груп, брыгад, шырока прыцягнуўшы вучняў старэйшых груп школ, неабходна правесьці і наладзіць сталы пэрсанальны вучот усіх няпісьменных. Скончыўшы пэўную частку організацыйнай работы, неабходна прыступіць да правядзеньня шырокай растлумачальнай працы. Формамі яе могуць быць правядзеньне спэцыяльных сельсавецкіх конфэрэнцый, сходаў няпісьменных, на якіх ставіць пытаньні: а) выкананьне пяцігодкі і ліквідацыя няпісьменнасьці, б) аб становішчы няпісьменнасьці ў сельсавеце, практычныя мерапрыемствы і плян па ліквідацыі няпісьменнасьціі, в) чаму ў старыя часы капіталістыя і памешчыкі былі супроць навучаньня працоўных грамаце.

Прыцягваць няпісьменных да ўдзелу у рабоце клюбу, хаты-чытальні, на розныя

сходы, гурткі. Вядучы шырокую растлумачальную работу, трэба перакanaць няпісьменнага ў неабходнасьці навучыцца грамаце і зацікавіць яго работаю школы і лікпункту.

### Як організаваць работу

Правёўшы адпаведную падрыхтоўчую растлумачальную працу, маючы сталы вучот няпісьменных, можна прыступіць да організацыі самых лікпунктаў, школ і груп.

Звычайна ў практыцы работы ячэйка выносіць пастановы аб тым, што „неабходна організаваць лікпункт". Гэтага мала. Трэба перш за ўсё паклапаціцца і падшукаць адпаведнае памяшканьне (калі ў вёсцы, ці колгасе няма школы, хатычытальні), вырашыць пытаньне аб асьвятленьні і ўнутраным абсталяваньні яго: набыць сталы лаўкі, дошку, географічную карту ды іншыя прылады. Трэба імкнуцца, каб усё гэта організаваць у парадку грамадзкай работы, дагаварыцца і вызначыць для работы лікпункту хату комсамольца, комуніста альбо грамадзкага працаўніка. Агульнымі сіламі зрабіць сталы, лаўкі, дошку. Праз організацыю суботніку, платнага вечару сабраць неабходныя сродкі на набыцьцё лямпы, газы, на алоўкі, сшыткі і г. д.

Яшчэ адно важнае пытаньне—гэта пытаньне аб кадрах ліквідатараў. Часта комсамольскія ячэйкі ламаюць галовы, думаючы аб тым, где-ж узяць добрага кваліфікаванага, з сярэдняй адукацыяй, настаўніка-ліквідатара. Нярэдка з-за таго, што, акрамя настаўніка у вёсцы няма такога унівэрсальнага чалавека, бываюць правалы пачатай работы. Гэта гаворыць аб тым, што мы не навучыліся як сьлед прыцягнуць і скарыстаць тыя пісьменныя сілы, якія ёсьць на мясцох. Трэба памятаць, што кожны пісьменны зможа і павінен навучыць няпісьменнага. Трэба толькі дакладна ўлічыць, рацыянальна скарыстаць іх на рабоце ў лікпунктах, школах і групах. Правесьці вылучэньне іх праз партыйныя, комсамольскія і грамадзкія організацыі з тым, каб гэта работа лічылася сталым партыйным, комсамольскім, грамадзкім абавязкам.

### Кожны пісьменны навучае няпісьменнага

Пакуль што мы гаварылі аб важнасьці, неабходнасьці ліквідацыі няпісьменнасьці, аб тым, з чаго пачаць і як організаваць работу пераважна лікпунктаў і школ. Аднак, пры правядзеньні ўсёй гэтай работы мы сустракаемся з вялікімі цяжкасьцямі. Першай такой цяжкасьцю зьяўляецца надзвычайна вялікая раскіданасьць працоўных па дробных прадпрыемствах, колгасах, асабліва ў вёсцы, на хутарох і пасёлках. Сярод кожнай такой невялікай групы працоўных ёсьць адзінкі няпісьменных. Гэтыя адзінкі нельга ахапіць сталымі лікпунктамі. З другога боку, сустракаюцца і такія перашкоды, калі дарослы няпісьменны, хоць і жадае вучыцца, але ўмовы і абставіны яго работы не дазваляюць наведваць лікпункт. Сярод іх бязумоўна трэба весьці працу па зьнішчэньню няпісьменнасьці ў індывідуальна-групавым парадку. У дадатак да прыцягненьня лепшых кляса-адпавядаючых пісьменных сіл для работы ў лікпунктах і школах, мы павінны мобілізаваць усіх пісьменных, якія могуць навучаць няпісьменных у індывідуальным і групавым парадку.

Гэтая форма работы якраз і зьяўляецца лепшым сродкам для ажыцьцяўленьня лёзунгу—„кожны пісьменны навучае няпісьменнага". Пры разгортваньні гэтай работы неабходна ў першую чаргу ахапіць рабочых, батракоў, грамадзкіх працаўнікоў, дапрызыўнікаў, рабочых саўгасаў, сяброў колгасаў, як найбольш перадавых удзельнікаў соцыялістычнага будаўніцтва.

Сетка індывідуальна-групавога навучаньня організуецца такім чынам: КСМ ячэйка, разам с комісіяй садзейнічаньня пры сельсавеце, ячэйкай „П. Н." альбо хатай-чытальняй, 4-гадовай школай перапісваюць усіх няпісьменных, якіх нельга ахапіць лікпунктамі; вылучаюць адпаведных пісьменных таварышоў, даюць сьпісы і адрасы няпісьменных і даручаюць ім весьці работу па ліквідацыі няпісьменнасьці.

Прымацоўваюць усе раскіданыя гэтыя групы да бліжэйшых 4-гадовых школ, лікпунктаў, хат-чытальняў з тым, каб яны вялі пэўны контроль і аказвалі мэтодычную дапамогу. Настаўнік, ліквi-

датар, загадчык хатай-чытальняй павінен зьяўляцца сталым консультантам. Апошнія павінны весьці агульны вучот работы, дапамагаць распрацоўваць мэтодычныя пытаньні на склікаемых нарадах ліквідатараў і вучняў, наведваць лікпункт і даваць патрэбныя парады ў рабоце.

Зразумелая рэч, што ўся гэта работа па ліквідацыі няпісьменнасьці ёсьць цяжкая, марудная і працяжная. Але баяцца яе, пасаваць перад цяжкасьцямі нельга і злачынна. Трэба заўсёды памятаць тое, што казаў нам Ул. І. Ленін на 3-м зьезьдзе РКСМ: „Вы ведаеце, што ў краіне няпісьменнай пабудаваць комуністычнае грамадзтва немагчыма. Але мала аднаго таго, каб савецкая ўлада аддала загад, альбо каб партыя дала належны лёзунг, кінула пэўную частку лепшых працаўнікоў на гэтую справу. Для гэтага трэба, каб само маладое пакаленьне ўзялося за гэтую справу“.

---

В. МУХІН

# ПАТРЭБЕН РЭВОЛЮЦЫЙНЫ ТЭМП

Барацьба за пісьменнасьць, за такі вучастак культуры, які датычыцца непасрэдна шырокіх колаў працоўных, асабліва колгасьнікаў, дзе мы маем палову няпісьменных,—ударная задача сёньняшняга дню. Няпісьменнасьць зьяўляецца найвялікшым тормазам социялістычнай рэконструкцыі.

Уздым культурнага ўзроўню колгасьнікаў павінен разам зьявіцца культурным уздымам сялянства вакольных вёсак.

Калі мы за год зьліквідуем няпісьменнасьць у колгасах,—гэта значыць зрабіць вялізарны крок уперад. Для ажыцьцяўленьня задачы 100% ліквідацыі няпісьменнасьці ў колгасах нам трэба мобілізаваць волю і сродкі працоўных навокал гэтага пытаньня і ў першую чаргу ўсю грамадзкасьць саміх колгасьнікаў.

Кіраўніцтва справай па ліквідацыі няпісьменнасьці ў колгасах, згодна абежніку НКА, ЦС т-ва „ПН“ і Белкалгассаюзу належыць культурна-бытавым комісіям. Непасрэдна займацца ліквідацыяй няпісьменнасьці культурна-бытавая камісія ня зможа, ды было-б памылкова і казаць, што гэтай справай павінна займацца толькі культурна-бытавая комісія. Сама работа па ліквідацыі няпісьменнасьці павінна праводзіцца ў колгасах грамадзкім шляхам. Толькі пры актыўным удзеле грамадзкасьці і ячэйкі „ПН“ мы зможам праводзіць ліквідацыю няпісьменнасьці з належным для нас посьпехам.

З чаго павінна пачынаць сваю работу культурна-бытавая комісія колгасу пры пачатку організацыі справы ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці? Першае, на чым павінны спыніцца культурна-бытавая комісія і ячэйка „ПН“, гэта правесьці вучот няпісьменнага і малапісьменнага насельніцтва колгасу ва ўзросьце ад 12 да 35 год. Самы вучот трэба наладзіць грамадзкім шляхам, прыцягнуўшы да гэтай справы комсамольцаў, вучняў школ сямігодак. Трэба вылучыць для гэтай справы добра пісьменных таварышоў, якія шляхам індывідуальнай гутаркі выяўляюць няпісьменных і малапісьменных.

Няпісьменным трэба лічыць таго, хто ня ўмее чытаць і пісаць. Няпісьменным лічыцца і той, хто можа чытаць, але-ж ня ўмее пісаць. Малапісьменным лічыцца той, хто можа чытать, пісаць, але-ж чытае і піша з цяжкасьцю, а з разьвязваньнем нескладаных арытмэтычных задач ня зможа справіцца.

Маючы вучот няпісьменных і малапісьменных, перад культурна-бытавой комісіяй паўстане задача—організацыя самой вучобы. Да яе трэба аднесьці наступныя моманты: кадры, сетка лікпунктаў, памяшканьні, сродкі і політыка-асьветная работа.

**Організацыя вучобы**

Калі зроблены вучот няпісьменнага насельніцтва, адным з галоўных момантаў далейшай работы будзе організацыя вучобы.

Часта бываюць выпадкі, што ў колгасе няма лікпункту і школы, колгасьнікі прымушаны хадзіць у лікпункт за 2-3 кілёмэтры. Задача культурна-бытавой комісіі і ячэйкі „ПН“—наблізіць лікпункт да колгасьніка, а не колгасьніка наблізіць да лікпункту альбо школы малапісьменных.

Практычна тэрыторыяльны прынцып сеткі лікпунктаў і школ малапісьменных адыгрывае немалаважную ролю ў пытаньнях наведваньня, правядзеньня з імі політыка-асьветнай работы.

Большая частка няпісьменных у колгасах—жанчыны, якія да гэтага часу ўсё-ж занадта заняты гаспадарчай работай, ня змогуць заўсёды наведваць лікпункт. Апрача гэтага, наша задача—прыцягнуць у лікпункт сялян з бліжэйшых вёсак, паказаць жыцьцё колгасу, тыя дасягненьні і перавагі, якія мае колгас у параўнаньні з індывідуальнымі дробнымі гаспадаркамі. Лікпункт павінен, апрача навучаньня пісьменнасьці, быць практычным агітатарам за колектывізацыю сельскай гаспадаркі. Гэта ён зможа зрабіць, калі будуць уцягнуты сяляне бліжэйшых вёсак.

Правільнае разьмеркаваньне сеткі лікпунктаў вырашае пытаньне адсеву, бо мы зможам мець добрае наведваньне лікпунктаў малапісьменнымі, зрабіць саманавучаньне цікавым праз разгортваньне масавай работы.

Некаторай перашкодай зьяўляецца тое, што няпісьменны, будучы заняты працай у колгасе на працягу ўсяго дня, да самага пачатку заняткаў у лікпунце, прымушан адразу пасьля работы ісьці на заняткі, у выніку чаго маем дрэнную праапрацоўку матар'ялу альбо зусім адсутнасьць тых таварышоў, якія былі ў гэты дзень на рабоце.

Трэба паставіць перад саветам колгасу, каб занятых работаю асоб, якія наведваюць лікпункты, вызвалялі на пару гадзін раней ад выконваньня імі абавязкаў, а для жанчын, у якіх ёсьць дзеці, трэба таксама забясьпечыць наведваньне лікпунктаў і школ малапісьменных, організаваўшы дзіцячыя пакоі, дзе яны змаглі-б пакінуць сваё дзіцё на час заняткаў у лікпунктах пад наглядам вылучаных для гэтай мэты асоб. Калі культурна-бытавая комісія і ячэйка „ПН“ колгасу своечасова прымуць захады да зьнішчэньня тых перашкод, што спрыяюць адсеву ў лікпунктах, дык тым самым яны забясьпечаць нормальную работу лікпунктаў.

**Організацыя школ, лікпунктаў і груп**

Школа, лікпункт у колгасах па сваёй організацыйнай структуры не павінны нічым адрозьнівацца ад існуючага тыпу гэтых установ. Лікпункт зьяўляецца першай ступеньню ў сыстэме народнай асьветы дарослых. Непасрэдным працягам лікпункту зьяўляецца школа малапісьменных. Лікпункт ставіць сваёй мэтай даць асноўныя тэхнічныя звычкі чытаньня, пісьма і лічэньня ў межах програмы, зацікавіць вучня да далейшай работы па замацаваньню і пашырэньню набытых ведаў па лікпункту, паказаць шлях практычнага выкарыстаньня пісьменнасьці ў жыцьці і зацікавіць грамадзка-політычным жыцьцём краіны. Апошні момант у рабоце лікпункту павінен заняць галоўнае месца, бо калі гэтага кіраўнік лікпункту не дасягне, дык і ўся яго работа не дасягне мэты. Навучаны ім няпісьменны хутка зноў будзе няпісьменным.

Прыём вучняў на лікпункты робіцца комісіяй у складзе прадстаўніка ад савету колгасу, ячэйкі „ПН“ і комсамольскай ячэйкі.

Перад комісіяй павінны стаяць наступныя задачы: правесьці правільнае ўкомплектаваньне лікпунктаў па ўзросту і пісьменнасьці.

Самым добрым для работы лікпунктам трэба лічыць той, дзе будзе налічвацца 20-25 вучняў; калі будзе большая колькасьць вучняў, дык гэта лічыцца з мэтодычнага боку адмоўным, бо аднаму настаўніку справіцца з вялікай колькасьцю вучняў, з размаітнымі запатрабаваньнямі ня будзе магчымасьці. Такі лікпункт не прапрацуе належным чынам програму.

Утвараць малыя лікпункты на 5-6 асоб ня зусім пажадана таму, што патрабуецца значная колькасьць кіраўнікоў лікпунктаў, ды, у дадатак, ня будзе магчымасьці абхапіць разрозьненых няпісьменных і малапісьменных масавай політыка-асьветнай работай. Лікпункты і школы малапісьменных трэба імкнуцца ўтвараць больш буйнымі.

Групы для няпісьменных і малапісьменных трэба ўтвараць там, дзе ёсьць зусім нязначны лік асоб, якіх трэба навучыць.

Адзначаючы аб ужываньні індывідуальнага навучаньня, усё-ж галоўнай задачай у нашай рабоце зьяўляецца ўтварэньне буйных лікпунктаў, бо незаўсёды патрэбна організаваць лікпункт. Напрыклад, мы маем 4-5 няпісьменных у колгасе; там, вядома, прыдзецца стаць на шлях групавога навучаньня. Зараз мы маем сярод старых колгасаў такія, дзе ліквідацыя няпісьменнасьці амаль што закончана, маючы 2-3 няпісьменных, вядома, колгасьнікам прыдзецца стаць на шлях групавога і індывідуальнага навучаньня. Ячэйка „ПН“ у даным выпадку павінна ўзяць на сябе ініцыятыву праводзіць гэтую работу. Лёзунг—„пісьменны, нявучы няпісьменнага“ павінен знайсьці адбітак на справе.

Маючы падрыхтаваных таварышоў для індывідуальна-групавога навучаньня, ячэйка „ПН“ павінна разгортваць сваю работу і ў бліжэйшых вёсках, якія не ўваходзяць у колгас, утвараючы там групы. Ячэйка колгасу павінна прыняць усе захады да падрыхтоўкі ліквідатараў з колгасьнікаў, якія-б змаглі праводзіць ліквідацыю няпісьменнасьці індывідуальным шляхам.

Для падрыхтоўкі колгасьнікаў да гэтай работы трэба ў буйных колгасах утвараць курсы, а таксама прымаць захады да штодзённага кіраўніцтва індывідуумамі з боку апорных пунктаў, школ, раённага інспэктара асьветы.

Лікпункт альбо школа павінны выбраць сваё самакіраваньне, якое, апрача організацыі ўнутранага жыцьця школы альбо лікпункту, наладжвае сувязь з політыка-асьветнымі ўстановамі для абслугоўваньня іх масавай работай, наладжвае сувязь з установамі аналёгічнага тыпу, для абмену вопытам сваёй работы, правядзеньня сумеснай работы.

Мэтодычнае кіраўніцтва работай лікпунктаў і школ малапісьменных ажыцьцяўляецца раз школу соцвыху і апорныя лікпункты. Настаўнік школы соцвыху і апорнік склікаюць кіраўнікоў лікпунктаў, груп і індывідуалаў і інструктуюць іх.

Буйны лікпункт вырашае ў дадатны бок забесьпячэньне належным падрыхтаваным кіраўніком, памяшканьнем і абслугоўваньне рознымі відамі політыка-асьветнай работы.

Час навучаньня ў лікпунктах па програмах разьлічаны ў вясковых умовах на 264 навучальныя гадзіны, з разьліку 12 гадзін у тыдзень, але-ж ва ўмовах колгасу нам трэба лік гадзін павялічыць да 312, працяг навучальнага году ў лікпунктах зрабіць бесьперапынным. У летні час замест лікпункту і школы малапісьменных, у колгасе павінна быць разгорнута гурткавая работа, якая ахопіць усіх вучняў лікпунктаў і школ.

**Кадры**

Для ліквідацыі няпісьменнасьці ў колгасе патрэбны ня толькі кіраўнікі лікпунктаў,—гэта мала; нам патрэбны для правядзеньня гэтай ударнай работы настаўнікі-ліквідатары, якія працуюць у лікпункце, організатары, якія організоўваюць само навучаньне, і політыка-асьветныя працаўнікі, якія абслугоўваюць вучняў.

Ва ўмовах колгасаў мы не заўсёды маем школы і настаўніка, якога можна было-б прыцягнуць да работы ў колгасе. У такіх выпадках для работы ў лікпунктах трэба прыцягваць падрыхтаваных комсамольцаў, членаў т-ва „ПН“, з якімі трэба правесьці некалькі гутарак па мэтодыцы навучаньня грамаце ў лікпункце, а таксама ў процэсе самой работы лікпунктаў сыстэматычна склікаць нарады ўсіх кіраўнікоў лікпунктаў для абмену вопытам работы і вырашаць пытаньні, якія могуць узьнікнуць на лікпункце ў кожнага кіраўніка паасобку.

Актыў „ПН“ і комсамольцаў трэба выкарыстоўваць для організацыйнай работы—падбор памяшканьняў для занят-каў, укомплектаваньне лікпунктаў, забесьпячэньне падручнікамі і дапаможнікамі. Культурна-бытавая комісія і ячэйка „ПН“ павінны своечасова прыняць захады да падрыхтоўкі заняткаў у лікпунктах, прыцягнуўшы для гэтай работы ўвесь актыў колгасьнікаў. Значна горш будзе справа абстаяць з кадрамі для політыка-асьветнай работы з вучнямі ў лікпунктах, але-ж гэта ня значыць, што гэты від работы праводзіць ня трэба. Для правядзеньня гэтай работы трэба выкарыстаць членаў ячэйкі КП(б)Б, настаўнікаў, аграномаў, ўрачоў.

Памяшканьнямі для лікпунктаў могуць служыць школы, клюбы, чырвоныя куткі колгасаў, але-ж трэба заўсёды памятаць, што ад умоў работы будзе залежаць посьпех яе. Памяшканьне павінна адпавядаць запатрабаваньням лікпункту-школы; мэбля і прылады, патрэбныя для лікпунктаў, павінны быць у наяўнасьці, ды і само памяшканьне трэба зрабіць падыходзячым для заняткаў.

Дзе будзе працаваць лікпункт на працягу бягучага навучальнага году, павінна загадзя ведаць усё насельніцтва колгасу.

Значна лепш вырашаецца ў колгасах грашовая справа па ліквідацыі няпісьменнасьці. Па мясцоваму каштарысу вызначаных сродкаў, вядома, будзе хапаць і на падручнікі, навучальныя дапаможнікі і на аплату настаўніку, але-ж самі колгасьнікі, ячэйка „ПН“ і культурна-бытавая комісія павінны ставіць задачу зьліквідаваць няпісьменнасьць у колгасе шляхам прыцягненьня грамадзкасьці да ўдзелу ў гэтай справе. Тыя сродкі, што застануцца, трэба выкарыстаць на паляпшэньне культурна-масавай работы, дзе нам патрэбна затрата сродкаў на газэты, кніжкі, часопісі,—таму трэба імкнуцца, каб настаўнікі і кіраўнікі лікпунктаў працавалі ў парадку грамадзкай нагрузкі.

**Політыка-асьветная работа ў лікпунктах**

Актыўнасьць работы ў школе соцвыху залежыць ад дашкольнага выхаваньня, а актыўнасьць работы ў лікпункце будзе залежаць ад праведзенай політыка-асьветнай работы.

У часе падрыхтоўкі да заняткаў у лікпунктах політыка-асьветным установам і грамадзкім організацыям колгасаў трэба правесьці шырокую масавую работу, давесьці няпісьменнаму аб значэньні пісьменнасьці, чаму яму трэба вучыцца ў лікпункце. Ад папярэдняй агітацыйнай работы будзе залежаць посьпех самога комплектаваньня.

Трэба правесьці рашучую барацьбу з тымі шкоднымі думкамі, якія пануюць сярод няпісьменных—„Мой дзед і бацька былі няпісьменныя, але-ж жылі, пражыву і я“. Вядома, што супроць нежаданьня вучыцца выступаць з абстрактнымі довадамі „ученье—свет, а неученье—тьма“ нельга. Трэба давесьці, што пісьменнасьць паляпшае жыцьцё, што пісьменнасьць дапамагае продукцыйнасьці работы. Няпісьменнага можна з'агітаваць толькі шляхам сыстэматычнай політыка-асьветнай работы з няпісьменнымі.

Разам с тэхнікай навучаньня па лемантару і кніжцы для малапісьменных трэба раз у тыдзень праводзіць гутаркі. Зьмест гэтых гутарак не павінен быць аднолькавы. Трэба закрануць пытаньні сьветастварэньня, пра паходжаньне жыцьця на зямлі, паходжаньне рэлігіі, пытаньні сучаснага жыцьця. Самае галоўнае, аб чым трэба памятаць,—гэта політычны зьмест самой работы з няпісьменнымі.

Каб дабіцца эфэкту ў масавай політыка-асьветнай рабоце, мы не павінны пакідаць бяз увагі запатрабаваньні няпісьменных. Тыя думкі, настроі, якія ўзьнікаюць у няпісьменнай аўдыторыі, трэба падхапіць, даць ім належную ацэнку, накіраваць іх па шляху, якога патрабуе сёньняшняе жыцьцё грамады.

Значную дапамогу ў правядзеньні політвыхаваньня вучняў зможа адыграць газэта. У нашых умовах газэты для малапісьменнага чытача пакуль што няма, але-ж з посьпехам можна выкарыстоўваць „Беларускую вёску“. Нашы падручнікі маюць надзвычайна мала матэр'ялу, які-б эмоцыянальна ўзьдзейнічаў на малапісьменнага чытача, мала мастацкай літаратуры. Трэба ў програму заняткаў увесьці чытаньне мастацкай літаратуры, наладжваць літаратурныя вечары для малапісьменных, гутаркі, кіно, радыё.

Курс агульна-адукацыйных і політычных гутарак, лекцый, чытаньне газэты, літаратурна-мастацкія вечары значна пашыраць кругагляд вучня, значна выпраўляць аднабаковасьць нашых падручнікаў і дапаможнікаў.

Ня трэба забываць пра ўцягненьне ў культурна-масавую работу насельніцтва, якое ня вучыцца ў лікпункце альбо школе, якое не ўваходзіць у колгас. Гэтыя гушчы насельніцтва трэба ўцягнуць у масавую работу, бо гэта будзе зьяўляцца лепшай агітацыяй за новыя колектыўныя формы земляробства.

# ТЭОРЫЯ І ПРАКТЫКА ПЭДАГОГІКІ

**ПРОФ. П. ПАНКЕВІЧ**

## СПРЭЧНЫЯ ПЫТАНЬНІ ПОЛІТЭХНІЧНАГА ВЫХАВАНЬНЯ [1])

Наша гаспадарка перажывае зараз рэконструкцыйны пэрыод свайго разьвіцьця. У адносінах тэхнікі вытворчасьці мы павінны ня толькі дагнаць, але і перагнаць передавыя капіталістычныя краіны. Замест ранейшых застарэлых машын, на заводах і фабрыках устанаўліваюцца ў нас цяпер усё больш і больш аўтоматычныя мэханізмы, а таксама пашыраецца ўжываньне хэмічных процэсаў і электрычнасьці ў вытворчасьці. Усё гэта вядзе да скарачэньня ручное працы на буйных прадпрыемствах, да стварэньня новых умоў для ўсебаковай вытворчай дзейнасьці работніка. Акрамя таго, усебаковая дзейнасьць работніка яшчэ абумоўліваецца тым, што ў нас, у Савецкім Саюзе, дасягнуты высокі ўзровень аграмаджаньня працы ў межах прамысловасьці і ёсьць дыктатура пролетарыяту, якая абавязвае кожнага рабочага прымаць актыўны ўдзел у політычнай барацьбе і прымаць удзел у соцыялістычным будаўніцтве на розных франтох. Адсюль вырастаюць і прадпасылкі політэхнічнага выхаваньня [2]).

Аднак, побач з гэтым тэхніка вытворчасьці ў цэлым шэрагу нашых прадпрыемстваў значна адстае ад сусьветнай тэхнікі. Нават буйнейшыя фабрыкі і заводы нярэдка карыстаюцца да гэтага часу дарэволюцыйным абсталяваньнем. Ня гледзячы на вядомую ступень аўтоматызацыі і хэмізацыі процэсу вытворчасьці, тут прадаўжае панаваць ручная праца. Гэта стварае прадпасылкі для існаваньня прафэсій і спэцыяльнасьцяй. Адсюль і вырастае неабходнасьць прафэсіянальнай асьветы. Калі ўлічыць тое, што ручная праца мае вялікае распаўсюджаньне ня толькі ў прамысловасьці, але, галоўным чынам, і ў сельскай гаспадарцы, будзе зразумелым, наколькі ў нас эдносна моцная база для прафэсіянальнай дыфэрэнцыяцыі рабочых.

Такім чынам, у нашай буйнай прамысловасьці змагаюцца дзьве процілеглыя сілы. Процэсы аўтоматызацыі і хэмізацыі тэхнікі вытворчасьці, якія ўсё пашыраюцца, вядуць да скарачэньня і нават у пэрспэктыве да зьнішчэньня ручной працы, ствараючы ўмовы для „нівэляваньня рабочай сілы“ і нараджаючы на гэтай аснове дэпрафэсіяналізацыю працы. Гэта—з аднаго боку. А з другога—наяўнасьць на нашых буйных прадпрыемствах устарэлага дарэволюцыйнага абсталяваньня і шырокае распаўсюджаньне ў краіне адсталых форм сельскай гаспадаркі выклікаюць неабходнасьць ўжываньня ў нашай гаспадарцы ручной працы і ствараюць глебу для прафэсій. Дэпрафэсіяналізацыя працы абумоўлівае разьвіцьцё політэхнічнага выхаваньня, а прафэсіянальная дыфэрэнцыяцыя рабочых, якая захоўваецца (на падставе розных форм ручной працы), садзейнічае разьвіцьцю прафэсіянальнай асьветы.

У якім-жа напрамку разьвіваецца наша гаспадарка? Па-першае, усё больш і больш павялічваецца соцыялістычны сэктор нашай гаспадаркі, у якой пануе колектыў-

---

[1]) Гэты артыкул зьяўляецца выкладаньнем дакладу, што прачытаны мною ў Маскоўскім інстытуце мэтодаў школьнай работы 5/III-29 г.

[2]) Політэхнічнае выхаваньне мы тут разумеем у тым сэнсе, як гэта тлумачыцца ў нашай кнізе: „Політэхнічная школа ў сувязі з разьвіцьцём сучаснай буйнай індустрыі“. Выданьне сэкцыі навуковых работнікаў БССР. Гор. Менск, 1928 г.



ная (аграмаджаная) праца; па-другое, процэс індустрыялізацыі краіны, які пашыраецца, захоплівае ў свой „вір“ ня толькі так званую гарадзкую прамысловасьць, але і сельскую гаспадарку, што выяўляецца ў стварэньні ўсё новых і новых буйных прадпрыемстваў, у тым ліку і сельска-гаспадарчых, саўгасаў і колгасаў, і, нарэшце, па-трэцяе, хуткім тэмпам рэконструіруецца (якасна зьмяняецца) тэхніка вытворчасьці на нашых буйных фабрыках, заводах і ў сельска-гаспадарчых аб'яднаньнях (коопэрацыя, саўгасы) на аснове процэсаў аўтоматызацыі, хэмізацыі і электрыфікацыі. Такім чынам, мы маем у пэрспэктыве нашага разьвіцьця не ўмацаваньне ручной працы, а, наадварот, яе адміраньне і нават зьніжэньне. Калі ручная праца ў будучым павінна адмерці, дык, значыцца, нямінуча адамрэ і профэсіянальны падзел рабочых, бо апошні мае ў сваёй аснове ня што іншае, як менавіта ручную працу. Па меры разьвіцьця аўтоматызацыі, хэмізацыі і электрыфікацыі вытворчасьці пачне пераважваць дэпрофэсіяналізацыя працы, а разам з гэтым возьме верх і політэхнічнае выхаваньне.

Для бягучага адмежку часу, які супадае з пачаткам рэконструкцыйнага пэрыоду, зьяўляецца характэрным панаваньне ручной працы пры наяўнасьці зародкавых форм дэпрофэсіяналізацыі рабочай сілы. Гэта вядзе да таго, што профэсіянальная адукацыя мае ў сабе досыць разьвітую матар'яльную базу ў выглядзе буйных, сярэдніх і дробных прадпрыемстваў, тады як агульна-адукацыйная школа, якая павінна быць працоўнай політэхнічнай, у пераважнай большасьці выпадкаў ня мае ніякай вытворчай базы і таму ня можа лічыцца ня толькі політэхнічнай, але нават і працоўнай. Толькі ў апошні час зварочваецца больш увагі на разьвіцьцё фабрычна-заводзкіх сямігодак, у якіх выхаваўча-адукацыйная работа будуецца на аснове вывучэньня данага конкрэтнага прадпрыемства і якія, такім чынам, спрабуюць працерабіць сабе шлях да політэхнічнага выхаваньня. Але, калі гэтыя фабрычна-заводзкія сямігодкі ў кожным асобным выпадку маглі цалком аўладаць даным прадпрыемствам (што пры нашых „бягучых“ умовах покуль зьяўляецца ня лёгкай задачай), нават і тады-б яны не ажыцьцявілі прынцып разгорнутага політэхнічнага выхаваньня па тэй простай прычыне, што наша сучасная вытворчасьць пры даным узроўні тэхнікі ва ўмовах перавагі ручной працы зьяўляецца не заўсёды і ня зусім даступнай для непасрэднага ўдзелу ў гэтай вытворчасьці дзяцей, а часам і падросткаў. Ступень пераабсталяваньня нашых прадпрыемстваў на аснове найноўшай тэхнікі яшчэ не дасягнула такіх межаў, пры якіх меліся-б усе неабходныя прадпасылкі для політэхнічнага выхаваньня. Але зародкі гэтага выхаваньня ў савецкай школе і перш за ўсё ў фабрычна-заводзкай сямігодцы ёсьць у тэй ступені, у якой паказаная школа выкарыстоўвае ў сваіх пэдагогічных мэтах буйную вытворчасьць і ў якой гэта апошняя дае школе магчымасьць організаваць выхаваньне на падставе дэпрофэсіяналізаванай ўсебаковай працы. І так, мы прыходзім да вываду, што для бягучага пэрыоду профэсіянальная асьвета дыктуецца неабходнасьцю экономічнага разьвіцьця нашай краіны, і што ў той-жа час ствараюцца матар'яльныя прадпасылкі для політэхнічнага выхаваньня. Бліжэйшай задачай зьяўляецца знайсьці правільныя формы організацыі політэхнічнай школы.

У сувязі з нашым вывадам зусім законна паўстае пытаньне: „Значыцца, савецкая школа да гэтага часу ня была політэхнічнай? Як гэта ўзгадніць з тым, што кажуць нашы дырэктывы аб школе ў першы пэрыод рэволюцыі і програма УсеКП(б)?“ Перш за ўсё патрэбна адзначыць, што наш вывад не супярэчыць ні програме УсеКП(б), ні распараджэньням савецкай улады аб школе, ні выказваньням нашага правадыра Леніна па пытаньнях выхаваньня. Ва ўсіх офіцыйных дакумантах гаворыцца аб тым, што савецкая школа павінна быць політэхнічнай. Гэта высоўваецца як прынцып, які павінен быць ажыцьцёўлены безадкладна. Аднак, калі гэты прынцып высоўваўся ў першыя гады рэволюцыі (1918-19 г.г.), цяжка было прадбачыць, як хутка нам удасца адбудаваць разбураную імпэрыялістычнай вайной гаспадарку нашай краіны і як разбураюча ўзьдзейнічае на гэту гаспадарку грамадзянская вайна. На справе выявілася, што патрэбна было ня менш 8-9 год для таго, каб адбудаваць нашу гаспадарку да

даваеннага ўзроўню і толькі, прыкладна, з 1925 году пачаць так званы рэконструкцыйны пэрыод. Таму, нам не ўдалося ажыцьцявіць безадкладна ня толькі прынцып політэхнічнага выхаваньня, але і іншыя прынцыпы програмы комуністычнай партыі па пытаньнях асьветы. Так, напрыклад, мы павінны былі ануляваць на пэўны час прынцып дармовай адукацыі, толькі цяпер, на 13 годзе рэволюцыі, вырашаем пытаньне аб усеагульным абавязковым навучаньні. Яшчэ да гэтага часу не разгорнута ў нас, як належыць, сыстэма дашкольнага выхаваньня, недастаткова добра пастаўлена антырэлігійнае выхаваньне, яшчэ не ліквідавана няпісьменнасьць і г. д. Перад намі наперадзе яшчэ шмат работы, каб поўнасьцю ажыцьцёвіць тое, што патрабуе програма партыі. Таму нічога выпадковаго і немагчымага няма ў тым, што мы не знаходзім разгорнутага ў поўнай ступені політэхнічнага выхаваньня ў савецкай школе амаль да апошняга часу. І толькі зараз з пераходам да рэконструкцыі тэхнікі вытворчасьці СССР ствараюцца матар'яльныя магчымасьці зрабіць савецкую школу політэхнічнай.

Каб пабудаваць політэхнічную школу, трэба дакладна ўяўляць сабе, у чым менавіта заключаецца яе сутнасьць. На жаль, па гэтаму пытаньню ня існуе аднолькавай думкі, дзякуючы чаму ўскладняецца задача, па практычнаму правядзеньню ў жыцьцё прынцыпу політэхнічнага выхаваньня. Ужо зараз ёсьць некалькі тэорый. Мы, разумеецца, прымаем толькі тую, якая належыць Марксу, Энгельсу і Леніну. У пэрыод дыскусіі аб прынцыпах пабудовы савецкай школы ў 1919—21 гадох зьявіліся дзьве плыні, з якіх адна змагалася толькі за політэхнічнае выхаваньне, а другая — за профэсіянальную асьвету. Ужо тады Ленін рэзка крытыкаваў усю бязглуздасьць гэтай дыскусіі, бо апошняя вялася без усялякага вучоту практычнага вопыту і таму набывала адцягнуты характар. Акрамя таго, сама пастаноўка пытаньня— „ці політэхнічнае выхаваньне, ці монотэхнічная асьвета"—глыбока супярэчыла програме УсеКП(б), якая не выключала ні таго, ні другога. Пасьля крытычнага артыкулу Леніна: „Аб рабоце Наркамасьветы" і партнарады па пытаньнях асьветы, якая адбылася ў 1921 г., дыскусія спынілася, але асобныя яе праявы давалі сябе адчуваць і ў апошнія часы нашага школьнага будаўніцтва. У сувязі з тым, што проблема політэхнічнага выхаваньня ў бягучы пэрыод набывае актуальнае значэньне, зноў ажываюць тыя погляды, якія ўжо даўно былі асуджаны Леніным.

Зусім нядаўна ў часопісі: „Народное Просвещение", № 10, за 1928 год быў надрукаваны артыкул Н. Г. Казанскага: „Да пытаньня аб політэхнічнай адукацыі", у якім выказваецца яўна рэвізіяністцкія погляды. Аўтар згаданага артыкулу спрабуе давесьці, што Маркс, кажучы аб школе, у сваіх працах ужывае толькі тэрміны—„technologische" або „technische" і не карыстаецца тэрмінам—„політэхнічнае выхаваньне". Адсюль аўтар робіць вывад, быццам Маркс быў прыхільнікам профэсіянальнай школы, а не політэхнічнай. Казанскі тут выкрывае поўнае неразуменьне пэдагогічных поглядаў заснавальнікаў марксызму. У Маркса і Энгельса мы знаходзім ужываньне трох тэрмінаў—політэхнічнае выхаваньне, тэхнічная асьвета і тэхнолёгічнае навучаньне. Згаданыя тэрміны, адрозьніваючыся па знадворнай лінгвістычнай форме, не супярэчаць адзін другому па сэнсу. Аб політэхнічных школах Маркс гаворыць у першым томе „Капіталу"[1]) і супроцьстаўляе іх профэсіянальным прамысловым школам. Тут-жа ўпамінаецца тэхнолёгічнае навучаньне, якое па думцы Маркса зробіцца даступным для рабочых пасьля заваёвы імі політычнай ўлады. Зьмест гэтага тэхнолёгічнага навучаньня расшыфроўваецца ў рэзолюцыі 1-га конгрэсу 1-га Інтэрнацыяналу, якая была складзена Марксам. Там сказана, што пад тэхнолёгічным навучаньнем трэба разумець такое навучаньне, якое „павінна пазнаёміць з агульнымі навуковымі асновамі ўсіх вытворчых процэсаў і ў той-жа час навучыць дзіцё і падростка практычнаму ўжываньню і прыстасаваньню элемэнтарных інструмантаў усіх вытворчасьцяй".[2]). Па думцы Маркса, тэхнолёгічнае навучаньне павінна ствараць усебакова разьвітых вытворцаў. У такім-жа

[1]) К. Маркс. „Капитал", том № 1 под редакцией В. Базарова и И. Степанова. „Госиздат", 1923 г. Стр. 469.

[2]) А. П. Пинкевич. Педагогика. том 2, изд. 4, Издательство „Работник Просвещения". Москва, 1928 год. Стр. 73.

духу выказваецца і Энгельс, які сьцьвярджае, што „у соцыялістычнай грамадзе праца і выхаваньне будуць злучаны і для гэтага мяркуецца забясьпечыць падрастаючым пакаленьням усебаковую тэхнічную асьвету“.[1]) Такім чынам Маркс і Энгельс у даным выпадку ўжываюць тэрміны „тэхнолёгічнае навучаньне“ і „тэхнічная асьвета“ ня ў сэнсе аднабаковай профэсіянальна-тэхнічнай асьветы, а ў сэнсе „усебаковага, політэхнічнага выхаваньня“.

Казанскі раіць замест політэхнічнага выхаваньня ўжываць разуменьне—тэхнолёгічнае навучаньне. Для чаго гэта яму спатрэбілася? Для таго, каб апраўдаць сваю тэорыю профэсіянальнай асьветы. Політэхнізм ёсьць прынцып організацыі выхаваньня. Тэхнолёгічнае навучаньне мае адносіны да зьместу асьветы і можа быць як у політэхнічнай школе, так і ў профэсіянальнай. Сапраўды Маркс гаворыць аб выкладаньні тэхнолёгіі ў тэй і другой школе. Але мэты, характар, аб'ём і мэтод выкладаньня тэхнолёгіі ў гэтых школах розны. Тады як у політэхнічнай школе тэорытычна і практычна вывучаюцца агульныя навуковыя асновы ўсіх вытворчых процэсаў, у профэсіянальнай школе вывучаецца тэхнолёгія толькі аднэй якой-небудзь спэцыяльнай галіны вытворчасьці. Зварочваючы ўвагу на агульныя рысы згаданых школ, а менавіта, на выкладаньне тэхнолёгіі, Казанскі ня бачыць якаснай розьніцы паміж прынцыпамі політэхнічнага выхаваньня і профэсіянальнай асьветы. Тое і другое ў яго ўтоесамляецца. А гэта ўжо супярэчыць асновам марксыцкай пэдагогікі. Карэньні памылкі Казанскага ў тым, што ён разглядае профэсію, як вечную катэгорыю, якая быццам-бы будзе мець месца і ў комуністычнай грамадзе. Ён ня бачыць пэрспэктыў нашага гісторычнага разьвіцьця. Маркс і Энгельс, наадварот, сьцьвярджалі, што профэсія ў будучым адамрэ. У „Прынцыпах комунізму“ сказана наступнае: „Падзел працы, які ў сучасны момант ужо расхістаны машынай, і пэратварэньне аднаго ў селяніна, другога ў шаўца, трэцяга ў фабрычнага рабочага, чацьвёртага у біржавога спэкулянта, зьнікнуць зусім“.[1]) Прамысловасьць у комуністычнай грамадзе будзе мець патрэбу ў людзях з усебакова разьвітымі здольнасьцямі. Элемэнты дэпрофэсіяналізацыі працы Маркс і Энгельс бачылі яшчэ ў капіталістычнай буйнай вытворчасьці. „Падзел працы на мэханічнай фабрыцы—піша Маркс, адрозьнівае тое, што ён страчвае ўсялякі спэцыяльны характар. Але дзе спыняецца асаблівае разьвіцьцё, там узьнікае патрэба ва ўнівэрсальным, імкненьне да ўсебаковага разьвіцьця індывіда. Аўтоматычная фабрыка зьнішчае спэцыялістых і профэсіянальную вузкасьць“[2]).

Тое-ж сьцьвярджае і Ленін. „Капіталізм—піша ён,—няміноча пакідае ў спадчыну соцыялізму, з аднаго боку, старую, што вякамі складалася, профэсійную і рамёсную рознасьць паміж рабочымі, з другого боку, профсаюзы, якія толькі вельмі павольна, гадамі і гадамі, могуць разьвівацца і будуць разьвівацца ў больш шырокія, менш цэхавыя, вытворчыя саюзы (якія ахопліваюць цэлыя вытворчасьці, а ня толькі цэхі, рамёствы і профэсіі) і потым, праз гэтыя вытворчыя саюзы, пераходзіць да зьнішчэньня падзелу працы паміж людзьмі, да выхаваньня, навучаньня і падрыхтоўкі ўсебакова разьвітых і ўсебакова падрыхтаваных людзей, людзей, якія ўмеюць ўсё рабіць. Да гэтага комунізм ідзе, павінен ісьці, і прыдзе, але толькі праз доўгі шэраг год. Спрабаваць сёньня практычна прадрачы гэты будучы вынік зусім разьвітога, які зусім умацаваўся і склаўся, зусім разгорнутага і пасьпеўшага комунізму, гэта ўсёроўна, што 4-гадовае дзіцё вучыць вышэйшай матэматыцы“.[3])

Ці падобна гэта на тое, што сьцьвярджае Казанскі? Апошні, наадварот, думае, што ў комуністычнай грамадзе абмежавана перамена працы ці „магчымасьць пераходу з аднэй галіны вытворчасьці ў другую“, г. ё., прасьцей кажучы, будзе панаваць профэсіянальная вузкасьць.

---

[1]) Фр. Энгельс. „Анти-Дюринг“. Петроград. 1928 г. Стр. 287.

[1]) К. Маркс и Фр. Энгельс. „Коммунистический манифест“. Под редакцией Рязанова. Гос издат. М.—Л. 4-е издание, стр 319.

[2]) К. Маркс: „Нищета философии“. Изд. Петр. Сов. раб. и красноарм. депутатов. 1918 г. Стр. 151.

[3]) Ленин, том XVII, стр. 140—141.

Гэта ўсё, што хочаце, але толькі не марксызм. [1])

Патрэбна зьвярнуць увагу на згаданую цытату Леніна. Гэта цытата ўзята з брошуры: „Детская болезнь „левизны“ в коммунизме“, якая напісана ў 1920 годзе. На 3-м годзе рэволюцыі Ленін проста заяўляў, што нельга безадкладна перайсьці да ажыцьцяўленьня ўсіх прынцыпаў разгорнутага і пасьпелага комунізму, і што пераход „да зьнішчэньня падзелу працы паміж людзьмі, да выхаваньня, навучаньня і падрыхтоўкі ўсебакова разьвітых і ўсебакова падрыхтаваных людзей“ можа быць зроблены „праз доўгі шэраг год“. Аб чым гаворыць тут Ленін? Калі ўдумацца добра ў сутнасьць паданай цытаты, будзе зразумелым, што ён гаворыць тут аб умовах ажыцьцяўленьня разгорнутага політэхнічнага выхаваньня. Але думкі Леніна„—выхаваньне, навучаньне і падрыхтоўка ўсебакова разьвітых і ўсебакова падрыхтаваных людзей“ магчыма пры зьнішчэньні падзелу працы, а гэта апошняе магчыма пры пераходзе да комунізму. Да гэтага мы ідзем, але яшчэ ня прышлі. Так сказана Леніным у 1920 годзе. Гэтыя геніяльныя думкі нашага правадыра асабліва павінны быць улічаны тымі, хто думае, што савецкая школа на ўсім працягу свайго разьвіцьця заўсёды і бязумоўна была політэхнічнай. Ленін лічыў магчымым ажыцьцёвіць сапраўдную політэхнічную школу пры ўмовах зьнішчэньня падзелу працы, якое рэалізуецца на падставе высокага ўзроўню разьвіцьця тэхнікі вытворчасьці, характэрнай для комуністычнай грамады. Толькі цяпер, у рэконструкцыйны пэрыод, калі „доўгі шэраг год“, аб якім гаварыў Ленін, значна скараціўся, мы атрымоўваем магчымасьць рэальна падыйсьці да задачы ажыцьцяўленьня політэхнічнага выхаваньня.

Выхаваньне, якое па форме зьяўляецца політэхнічным, па зьместу павінна быць тэхнолёгічным. Гэта зьяўляецца бясспрэчным. Але як павінна вывучацца тэхнолёгія ў згаданай школе—вось гэта шмат для каго здаецца няясным. Некаторыя тэорэтыкі і практыкі, схіленыя да слоўнага выкладаньня, думаюць, што тэхнолёгія павінна вывучацца бяз сувязі з фабрычнай працай дзяцей, што ўвесь сэнс політэхнізму заключаецца толькі ў тэорытычным вывучэньні тэхнолёгіі. Гэта глыбока ня верна. Маркс і Энгельс, кажучы аб політэхнічным выхаваньні, заўсёды падкрэсьлівалі неабходнасьць ня толькі тэорытычнага, але і практычнага вывучэньня агульных навуковых падстаў усіх вытворчых працэсаў буйной прамысловасьці. Калі-б тэхнолёгія вывучалася толькі тэорытычна, без непасрэднага ўдзелу дзяцей у фабрычнай вытворчасьці, нельга было-б ажыцьцёвіць важнейшы прынцып марксыцкай пэдагогікі—злучэньне навучаньня з вытворчай працай дзяцей. У такім выпадку мы ня мелі нават звычайных працоўных школ. А нам патрэбна пабудаваць політэхнічную школу, якая можа існаваць толькі пры ўмове злучэньня навучаньня з фабрычнай дзіцячай працай. Растлумачваючы сутнасьць комуністычнага выхаваньня, Ленін заўсёды асабліва настойліва падкрэсьліваў неабходнасьць удзелу нашай моладзі ў працы рабочых і сялян. Ён казаў, што савецкая школа павінна быць на справе клясава-пролетарскай, дамагаючыся таго, каб даць падрастаючаму пакаленьню неабходнае практычнае ўменьне для ўдзелу ў рэволюцыйнай барацьбе пролетарыяту і соцыялістычным будаўніцтве. „Я ўпэўнены,—адзначае Ленін,—што савецкая ўлада дагоніць і перагоніць капіталістых, і што выйгрыш будзе ў нас ня толькі чыста экономічны. Мы атрымаем навуку, вывучку: нічога нявартa ніякая школа, ніякі унівэрсытэт, калі няма практычнага ўменьня“. [1]) Савецкая школа, праз якую праводзіцца комуністычнае выхаваньне, павінна даць вучням практычнае ўменьне. А як можна гэта зрабіць, калі ня будзе організавана вядомым чынам дзіцячая праца? Пры вывучэньні тэхнолёгіі тэорытычна бяз удзелу дзяцей у вытворчасьці гэтага ніяк дасягнуць нельга. Ленін патрабаваў, каб ня толькі дзеці, але і дарослыя вучыліся на сваім уласным практычным вопыце. Апошні ляжыць у

---

[1]) Больш падрабязна погляды Казанскага разглядаюцца ў маім артыкуле: „Супроць рэвізіоніцкага разуменьня поглядаў Маркса, Энгельса і Леніна“, што надрукаваны ў часопісі „Народное Просвещение“, № 1, за 1929 г.

[1]) Ленін. Том XVII. Стр. 398. Падкрэсьлена намі, П. П.

аснове вытворчага выхаваньня працоўных. „Мы праз 10 год напэўна павінны будзем сказаць,—піша Ленін,—што ў ва ўсіх работнікаў партыі і профсаюзаў дастатковага вытворчага выхаваньня няма, як ня будзе праз 10 год дастатковага ваеннага выхаваньня ва ўсіх работнікаў партыі, профсаюзаў, ваеннага ведамства. Але пачатак вытворчага выхаваньня ў нас створаны тым, што каля тысячы рабочых, членаў і дэлегатаў профсаюзаў, удзельнічае у кіраўніцтве і кіруе прадпрыемствамі, глаўкамі і вышэй. Асноўны прынцып „вытворчага выхаваньня“, выхаваньня нас саміх, старых нелегальшчыкаў і профэсіянальных журналістых, зьяўляецца ў тым, каб мы самзмагаліся і другіх вучылі змагацца за найуважлівае і найпадрабязнае вывучэньне нашага ўласнага практычнага вопыту, па правілу: „сем раз адмерай, адзін адрэж“. Настойлівая, павольная, асьцярожная, дзелавая, дзелавітая праверка таго, што зрабіла гэта тысяча, яшчэ больш асьцярожнае і дзелавітае выпраўленьне іх работы і прасоўваньне ўперад толькі пасьля цалкам давядзенай карысьці данага прыёму, данай сыстэмы кіраўніцтва, данай пропорцыі, данага падбору асоб і г. д.—вось асноўнае, карэннае, бязумоўнае правіла „вытворчага выхаваньня“... [1]) Ленін патрабуе злучэньня тэорыі і практыкі. Калі-б тэхнолёгія вывучалася ў школе бяз дзіцячай працы, быў-бы разрыў паміж тэорыяй і практыкай, мы сталі-б на шлях не політэхнічнай школы, а ілюстрацыйна-слоўнай. Ленін сьцьвярджае, што „нельга сабе ўявіць ідэалу будучага грамадзтва бяз злучэньня навучаньня з вытворчай працай маладога пакаленьня: ні навучаньне і адукацыя бяз вытворчай працы, ні вытворчая праца без паралельнага навучаньня і адукацыі не маглі-б быць пастаўлены на тую вышыню, якая патрабуецца сучасным узроўнем тэхнікі і становішчам навуковых ведаў“. [2]) Гэтага зусім досыць, каб раз назаўсёды адмовіцца ад рэстаўрацыі ілюстрацыйнай школы.

Ёсьць думка, што тэхнолёгію ў політэхнічнай школе трэба вывучаць тэарытычна і практычна, але што яе трэба і можна вывучаць толькі ў межах аднэй фабрыкі ці, па крайняй меры, у межах якой-небудзь аднэй галіны буйнай прамысловасьці. Пры гэтым прыхільнікі згаданай думкі зусім ня схілены падменьваць політэхнічнае выхаваньне профэсіянальнай асьветай. Для апраўданьня свайго пункту погляду яны высоўваюць галоўным мотывам тое, што нельга „об‘ять необ‘ятное“, нельга азнаёміцца з тэхнолёгіяй розных галін буйнай прамысловасьці. Гэта думка адлюстроўвае ў сабе вядомыя традыцыі профэсіяналізму. Яго прыхільнікі забываюць, што сучасная буйная прамысловасьць стварае прадпасылку для дэпрофэсіяналізацыі працы. Цяпер ужо ёсьць магчымасьць знайсьці агульныя моманты процэсу вытворчасьці ў розных галінах прамысловасьці і вывучаць іх як тэорытычна, так і практычна ў параўнаўча кароткі час, пры чым гэта па сваёй прастаце зьяўляецца даступным нават і для малалетняга дзіцяці. „У тых галінах прамысловасьці, якімі заўладоўвае машына,—праўдзіва піша Каўцкі ў гады, калі ён яшчэ не парваў, як цяпер, з марксызмам,—яна зьнішчае для рабочага неабходнасьць шматгадовага ўпартага навучаньня, каб аўладаць сваёй пэўнай спэцыяльнасьцю Але яна ў той-жа час робіць немагчымым, каб чалавек у працягу ўсяго свайго жыцьця заставаўся прымацаваным да пэўнай частковай опэрацыі, таму што яна паступова рэволюцыянізуе ўмовы вытворчасьці, выштурхвае рабочага з аднэй галіны прамысловасьці і заганяе ў другую“. [1])

Тут Каўцкі зусім дакладна комэнтыруе вывады Маркса. „У ліку шмат якіх прадпасылак такой перамены ёсьць адна —пэдагогічнага характару,—прадаўжае ён. Рабочая кляса павінна набыць навуковае знаёмства з процэсам і мэтодамі вытворчасьці, павінна набыць практычнае ўменьне кіраваць самымі разнаітымі прыладамі вытворчасьці“. [2]) Менавіта вось у гэтым павінна заключацца сутнасьць політэхнічнага выхаваньня. Ня вывучэньне тэхнолёгіі аднэй фабрыкі ці аднэй галіны прамысловасьці, а вывучэньне процэсу і мэтоду розных вытворчасьцяй з мэтай набыцьця практычнага ўменьня „кіраваць самымі разнаітымі прыладамі“ сучаснай

[1]) Ленін. Том XVIII, ч. 1, стр. 56.
[2]) Ленін. Том II, стр. 288. Госиздат. 1926 г.

[1]) Каутский Том 1, Госиздат. 1928 г. Стр. 148.
[2]) Каутский. Том 1, Стр. 149. Падкрэсьлена намі, П. П.

буйнай прамысловасьці—вось што павінна цікавіць нашу савецкую пэдагогіку.

Мы павінны памятаць, што ў комуністычнай грамадзе „выхаваньне дазволіць маладым людзям хутка знаёміцца з усёю сыстэмай вытворчасьці, яно дазволіць ім па чарзе пераходзіць ад аднэй галіны прамысловасьці да другой у залежнасьці ад гатрэбы грамадзтва ці іх уласных нахілаў“.[1]) Знайсьці элемэнты гэтага будучага ў сучасным і адпаведным чынам організаваць дзіцячую працу—наша бліжэйшая задача.

Мы сьцьвярджаем, што політэхнічнае выхаваньне мае сваёй матар‘яльнай базай буйную машынную індустрыю і вырастае з рэволюцыйных умоў капіталістычнай грамады, становячыся адным з політычных патрабаваньняў пролетарыяту. Аднак, існуе тэорыя, быццам політэхнічнае выхаваньне ня зьвязана з пэўнымі грамадзкімі адносінамі і можа будавацца на падставе розных форм працы, як ручной, так і фабрычнай. Няцяжка давесьці, што гэта тэорыя зьяўляецца няправільнай, і што політычна яна прыводзіць да шкодных вынікаў. Калі дапусьцім, што політэхнічнае выхаваньне можа абапірацца на дробную і буйную вытворчасьць, трэба шукаць элемэнты гэтага выхаваньня ва ўсёй пэдагогічнай сыстэме, якая патрабуе ўсебаковага разьвіцьця чалавека на падставе злучэньня навучаньня з вытворчай працай. У такім выпадку мы знайшлі-б політэхнічнае выхаваньне і ў Томаса Мора, і ў Руссо, і ў Пэсталёцці, і ў філянтропістых, і ў Дзюі і г. д. Гэта выхаваньне страціла-б сваю якасную асаблівасьць іператварылася-б у катэгорыю, якая мае месца ва ўмовах розных грамадзкіх адносін і ў розных гісторычных эпох. Тут адбылося-б, кажучы філёзофскай мовай, зьвядзеньне якасьці да колькасьці. Політэхнічнае выхаваньне, як самастойная, сваявідная катэгорыя, спыніла-б сваё існаваньне, бо разбавілася-б у агульнай сыстэме працоўнага выхаваньня. У некаторых пэдагогаў-тэорэтыкаў на самай справе так і атрымоўваецца.

Аналізуючы пэдагогічныя погляды Руссо, Медынскі піша: „Руссо не абмяжоўваецца вывучэньнем аднаго рамяства: ён праводзіць ідэю політэхнічнага выхаваньня. На самай справе: Эмілю добра знаёмы ўсе сельска-гаспадарчыя работы, адно рамяство ён вывучыў добра, як сапраўдны майстра і прытым вывучыў яго ў сапраўднай працоўнай абстаноўцы, і, нарэшце, ён ведае асноўныя прыёмы ўсіх іншых рамёстваў[1])... Ітак, па Медынскаму, Руссо будуе політэхнічнае выхаваньне на падставе рамесьніцкай вытворчасьці.

Кажучы аб Пэсталёцці, Медынскі зазначае, што гэты выдатны для свайго часу пэдагог у сваім працоўным выхаваньні не стаіць, такім чынам, на пункце гледжаньня вузкага профэсіяналізму, рамесьніцтва ці нават шматрамесьніцтва, але ўзвышаецца да ідэі політэхнічнага працоўнага выхаваньня (паколькі дазваляла недастаткова разьвітая ў гэты час прамысловасьць[2]). Такім чынам Пэсталёцці аказваецца прыхільнікам політэхнічнага выхаваньня, ня глядзячы на тое, што апошні ў сваіх абяцаньнях ня выходзіў з рамак рамесьніцкай і мануфактурнай вытворчасьці. Сам Пэсталёцці паказвае на наступную матар‘яльную базу для працоўнага выхаваньня: „Земляробства, хатняя гаспадарка і рамяство не маглі быць маёй мэтай. Разьвіцьцё чалавечнасьці было гэтай мэтай, для дасягненьня якой я глядзеў на земляробства, хатнюю гаспадарку і рамесьніцтва, толькі як на дапаможныя сродкі[3])“. Значыцца, Пэсталёцці будаваў працоўнае выхаваньне на падставе дробнай вытворчасьці. У разьдзеле аб Марксе Медынскі зусім правільна даводзіць, што ў Маркса політэхнічнае выхаваньне выводзіцца з рэволюцыйных умоў капіталістычнае буйнай індустрыі. Комэнтуючы пэдагогічныя погляды Спэнсэра, Медынскі таксама і ў яго знаходзіць ідэі політэхнічнага выхаваньня, ня гледзячы на тое, што Спэнсэр выступае, як ідэолёг прамысловага капіталізму, і зьяўляецца па сьветапогляду простым антыподам Маркса. Адзначыўшы, што Спэнсэр раіць вывучаць 10 навуковых дысцыплін—лёгіку,

[1]) К. Маркс и Фр. Энгельс. „Коммунистический Манифест“. Под редакцией Рязанова. Госиздат. Стр. 319.

[1]) Медынский „История педагогики“, том II. Изд. „Работник Просвещения“ 1926 г. стр. 40.

[2]) Медынский „История педагогики“, том II, стр. 83.

[3]) Медынский „История педагогики“, том II, стр. 82.

арытмэтыку, геомэтрыю, мэханiку, фiзыку, хэмiю, астраномiю, гэолёгiю, бiолёгiю, грамадазнаўства, Медынскi пiша: „Пры гэтым Спэнсэр нiдзе не агаварваецца, што асобным людзям патрэбна спэцыялiзацыя ў тэй цi iншай галiне навук, але пералiчвае гэты круг навук, як рэкомэндуемы для ўсiх. Iнакшымi словамi, у яго няма тэндэнцый да профэсiяналiзму, але намечана шырокая полiтэхнiчная асьвета. Яго асьвета мае на мэце падрыхтаваць члена капiталiстычнага грамадзтва што ўжо разьвiлося, якi мог-бы орыентавацца ва ўсiх галiнах сучаснай прамысловасьцi i гандлёвага жыцьця. Здавалася-б, iнтарэсы прамысловасьцi, з якiх увесь час выходзiць Спэнсэр, намячаючы сваю сыстэму полiтэхнiчнай асьветы, павiнны былi весьцi яго да iдэi працоўнага выхаваньня, тым больш, што патрабаваньнi вывучэньня рамяства мае месца нават у Лёкка, ня кажучы ўжо аб цэлым шэрагу iншых папярэднiкаў пэдагогаў. Надзвычайна шырока i дэталёва абгрунтаваўшы неабходнасьць полiтэхнiчнай асьветы, Спэнсэр, аднак, нiводным словам ня спыняецца аднosна працоўнага выхаваньня, нiдзе не паказаў хаця-б на пажаданасьць вытворчых экскурсiй. Ён быццам асьцерагае сваiх выхавальнiкаў ад нагляданьня працоўнага жыцьця грамадзтва. Яго полiтэхнiзм, выходзячы з патрэбаў прамысловага жыцьця, застаецца зусiм адарваным ад процэсу вытворчага жыцьця i тым самым набывае характар ультра-буржуазны"[1]). Як вiдаць з паданай цытаты, Медынскi думае, што Спэнсэр зьяўляецца прыхiльнiкам шырокай полiтэхнiчнай асьветы, ня гледзячы на тое, што ён нi слова не гаворыць аб працоўным выхаваньнi, i што яго „полiтэхнiзм застаецца зусiм адарваным ад процэсу вытворчага жыцьця". Мяркуючы так, Медынскi знайшоў полiтэхнiзм там, дзе яго на самай справе ня iснуе. Цi можна гаварыць пра полiтэхнiчнае выхаваньне ў такога аўтара, якi нават не прызнае працоўнага выхаваньня? Вядома, нельга. Полiтэхнiчнае выхаваньне заўсёды зьяўляецца працоўным, тады як працоўнае выхаваньне не заўсёды зьяўляецца полiтэхнiчным. Калi Спэнсэр не прызнае працоўнага выхаваньня, у яго ня можа быць i полiтэхнiчнага. Што-ж урэшце атрымоўваецца па Медынскаму? А атрымоўваецца тое, што полiтэхнiчнае выхаваньне быццам-бы мае месца ў пэдагогiчных сыстэмах дробнай буржуазii, буйнай буржуазii i пролетарыяту. Межы памiж клясамi па гэтаму пытаньню сьцiраюцца, утожсамляюцца розныя сыстэмы выхаваньня ў розных кляс, полiтэхнiзм ператвараецца ў адцягнутае разуменьне бясклясавага зьместу. Праўда, Мэдынскi, гаворачы аб Спэнсэру, называе яго полiтэхнiзм „ультра-буржуазным". Але ад гэтага робiцца не лягчэй, бо ў Спэнсэра нiякага полiтэхнiзму няма. А спроба Медынскага знайсьцi тут полiтэхнiзм ускрывае яго тэндэнцыю зрабiць гэта пэўнае клясавае разуменьне годным для усякiх часоў i кляс, г. ё. зрабiць гэта разуменьне бясклясавым.

Прыкладна такую-ж памылку робiць i С. А. Каменеў, якi ў сваёй кнiзе: „Советская трудовая школа" прыпiсвае амэрыканскаму пэдагогу Дзюi iдэю полiтэхнiчнага выхаваньня. „Мала таго,—пiша Каменеў,—у гэтай „iдэальнай" школе (г. ё. у школе Дзюi. П. П.) „вытворчасьць прадстаўляецца ў занадта прылiзанай i прыгладжанай форме—майстэрня, як самазаключаная школьная организацыя, зусiм ня зьвязана з сапраўднай рабочай майстэрняй i „маленькая лябораторыя", як цяплiчны iнстытут, зноў такi адгароджаны ад жыцьця. I побач з гэтым, як характэрны вузорчык буржуазных „лятуценьняў"—гутарка аб полiтэхнiчнай школе[1]). Няўжо гутарка аб полiтэхнiчнай школе ёсьць характэрны вузорчык буржуазных лятуценьняў? Няўжо Маркс, якi зусiм ясна формуляваў прынцып полiтэхнiзму для пролетарскай школы, займаўся буржуазнымi лятуценьнямi? Штосьцi ня вяжацца. А па сутнасьцi буржуазiя марыць не аб полiтэхнiчным выхаваньнi, а аб профэсiянальнай асьвеце. Каменеў удала крытыкуе Дзюi за тое, што гэты апошнi разумее вытворчасьць „у надзвычайна прылiзанай i прыгладжанай форме" i гаворыць аб вучэбнай майстэрнi, адарванай ад сапраўдных прадпрыемстваў. У гэтым Каменеў праў, але ня праў у прыпiсваньнi Дзюi iдэi

[1]) Там жа, стар. 236.

[1]) С. А. Каменев „Советская трудовая школа" Паўночна-Каўкаскае краявое выдавецтва. „Севкаўкнiга". Растоў-Дон. 1925 г. стар. 122.

політэхнізму". Дзюі зразумеў,—піша Каменеў,—што спэцыфічнасьць індустрыяльнай вытворчасьці патрабуе шырокай політэхнічнай асьветы, замест вузкай, профэсіянальнай вывучкі, якая зьяўляецца у сучасных умовах перажыткам мануфактурнай вытворчасьці"[1]). Зусім магчыма, Дзюі гэта і зразумеў, але ён ня мог, з прычыны свайго клясавага палажэньня распрацаваць пасьлядоўную сыстэму політэхнічнага выхаваньня. Між іншым, Каменеў быццам і сам прыходзіў да такога вываду, блытаючыся ў тупіку няясных формулёвак. „І тут,—кажа ён,—ставячы пытаньне аб політэхнічнай асьвеце, Дзюі затушоўвае яе канечную мэту, тым самым, як-бы зьнішчаючы бясcумненна здаровыя прадпасылкі політэхнізму, якія маюць месца ў разважаньнях Дзюі"[2]). Мы рашуча супярэчым таму, каб шукаць у разважаньнях данага буржуазнага дэмократа „здаровыя прадпасылкі політэхнізму". Аднак, Каменеў праў у тым, што Дзюі затушоўвае канечную мэту выхаваньня.

Медынскі і Каменеў робяць адну агульную памылку: яны думаюць, што політэхнічнае выхаваньне можа быць прынята буржуазіяй. На самай справе буржуазная школа, ні ў аднэй капіталістычнай краіне ня будуецца на падставе політэхнізму, бо гэта глыбока супярэчыць клясавым інтарэсам экcплёататараў. Будаваць політэхнічную школу для пролетарыяту, буржуазія зусім ня цікавіцца, таму што яна рэстаўруе ў буйнай вытворчасьці мануфактурную сыстэму падзелу працы і таму лічыць для сябе выгодным даваць рабочай клясе профэсіянальную асьвету. Толькі ў апошнія часы ўсё сьмялей і сьмялей раздаюцца ў буржуазным лягеры галасы за ўсебаковае выхаваньне рабочага ў сувязі з вельмі рэволюцыйным разьвіцьцём тэхнікі сучаснай буйнай індустрыі. Але наўрад ці буржуазія пойдзе калі-небудзь на тое, каб організаваць для пролетараў політэхнічную школу. Выхаваньне ў такой школе спрыяла-б разьвіцьцю політычнай актыўнасьці і рэволюцыйнай сьвядомасьці ў маладых рабочых, а гэта азначала-б ідэолёгічную падрыхтоўку пролетарыяту для ўзрыву капіталістычнай грамады. Калі Маркс у свой час высоўваў ідэю політэхнічнага выхаваньня, ён меў на ўвазе менавіта гэта рэволюцыянізуючае значэньне згаданага выхаваньня і тады, даводзіў, што прынцып політэхнізму будзе поўнасьцю ажыцьцёўлены толькі пры захопе рабочай клясай політычнай улады. Нездарма цяпер політэхнічнае выхаваньне зрабілася адным з програмных патрабаваньняў комуністычнай партыі. Ітак, буржуазія не зацікаўлена будаваць політэхнічную школу для пролетарыяту. А можа яна зацікаўлена пабудаваць такую школу для сваіх дзяцей? Сапраўды, буржуазныя мысьліцелі шмат гавораць аб усебаковым выхаваньні. Але ажыцьцёвіць усебаковае выхаваньне на падставе буйнай вытворчасьці буржуазія ня можа. Для гэтай мэты давялося-б пасылаць сваіх дзяцей на фабрыкі і заводы, каб там выхоўваць іх у процэсе працы. У такім выпадку выявілася-б, што дзеці буржуазіі вучыліся-б разам з дзяцьмі пролетарыяту. Гэта не адпавядала-б клясавым забабонам экcплёататараў. Акрамя таго, буржуазія імкнецца падрыхтаваць з сваіх дзяцей не рабочых, а кіраўнікоў капіталістычнага грамадзтва. Політэхнічнае выхаваньне, рыхтуючы ўсебакова разьвітых вытворцаў, не адказвае патрабаваньням пануючай клясы. Таму, у буржуазнай школе так званае ўсебаковае выхаваньне не абапіраецца на буйную вытворчасьць і зыходзіць толькі да завучваньня вядомага комплексу ведаў, якія дыктуюцца патрэбаю капіталізму, што разьвіваецца. А такое выхаваньне, хоць яно і называецца ўсебаковым, па сутнасьці зьяўляецца абмежаваным і адцягнутым. Тыя, хто думае шукаць політэхнізму у буржуазных пэдагогічных сыстэмах, няхай успомняць і прадумаюць грунтоўна наступныя словы Леніна: „Старая школа заяўляла, што яна хоча стварыць чалавека ўсебакова адукаванага, што яна вучыць навукам наогул. Мы ведаем, што гэта наскрозь было хлусьнёю, бо ўсё грамадзтва было заснавана і трымалася на падзеле людзей на клясы, на экcплёататараў і прыгнечаных. Натуральна, што ўся старая школа, будучы цалком пранізана клясавым духам, давала-б веды толькі дзецям буржуазіі. Кожнае слова яе было

[1]) С. А. Каменев, „Советская трудовая школа". Паўночна-Каўкаскае краявое выдавецтва „Севкавкнига". Растоў-Дон .1925 г. Стар. 133.

[2]) Там-жа, стар. 123.

падроблена ў інтарэсах буржуазіі. У гэтых школах маладое пакаленьне рабочых і сялян ня столькі выхоўвалі, сколькі вымуштроўвалі ў інтарэсах тае-ж буржуазіі. Выхоўвалі іх так, каб ствараць для яе вартых лёкаяў, якія былі-б здольны даваць ёй прыбытак і разам з тым ня трывожылі-б яе супакою і гультайства[1])". У гэтых надзвычайна ўдалых словах Ленін руйнуюча крытыкуе выхаваньне ў старой школе і рашуча адмаўляе, што гэта клясавая школа давала чалавеку ўсебаковую адукацыю. Паслухайце яшчэ. „Старая грамада,—гаворыць ён далей,—была заснавана на такім прынцыпе, што або ты рабуеш другога, або другі рабуе цябе, або ты працуеш на другога, або ён на цябе, або ты рабаўласьнік, або ты раб. І зразумела, што выхаваныя ў тым грамадзтве людзі, можна сказаць, з малаком маці ўспрыймаюць псыхолёгію, прывычку, разуменьне—або рабаўласьнік, або раб, або дробны ўласьнік, дробны служачы, дробны чыноўнік, інтэлігент, словам, чалавек, які клапоціцца толькі аб тым, каб мець сваё, а да другога яму няма ніякага дачыненьня. Калі я гаспадар на гэтай дзялянцы зямлі, мне справы няма да другога; калі другі будзе галадаць, тым лепш, я даражэй прадам свой хлеб. Калі я маю сваё месца, як ўрач, як інжынэр, настаўнік, служачы, мне справы няма да другога[2])". Тут Ленін гаворыць аб клясавай псыхолёгіі чалавека дарэволюцыйнай Расіі, які папаў па спадчыне і ў савецкае грамадзтва, як перажытак адміраючых кляс. Эгоізм, індывідуалізм, уласьніцкія перажываньні, азьвярэньне, абмежаванасьць—вось якога чалавека спараджае клясавае грамадзтва. Дзе-ж тут ўсебаковае разьвіцьцё індывідуума?

Ніводная буржуазная сыстэма выхаваньня, з прычыны сваей клясавай сваяведнай природы, ня можа гаварыць аб стварэньні політэхнічнай школы.

Займаючыся аглядам розных тэорый працоўнага выхаваньня ў кнізе „Педагогика", А. П. Пінкевіч характарызуе сваю ўласную позыцыю такім чынам: „Значыцца мы далёкі ад мануалізму (захапленьня ручной працай) у якім хочаце выглядзе. Ручная праца, сапраўды, зьяўляецца перажыткам мінулага, рамяство саступіла сваё месца індустрыяльнай вытворчасьці, калі мы хочам зразумець сучасную культуру, „ужыцца" ў яе, зразумець быт і ідэолёгію пролетарыяту, „зажыць" гэтай ідэолёгіяй, мы павінны ўвабраць у сябе культуру буйнай машыннай вытворчасьці, наша школа павінна стаць індустрыяльнай[1])". Ітак, Пінкевіч праўдзіва лічыць, што „ручная праца зьяўляецца перажыткам мінулага", што „рамесьніцтва саступіла сваё месца індустрыяльнай вытворчасьці", і што ўрэшце савецкая школа павінна стаць індустрыяльнай. Орыентыроўка Пінкевіча на буйную вытворчасьць у адносінах выхаваньня для нас застаецца бяссумненнай. Таму мы асабліва зьдзіўлены тым, што побач з паказаным правільным сьцьвярджэньнем, наш аўтар становіцца на небясьпечны шлях, дапускаючы ўтоесамленьне пэдагогічнай сыстэмы Робэна з тэорыяй політэхнічнага выхаваньня.

Пры тэй устаноўцы, якую заняў аўтар у адносінах індустрыяльнай школы, можна было-б чакаць ад яго правільных адносін і да політэхнічнага выхаваньня. На справе выявілася другое. „Такім чынам, характэрнымі рысамі сыстэмы Робэна, калі толькі можна назваць яго погляды „сыстэмай",—піша Пінкевіч,—зьяўляліся: сумеснае выхаваньне, інтэграцыя фізычнай і політэхнічнай працы, прадметнасьць, ляброраторнасьць, дасьледчы характар вывучэньня навук, блізкасьць да прыроды і культаваньня пачуцьця свабоды і ўзаемадапамогі ў школе[2])". Пінкевіч лічыць, што аднэй з асаблівасьцяй пэдагогічных поглядаў Робэна зьяўляецца, паміж іншым, інтэграцыя фізычнай і політэхнічнай працы. Перш за ўсе неабходна зазначыць, што гэты выраз „інтэграцыя" фізычнай і політэхнічнай працы—зьяўляецца па сэнсу няправільным, бо разуменьне „політэхнічная праца" ўжо вычэрпвае сабою разуменьне „фізычная праца". Першае ня можа быць бяз другога. Характэрна, што тэрмін „політэхнічная праца" ўжывае ня Робэн, а Пінкевіч, апошняму хочацца

---

1) Ленін Том XVII, стар. 315—316.
2) Там-жа, стар. 323—324.

1) А. П. Пинкевич. „Педагогика", том II. Выд. 4-е. „Работник просвещения". Москва, 1928 г. Стар. 80.
2) А. П. Пинкевич, „Педагогика". Том II, стар. 77.

бачыць у Робэна наяўнасьць політэхнічнага выхаваньня, хоць той высоўвае ідэю інтэгральнага выхаваньня. Пінкевіч дапушчае сур'ёзную прынцыповую памылку, а менавіта: утоесамляе вучэньне Маркса з вучэньнем анархістага Робэна. Уважліва ўдумайцеся ў наступныя словы Пінкевіча: „Маркс зрабіў пэўны уплыў на шмат каго з сваіх таварышоў па 1-му Інтэрнацыяналу; па крайняй меры погляды Маркса былі цалкам успрыняты Робэнам, які паспрабаваў нават практычна іх ажыцьцёвіць, а ў тэорытычнай форме разьвіваліся і Крапоткіным“ [1]). Што-ж выходзіць па Пінкевічу? А выходзіць тое, што быццам Робэн, які па сьветапогляду быў прудоністым, а не марксыстым, цалком успрыняў пэдагогічныя погляды Маркса. І нават больш гэтага—марксыстым аказаўся і Крапоткін, бо ён, як тлумачыць Пінкевіч, „у тэорытычнай форме“ разьвіваў пэдагогічныя погляды заснавальнікаў марксызму. Робэн і Крапоткін абвешчаны прыхільнікамі політэхнічнага выхаваньня, а Маркс і Энгельс—прыхільнікамі „інтэгральнай асьветы“. „Пасьля Робэна па сутнасьці ня прыходзіцца гаварыць аб Крапоткіне,—піша Пінкевіч,—таму што яго ідэі цалком пераняты і праведзены на практыцы ў школе Сампюі. Ён так сама, як Маркс, як Робэн,—прыхільнік „інтэгральнай асьветы“ [2]). Да такога вываду магла-б прывесьці толькі формальная мэханістычная лёгіка, якая дазваляе ўтоесамляць зусім розныя рэчы без падкрэсьліваньня іх супроцьлегласьці. Пінкевіч дапусьціў гэтую памылку дзякуючы таму, што лічыць магчымым будаваць політэхнічнае выхаваньне ня толькі на падставе буйнай машыннай індустрыі, але і на ручной працы. Ён бачыць, што Робэн агалашае прынцып „інтэгральнай асьветы“ на падставе ўсебаковай ручной працы, на тэй падставе, якую ён, Пінкевіч, бачыць у політэхнічнай школе. „У школе Робэна выкладалася каля 20 розных рамёстваў, расказвае наш аўтар,—значыцца, выбар быў вялікі. Рамесьніцкай ручной працай былі заняты хлопчыкі і дзяўчынкі. Такім чынам, дзеці ў Сампюі атрымоўвалі ў галіне ручной працы рознавыглядную, так званую „політэхнічную“ падрыхтоўку, знаёмячыся з усімі выглядамі фізычнай працы“ [1]). Калі політэхнічнае выхаваньне і інтэгральная асьвета маюць аднолькавую матар'яльную падставу, значыць, гэтыя сыстэмы выхаваньня, па думцы Пінкевіча,—адно і тое-ж. Анархісты Робэн у комэнтарыях нашага аўтара ператварыўся ў марксыстага, ня гледзячы на тое, што гэты самы Робэн даходзіць у некаторых выпадках да самых сапраўдных рэакцыйных поглядаў.

Па-першае, ён лічыць магчымым пачынаць спэцыялізацыю дзяцей з 12 год, абмяжоўваючы фактычна прынцып усебаковага разьвіцьця чалавека досыць кароткім тэрмінам. Па-другое, ён зьяўляецца заўзятым прыхільнікам свабоднага выхаваньня. І нарэшце, па-трэцяе, ён будуе сваю сыстэму інтэгральнай асьветы толькі на ручной працы, ні слова ня кажучы аб буйнай вытворчасьці. Такім чынам, у сваіх галоўнейшых рысах пэдагогічныя погляды Робэна, будучы глыбока дробна-буржуазнымі, ніяк не супадаюць з поглядамі Маркса. Толькі той з нашых мысьліцеляў, хто траціць марксыцкае чуцьцё, можа дайсьці да такой рызыкоўнай мяжы, як утоесамленьне марксызму з проданізмам. Поруч трэба зазначыць, што кніга Пінкевіча „Педагогика“, дзе ёсьць такія памылкі, як толькі што разгледжаныя, зьяўляецца падручнікам, які выходзіць ужо чацьвёртым выданьнем і па якому вучыцца шмат соцень нашай моладзі. Такую літаратуру трэба падпарадкаваць найстрогай крытыцы.

Досыць шырока распаўсюджаны пункт гледжаньня, што наша савецкая школа зьяўляецца політэхнічнай. С. Шабалаў у сваім артыкуле „Політэхнізм у сучаснай савецкай школе“ [2]) піша: „...Політэхнічная школа ня ёсьць якая-небудзь асобная рознавыгляднасьць савецкай працоўнай школы. Уся наша масавая школа рушыць па шляху да ажыцьцяўленьня політэхнічнага выхаваньня. Увесь масыў савецкай школы мае парасткі політэхнізму. Але адна катэгорыя школ пайшла далёка па лесьвіцы, якая вядзе да ажыцьцяўленьня сапраўднай політэхнічнай школы, другая знаходзіцца

[1]) А. А. Пинкевич: „Педагогика“, том, II, стар. 75.
[2]) Ён жа „Педагогика“, том II, стар. 77, падкрэсьлена намі. *П. П.*

[1]) Там-жа, стар. 76. Падкрэсьлена намі. П. П.
[2]) Часопісь „Народное Просвещение“, № 11 за 1928 г., стар. 75.

ў самым пачатку яе. Адна ўжо падыходзіць да афармленьня гэтых парасьляў у акрэсьленую сыстэму, другая яшчэ не дарасла да гэтага. Ступень пасоўваньня школы ў гэтым напрамку знаходзіцца ў простай залежнасьці ад умоў работы школы і ад яе сіл і сродкаў[1]). Такім чынам, Шабалаў сьцьвярджае, што ўся наша савецкая школа без выключэньня зьяўляецца політэхнічнай, і што розьніца паміж асобнымі відамі нашай школы толькі колькасная, а ня якасная. Згодна гэтай тэорыі, мы павінны паставіць знак роўнасьці паміж агульна-адукацыйнай сямігодкай, фабзавучам, профшколай і г. д. у адносінах якасных асаблівасьцяй організацыі дзіцячай працы. Але гэта супярэчыць рачаіснасьці. Кожны разумее, што ў гэтых школах выхаваньне і навучаньне адбываецца па рознаму, ня гледзячы на тое, што ўсе яны маюць адну пролетарскую сутнасьць. Тады, як у школе фабзавучу ці профшколе даецца профэсіянальная асьвета, у звычайнай сямігодцы вучні атрымоўваюць агульную адукацыю. Тут мы зноў маем спробу ўтоесамляць розныя рэчы. Назваць профэсіянальную школу політэхнічнай ніяк нельга, хоць бы у гэтай школе і былі некаторыя элемэнты політэхнізму, таксама як і, наадварот, нельга назваць політэхнічную школу профэсіянальнай, хаця-б у гэтай апошняй мелі месца некаторыя элемэнты профэсіяналізму. Таму няправільны тэзіс Шабалава, што „політэхнічная школа ня ёсьць рознавыгляднасьць савецкай працоўнай школы“. Памылка гэтага тэзісу заключаецца ў тым, што аўтар спрабуе знайсьці політэхнізм у тэй ці іншай ступені ва ўсіх рознавыглядднасьцях савецкай школы, незалежна ад характару організацыі дзіцячай працы і ад асаблівасьці таго матар'яльнага базысу, на якім будуецца выхаваньне ў данай школе. Уся бяда ў тым, што і Шабалаў поруч з шмат іншымі лічыць магчымым праводзіць політэхнічнае выхаваньне ня толькі на падставе буйнай вытворчасьці, але і на ручной працы. Усе тыя, хто адстойвае ручную працу, як аснову політэхнічнага выхаваньня, ніяк ня могуць зразумець, што гэтая праца нямінуча вядзе не да політэхнізму, а да профэсіяналізму.

[1]) Часопісь „Народное Просвещение“, № 11 за 1928 г., стар. 75.

Займаючыся аналізам розных відаў мануфактурнай вытворчасьці, Ленін піша: „Агульнай рысай ўсіх разгледжаных намі промыслаў зьяўляецца захаваньне ручной вытворчасьці і сыстэматычна шырока праведзены падзел працы. Процэс вытворчасьці распадаецца на некалькі дэталёвых опэрацый, якія выконваюцца рознымі спэцыялістымі-майстрамі. Падрыхтоўка такіх спэцыялістых патрабуе досыць працяжнага навучаньня, і таму натуральным спадарожнікам мануфактуры зьяўляецца вучнёўства. Вядома, што ў агульнай абстаноўцы таварнай гаспадаркі і капіталізму гэта зьявішча вядзе да самых горшых відаў асабістай залежнасьці і эксплёатацыі. Зьнікненьне вучнёўства зьвязана з больш высокім разьвіцьцём мануфактуры і з стварэньнем буйнай машыннай індустрыі, калі машыны зьмяншаюць да мінімуму пэрыод навучаньня ці калі вывучаюцца настолькі простыя дэталёвыя опэрацыі, што яны даступны і дзецям“[1]). Мы бачым, што Ленін разглядае процэс узьнікненьня вучнёўства, як вынік „захаваньня ручной вытворчасьці“ ў мануфактуры і „сыстэматычнага, шырока праведзенага падзелу працы“. Вучнёўства ёсьць адна з форм профэсіянальнай асьветы, але зьнікае па меры разьвіцьця буйнай машыннай індустрыі. Ручная вытворчасьць у мануфактуры спараджае тэхнічны падзел працы і вядзе да стварэньня профэсій. „На базысе ручной вытворчасьці,—піша Ленін,—інакшага прогрэсу тэхнікі, акрамя як у форме падзелу працы, і быць не магло“[2]). Гэту цытату неабходна запамятаць, бо яна гаворыць аб тым, што падзел працы, як аснова профэсій, вырастае на базысе ручной вытворчасьці. Адсюль відаць, як утопічна імкнуцца організаваць політэхнічнае выхаваньне на ручной працы. Ленін ня раз падкрэсьліваў консэрватыўны характар ручной вытворчасьці параўнаўча з буйнай машыннай індустрыяй. Для большага перакананьня падамо яшчэ адну цытату. „Мануфактура,—гаворыць Ленін,—уводзіць падзел працы, які ўносіць грунтоўнаеператварэньне тэхнікі, якая ператварае селяніна ў майстра, у „дэталёвага рабочага“. Але ручная вытворчасьць застаецца, і на

[1]) Ленін. Том III. 1926 г., стар. 332.
[2]) Там жа.

яе базысе прогрэс спосабаў вытворчасьці нямінуча адрозьніваецца вялікай павольнасьцю. Падзел працы складаецца стыхійна, пераймаецца гэтакжа па традыцыі, як і сялянская праца.

Толькі буйная машынная індустрыя ўносіць радыкальную зьмену, выкідвае за борт ручное мастацтва, перабудоўвае вытворчасьць на новых, рацыянальных пачатках, сыстэматычна прыстасоўвае да вытворчасьці даныя навукі да таго часу, покуль капіталізм не арганізаваў у Расіі буйнай машыннай індустрыі, і ў тых галінах прамысловасьці, у якіх ён яшчэ не арганізаваў яе, мы наглядаем амаль поўны застой тэхнікі, мы бачым ужываньне таго-ж ручнога варштату, таго-ж вадзянога млына ці ветрака, якія ўжываліся ў вытворчасьці стагодзьдзі таму назад. Наадварот, у тых галінах прамысловасьці, якія падначаліла сабе фабрыка, мы бачым поўны тэхнічны пераварот і надзвычайна хуткі прогрэс спосабаў машыннай вытворчасьці"[1]). Вось як гаворыць гісторыя аб ручной працы. Консэрватызм, застой, павольнасьць, профэсіянальная абмежаванасьць—вось што спараджаецца ручной вытворчасьцю. Мы ўжо не гаворым аб тых агіднейшых формах эксплёатацыі дзіцячай працы, якія маюць шырокае распаўсюджаньне ў дробнай вытворчасьці ва ўмовах таварнай гаспадаркі і капіталізму. Аб гэтым пішуць нават буржуазныя пісьменьнікі. Адсюль відаць, што было-б сьмешна думаць аб тым, быццам Маркс мог прыйсьці да вываду аб політэхнічным выхаваньні на падставе вывучэньня ручной працы. Не, ён прышоў да такога вываду на падставе вывучэньня капіталістычнай буйнай машыннай індустрыі. „Тэорыя-ж Маркса,—тлумачыць Ленін,—называе буйнай машыннай (фабрычнай) індустрыяй толькі акрэсьленую, менавіта вышэйшую ступень капіталізму ў прамысловасьці. Асноўнай і найбольш істотнай адзнакай гэтай стадыі зьяўляецца ўжываньне для вытворчасьці сыстэмы машын. Пераход ад мануфактуры да фабрыкі азначае поўны тэхнічны пераварот, які зьнішчае вякамі нажытае ручное мастацтва майстра, а за гэтым тэхнічным пераваротам няміnuча ідзе самая крутая ломка грамадзкіх адносін вытворчасьці. Канчатковы раскол паміж рознымі групамі асоб, якія ўдзельнічаюць у вытворчасьці, поўны разрыў з традыцыяй, абвастрэньне і пашырэньне ўсіх цёмных бакоў капіталізму, разам з тым і масавае аграмаджаньне працы капіталізму"[1]). Вывучэньне буйнай машыннай індустрыі капіталістычнага грамадзтва і дало магчымасьць Марксу формуляваць свае вывады аб політэхнічным выхаваньні, бо ён змог адкрыць прогрэсыўны бок індустрыі ў тым, што „аўтоматычная фабрыка адхіляе спэцыялістых і профэсіянальную вузкасьць".

У сваёй ранейшай працы: „Нищета философии" ён падае цытату доктара Юра з яго кнігі „Философия мануфактуры", дзе гэты аўтар гаворыць аб дэпрофэсіяналізацыі працы на аўтоматычных прадпрыемствах. З прычыны выключнай важнасьці гэтай цытаты для высьвятленьня пункту погляду Маркса, мы падамо з яе некаторыя выняткі. „У сапраўднасьці,—гаворыцца ў цытаце,—падзел ці, правільней, прыстасаваньне работ адпаведна розным індывідуальным здольнасьцям зусім не адпавядае ўжо опэратыўнаму пляну аўтоматычнай фабрыкі; наадварот, усюды, дзе які-небудзь процэс патрабуе значнай спрытнасьці і цьвёрдай рукі, яго адбіраюць з рук умелых работнікаў, якія часта маюць нахіл да розных беспарадкаў, і даручаюць яго якому-небудзь мэханізму, аўтоматычная работа якога так добра рэгулявана, што за ёю магло-б наглядаць і маленькае дзіцё, значыцца, прынцып аўтоматычнай сыстэмы зьяўляецца ў тым, каб ручную працу паміж рабочымі-рамесьнікамі замяніць падзелам процэсу на адпаведныя яго часткі. У сыстэме ручной працы чалавечая праца звычайна ўяўляла найбольш дарагі элемэнт продукту, але ў сыстэме аўтоматычнай мы бачым, што ўмелыя ручныя работнікі па-малу выціскаюцца простымі наглядальнікамі машын. Слабасьць чалавечай натуры так вяліка, што, чым больш умелы работнік, тым ён больш патрабавальны і непакорлівы, і з прычыны гэтага ён менш прыгодны для мэханічнай сыстэмы, рабоце якой капрызы і вычуды яго маглі-б учыніць вялізарную шкоду.

Галоўная задача сучаснага фабрыканта, значыцца, зьяўляецца ў тым, каб

[1]) Ленин, том III, стар. 425. Падкрэсьлена намі.—П. П.

[1]) Ленин, том III, стар. 351.

праз аб'яднаньне навукі і капіталу зьвесьці дзейнасьць работнікаў да простага ажыцьцяўленьня з іх боку дбайнасьці і спрытнасьці, а гэтыя здольнасьці значна ўдасканальваюцца ўжо з юнацтва, калі работніка прымушаюць займацца выключна адным прадметам. Па сыстэме градацыі працы, патрэбен пэрыод навучаньня ў некалькі год, перш чым вочы і рукі напрактыкуюцца настолькі, каб выконваць пэўныя мэханічныя опэрацыі; але па тэй сыстэме, якая раскладае процэс, падзяляючы яго на асобныя складаныя часткі, і якая выконвае ўсе гэтыя часткі пры дапамозе машыны, якая гэтаму дапамагае, можна даверыць гэтыя элемэнтарныя часткі звычайна таленавітаму чалавеку ўжо пасьля ня так працяжнага пэрыоду іспыту; у крайніх выпадках можна нават пераводзіць гэтага чалавека з аднае машыны на другую, па жаданьню дырэктара прадпрыемства. Такія перамены знаходзяцца ў яўнай супярэчнасьці з старой руцінай, якая падзяляе працу, прымушаючы аднаго работніка вырабляць галоўкі шпілек, другога—вайстрыць канцы гэтых шпілек, словам, выконваць работы, якія сваёй зморваючай аднолькавасьцю даводзяць работнікаў да атупеньня. Але згодна прынцыпу раўнаньня ці аўтоматычнай сыстэме, здольнасьці работніка падпарадкуюцца толькі некатораму прыемнаму практыкаваньню і г. д. З тэй прычыны, што ўся дзейнасьць яго зьяўляецца толькі ў тым, каб наглядаць за работаю добра ўрэгуляванага мэханізму, дык ён і можа вывучыць яе ў кароткі тэрмін; пераносячы-ж працу сваю з аднэй машыны на другую, ён знадворна зьмяняе сваю дзейнасьць і разьвівае свае ідэі, мысьлячы аб тых агульных комбінацыях, якія выцякаюць з яго ўласнай працы і працы яго таварышоў. Такім чынам пры звычайных умовах у сыстэме роўнамернага разьмеркаваньня работы ня можа мецьмесца ні тое абмежаваньне здольнасьцяй, ні тое звужэньне ідэй, ні тое цялеснае выраджэньне, якое не без падставы прыпісваюць падзелу працы. Заўсёдная мэта і тэндэнцыі ўсякага ўдасканальваньня тэхнікі схіляецца да таго, каб працу чалавека зрабіць, па магчымасьці, лішняй ці зьнізіць яе цану, замяняючы працу дарослых работнікаў—мужчын—працаю жанчын і дзяцей, ці выціскаючы працу кваліфікаванага работніка грубаю працаю чорнарабочага"[1]). Гэтую цытату Маркс прыводзіць невыпадкова. Тут ён знаходзіць пацьвярджэньне таго, што ў капіталістычнай буйнай машыннай індустрыі насьпявае тэндэнцыя да дэпрофэсіяналізацыі працы, і, значыцца, ствараюцца прадпасылкі для політэхнічнага выхаваньня. Адначасова з гэтым, як сказана вышэй, Маркс бачыў і супроцьлеглае. „Падзел працы ў сучасным грамадзтве,—гаворыцьён,—характарызуецца тым фактам, што ён стварае спэцыяльнасьці, профэсіяналістых, а з імі разам і профэсіянальную вузкасьць"[2]). Ці падобна тэорыя політэхнічнага выхаваньня Маркса на тое, што сьцьвярджае Руссо, Пэсталёці, Дзюі ды іншыя прадстаўнікі дробна-буржуазнай и буржуазнай ідэолёгіі? Зусім непадобна. Толькі нашы няўдалыя комэнтатары маглі безнадзейна заблытаць пытаньне. Калі Маркс гаворыць аб політэхнічным выхаваньні, ён ня будуе яго на ручной вытворчасьці, як гэта робяць некаторыя з нашых тэорэтыкаў і практыкаў.

З Марксам, разумецца, быў солідарны і Ленін. Ён шмат разоў адзначаў неабходнасьць перабудаваць матар'яльны базыс нашай краіны па-новаму, па апошняму слову тэхнікі, праўдзіва зазначаючы, што бяз гэтага нельга пабудаваць комуністычнае грамадзтва. „Трэба заўсёды больш уводзіць машын, пераходзіць да прыстасаваньня машыннай тэхнікі магчыма шырэй,—гаворыць ён.—Здабываньне торпу гідраўлічным спосабам, якое так пасьпешна пасунута ўперад ВСНГ, адкрывае магчымасьць здабываньня апалу ў вялізарнай колькасьці і зьнішчае неабходнасьць прыцягненьня навучаных рабочых, таму, што пры такім спосабе могуць працаваць і не навучаныя рабочыя"[3]). Асабліва вялікую ўвагу зьвяртаў Ленін на электрыфікацыю краіны, лічачы неабходнай умовай посьпеху ў гэтай справе ліквідацыю агульнай няпісьменнасьці і распаўсюджаньне тэхнічных ведаў сярод працоўных мас. Ленін патрабаваў, каб у кожнай школе і ў кожным гуртку вывучаўся 10-гадовы плян Гоэрло

[1]) К. Маркс. „Нищета философии". Изд. Петрогр. Совета раб. і красноарм. депутатов. Петроград. 1918 г. Стар. 148—150.
[2]) Там-жа, стар 150.
[3]) Ленин, том XVII. 1924 г. Стар. 423.

па электрыфікацыі краіны і практычна правяраўся на вопыце кожнага раёну. „Перад вамі стаіць задача гаспадарчай адбудовы ўсяе краіны, рэорганізацыя, адбудова земляробства і прамысловасьці на сучаснай тэхнічнай аснове, якая грунтуецца на сучаснай навуцы, тэхніцы, на электрычнасьці“, так гаварыў Ленін, зьвяртаючыся да саюзу комуністычнай моладзі. „Вы добра разумееце, што да электрыфікацыі няпісьменныя людзі не падыйдуць, і мала тут аднэй простай пісьменнасьці. Тут патрэбна разумець, што такое электрычнасьць, трэба ведаць, як тэхнічна прыстасаваць яе і да прамысловасьці, і да земляробства, і да асобных галін прамысловасьці і земляробства. Трэба навучыцца гэтаму самім, трэба навучыць гэтаму ўсё падрастаючае працоўнае пакаленьне“ [1]). У паданых цытатах Ленін высоўвае патрабаваньне аб распаўсюджаньні тэхнічных ведаў сярод працоўных у сувязі з конкрэтнымі задачамі гаспадарчай адбудовы краіны. Мы бачым, што тут асьвета масы ставіцца ў сувязь з разьвіцьцём нашай буйнай прамысловасьці і што па сутнасьці тут гаворыцца аб політэхнічным выхаваньні. У некаторых выпадках Ленін зусім акрэсьлена высоўвае гэту задачу. „Трэба дабіцца таго,—гаворыць Ленін,—каб кожная фабрыка, кожная электрычная станцыя ператварыліся ў ачаг асьветы, і калі Расія пакрыецца густою сеткаю электрычных станцый і магутных тэхнічных абсталяваньняў, дык наша комуністычнае гаспадарчае будаўніцтва стане ўзорам для надыходзячай соцыялістычнай Эўропы і Азіі“ [2]). Ня дробная вытворчасьць, а фабрыка, электрычная станцыя—вось што абвяшчаецца ачагом асьветы. Гэта зусім ня тое, што сьцьвярджаюць бяз змору нашы рыцары ручной працы. А вось яшчэ адна заўвага Леніна: „Ня ўмеем зьбіраць паказаньні практычнага вопыту і абагульняць іх; займаемся пустымі „агульнымі разважаньнямі і абстрактнымі лёзунгамі“, а выкарыстаць дзелавітых настаўнікаў наогул, дзелавітых інжынэраў і агрономаў для тэхнічнай асьветы асабліва, выкарыстаць заводы, саўгасы, у якіх больш-менш добра пастаўлены гаспадарка і электрычныя станцыі для політэхнічнай асьветы ня ўмеем“. [1]) Так, ня ўмеем—павінны прызнацца. З таго часу, як сказаны гэтыя словы, прайшло ўжо 8 год (з 1921 году), а мы навучыліся нямногаму. Ленін самай яснай, зразумелай мовай формуляваў патрабаваньні выкарыстаць для політэхнічнай асьветы ня дробныя прадпрыемствы, а заводы, саўгасы, электрычныя станцыі [2]). Няўжо цяжка зразумець гэтую простую і разам з тым надзвычайна каштоўную думку? На жаль, ня ўсе яе разумеюць. Калі-б усе ўцямілі патрабаваньне Леніна, як трэба, ня было-б лішніх абстрактных і памылковых разважаньняў аб ручной працы, як аснове політэхнічнага выхаваньня, і за гэты час мы больш сабралі-б вопыту па выкарыстаньню буйнай вытворчасьці для пэдагогічных мэтаў.

Але ці будзе правільнай позыцыя адмаўляць неабходнасьць выкарыстаньня ручной працы для мэтаў выхаваньня? Разумеецца, у нашых умовах перавагі ручной працы адмаўленьне яе было-б вялікай памылкай. Калі-б мы гэта зрабілі, мы не змаглі-б пабудаваць жыцьцёвую школу, зьвязаную з пануючай працоўнай дзейнасьцю абкружаючага насельніцтва. У такім выпадку савецкая школа ператварылася-б у схолястычную. Не, наша школа, калі яна хоча быць ачагом комуністычоага выхаваньня, павінна злучыць навучаньне з вытворчай працай насельніцтва і з політычнай барацьбой рабочых і сялян. Яна павінна браць тое, што дае ёй рачаістасьць, сучаснасьць. А рачаістасьць наша такая, што ручная праца покуль найбольш распаўсюджана ў нашай краіне. Яе і трэба ўзяць у аснову выхаваньня там, дзе гэта патрэбна ў сувязі з асаблівасьцямі раёну. Але мы просім аднаго—не называйце гэтую школу політэхнічнай, бо гэта ня верна, называйце яе савецкай працоўнай, і тады мы наблізімся да ісьціны. Мы нясупроць выкарыстаньня ручной працы ў савецкай школе, а супроць таго, каб прыпісваць політэхнічны характар савецкай школе, якая выкарыстоўвае ручную працу.

[1]) Ленин, 1924 г. Том VII, стар. 319.
[2]) Там-жа, стар. 430. Падкрэсьлена намі. П. П.

[1]) Ленин, том XVIII. Стар. 76.
[2]) Аб гэтым-жа гаворыць Ленін у сваіх „Заметках на тезисы Надежды Константиновны“, якія зьмешчаны ў часопісі „На путях к новой школе“ № 8, за 1929 г.

Калі-б мы адзінадушна прынялі палажэньне, што політэхнічнае выхаваньне павінна будавацца на базысе соцыялістычнай буйнай машыннай індустрыі, тады ўсім стала-б зразумела, якая менавіта з рознавыгляднасьцяй савецкай школы больш за ўсё стаіць на шляху да ажыцьцяўленьня гэтага выхаваньня. У пачатку артыкулу мы паказалі на фабрычна-заводзкую сямігодку. Сюды трэба залічыць саўгаскую школу, часткова фабзавуч і сельгасвуч. Мы гаворым— „часткова" таму, што гэтыя апошнія дзьве рознавыгляднасьці адносяцца да тыпу профэсіянальных школ, адначасова абапіраюцца на буйную вытворчасьць.

Менш усяго можна гаварыць аб політэхнізьме ў профшколе, бо апошняя выкарыстоўвае ў пэдагогічных мэтах галоўным чынам ручную вытворчасьць. Зьяўляецца спрэчным пытаньне аб школе сялянскай моладзі. Луначарскі, напрыклад, гаворыць наступнае: „Школа сялянскай моладзі зьяўляецца ў высокай меры політэхнічнай, бо ахоплівае ўсе пытаньні сельскай гаспадаркі [1]). Іншай думкі прытрымліваецца Шульгін. „Яна (г. ё. політэхнічная школа, П. П.) вучыць на вопыце ў процэсе работы, у сувязі з ёю. Так і толькі так стаіць проблема. А шмат якія таварышы, спужаўшыся яе складанасьці, пачалі шумець аб тым, што школа сялянскай моладзі—таксама політэхнічная школа, і на акраінах, там, дзе няма чыгункі, там, дзе не пралятаў ніводзін самалёт, дзе ніхто ня бачыў аўтомобіля, там, дзе няма заводаў і фабрык, там таксама ёсьць політэхнічная школа. Гэта бясспрэчна грубы збой. Ён шкодны тэорытычна"... [2]) Шульгін, бясспрэчна, праў. Школа сялянскай моладзі абапіралася, галоўным чынам, на дробную раздробленую сялянскую сельскую гаспадарку, будучы абкружана бязьмежным морам дробна-буржуазнай стыхіі. Не заўсёды каля такой школы было якоенебудзь буйнае прадпрыемства, а калі і было, дык яно не заўсёды адпавядала патрабаваньням найноўшай тэхнікі. Ня маючы для сябе апоры ў выглядзе буйнай машыннай прамысловасьці, школа сялянскай моладзі не магла ажыцьцёвіць політэхнічнага выхаваньня, покуль ня стала ператварацца сельская гаспадарка на аснове коопэраваньня насельніцтва і электрыфікацыі краіны. Але цяпер у сувязі з ператварэньнем сельскай гаспадаркі гэтая школа перастае быць сялянскай. Паколькі цяпер школы сялянскай моладзі часта знаходзяцца ў раёне суцэльнай колектывізацыі і наогул пераходзяць на базу колгасаў і саўгасаў, гэтая школа павінна больш правільна называцца школай колгаскай і саўгаскай моладзі.

У апошні час раздаюцца галасы аб тым, што пры абгаварэньні пытаньня аб політэхнізьме ў савецкай школе адчуваецца мала конкрэтнасьці і не даецца патрэбных практычных паказаньняў наконт організацыі політэхнічнай школы. Дакор справядлівы. Але бяда ўся ў тым, што цяжка даваць практычныя паказаньні, калі яшчэ не сабраны ў дастатковай ступені вопыт. Мы ўсё яшчэ стаім на мяжы падыходу да політэхнічнага выхаваньня. Зроблена ня шмат, а рознагалосьсяў узьнікла нямала. Паколькі надыйшоў час практычна прыступіць да ажыцьцяўленьня політэхнізму ў савецкай школе, трэба зараз-жа заняцца вырашэньнем спрэчных пытаньняў шляхам экспэрымэнтаваньня і вывучэньня практычнага вопыту.

У якім-жа кірунку павінна разгортвацца наша бліжэйшая работа? Перш за ўсё трэба вывучыць тое, што ўжо ёсьць; трэба сабраць вычэрпваючы матар'ял аб пэдагогічнай рабоце фабрычна-заводзкай сямігодкі, фабзавучу, сельгасвучу і сямігодкі пры буйных сельскагаспадарчых прадпрыемствах (саўгасах). Адначасова павінен быць вывучан вопыт індустрыяльных школ у капіталістычных краінах. Потым гэты матар'ял трэба прааналізаваць пад кутом погляду політэхнічнага выхаваньня. Такую работу можа правесьці не адна асоба, і нават ня група асоб, а аб'яднаньне спэцыялістых, якія працуюць па аднаму і таму-ж пляну ва ўсесаюзным маштабе. Асабліва вялікую ўвагу трэба накіраваць на вывучэньне асаблівасьцяй буйнай машыннай індустрыі наогул і, у прыватнасьці, у Савецкім Саюзе. Тут патрэбна выявіць наступнае:

1. У якіх раёнах нашай краіны пераважваюць аўтоматычныя прадпрыемствы

[1]) Часопісь „Народное Просвещение", № 6, за 1928 г. Стар. 5.

[2]) „Проблемы научной педагогики". Зб. II. Выд. Навукова-Дасьледчага Інстытуту мэтодаў школьнай работы. Масква. 1929 г. Стар. 29.

і дзе больш усяго індустрыялізавана і колектывізавана сельская гаспадарка.

2. Наколькі паказаныя прадпрыемствы адказваюць усім патрабаваньням гігіены і як яны могуць уплываць на дзяцей.

3. З якіх момантаў складаецца вытворчы процэс на гэтых прадпрыемствах.

4. Якія моманты процэсу вытворчасьці зьяўляюцца агульнымі для розных прадпрыемстваў.

5. Якія опэрацыі маюць месца ў кожнай вытворчасьці і якіх умоў яны патрабуюць для ауладаньня імі.

6. Наколькі гэтыя опэрацыі, а таксама і ўся вытворчасьць цалком даступна дзецям для кожнага узросту ў пасобку, пачынаючы з 8—10 год.

7. Як павінна быць організавана дзіцячая праца на паказаных прадпрыемствах у мэтах усебаковага вывучэньня асноўных момантаў процэсу вытворчасьці.

8. Як можа быць увязаны выхаваньне і навучаньне ў школе з фабрычнай працай дзяцей і з іх грамадзка-політычнай работаю.

Прыблізна на гэтыя пытаньні мы павінны атрымаць адказ у блішэйшы час ад савецкай пэдагогічнай практыкі.

---

П. ВАРАКСА

# АБ ПРАЦЫ СТУДЭНТАЎ ПЭДТЭХНІКУМУ І ЯЕ ВУЧОЦЕ

На конфэрэнцыях па пэдасьвеце, якія кожны год склікаюцца Народным Комісарыятам Асьветы Беларусі, заўсёды ставіцца пытаньне аб сыстэме і мэтодах работы ў пэдагогічных тэхнікумах і школах дзевяцігодках з пэдухілам. Да бягучага навучальнага году ня было аднолькавай сыстэмы работы ў гэтых установах па Беларусі: адны тэхнікумы працавалі па звычайнай лекцыйнай сыстэме, другія-жа—па лябораторнай разгорнутай (Дальтон плян) сыстэме, а трэція—па мешанай сыстэме—лябораторнай пры цьвёрдым раскладзе і разам лекцыйнай па некаторых прадметах. На конфэрэнцыі па пэдасьвеце ў чэрвені мінулага году пасьля абгаварэньня дакладаў аб сыстэме работы ў пэдтэхнікумах, усе прадстаўнікі тэхнікумаў згадзіліся з наступнымі прынцыпамі.

Студэнт тэхнікуму, будучы настаўнік, культурны працаўнік на вёсцы, павінен яшчэ ў сьценах навучальнай установы навучыцца самастойна працаваць над кніжкай, аўладаць мэтодамі работы па тых галінах, па якіх яму на практыцы давядзецца сустракацца, разьвіць сваю здольнасьць да самастойнай, актыўнай работы, навучыцца ўсё набытае ўвязваць з запатрабаваньнямі вакольнага жыцьця і г. д. Адсюль пэдагогічныя тэхнікумы павінны імкнуцца да таго, каб студэнт не заставаўся пасыўным слухачом таго, што выкладае настаўнік, а спрабаваў ужо з першых дзён работы свае здольнасьці на самастойнай актыўнай і, як мага часьцей, дасьледчай прапрацоўцы програмнага матар'ялу. Пастанова конфэрэнцыі гаворыць аб тым, што лябораторная прапрацоўка матар'ялу павінна ўжывацца як мага часьцей.

Гомельскі белпэдтэхнікум на працягу мінулага навучальнага году працаваў па памянёнай вышэй лябораторнай, пры цьвёрдым раскладзе, сыстэме, робячы адступленьні ад яе па прадметах: матэматыцы, мове, сьпевах, дзе пераважала лекцыйная сыстэма.

У гэтым навучальным годзе сыстэма работы ў асноўным засталася тая-ж самая, за выключэньнем некаторых дробных асаблівасьцяй.

Пераход на вольны расклад ва ўмовах тэхнікуму (а яны зьяўляюцца самымі няспрыяючымі) немажлівы. Вопыт работы за год пэдагогічнага колектыву тэхнікуму па памянёнай сыстэме вымагае зьвярнуць увагу на работу студэнта ў ляборатрыі і на вучот гэтай работы.

Звычайна па кожнаму прадмету выкладчыкамі даюцца курсу заданьні ў пісьмовай форме на тэрмін 2, 3 і 4 тыдні (7-х дзённыя), а з пераходам на бесьперапынны 5 дзённы тыдзень тэрмін заданьняў найчасьцей месячны. Сталай, агульнай для ўсіх цыкляў сыстэмы ўкладаньня самога заданьня ня было. Зразумела, што кожная навучальная дысцыпліна мае свае асаблівасьці як з боку зьместу, так і з боку мэтодаў работы, таму прынцыпы складаньня заданьняў павінны ў некаторай сваёй частцы быць неаднолькавымі. Але-ж заданьні павінны мець і агульныя прынцыпы, якія трэба лічыць абавязковымі для кожнай дысцыпліны. Продукцыйнасьць работы студэнта намнога залежыць ад таго, у якой форме дадзена заданьне. Вымаганьні, якія патрэбна прад'яўляць да кожнага заданьня, трэба лічыць наступныя: заданьне павінна быць так пабудавана, каб студэнт мог прыступіць да распрацоўкі яго без індывідуальнай дапамогі выкладчыка, каб студэнт спачатку ўжо ўяўляў сабе мэту заданьня і маршрут работы, каб бачыў увязку матар'ялаў дадзенага заданьня з мінулым. У заданьні менш за ўсё павінна быць пералічэньне загалоўкаў тэм, а разам з вызначэньнем асноўнай тэмы, галоўных падтэм, мэты заданьня і маршруту работы, павінен быць высунуты шэраг контрольных пытаньняў, якія вымагалі-б ад студэнта самастойнай думкі, самастойнага формуляваньня вывадаў. Заданьні павінны вымагаць ад студэнта як мага больш дасьледчай самастойнай работы. Распрацоўка новага заданьня павінна пачынацца практычнай работай, альбо пастаноўкаю досьледаў, калі яны ўводзяцца ў заданьне, і толькі пасьля сформуляваньня вывадаў на падставе вынікаў практычнай работы можна дапусьціць студэнтаў да апрацоўкі тэорытычнага матар'ялу.

Толькі пры такой пастаноўцы справы навучальны процэс будзе актыўным.

Прапрацоўваючы програмны матар'ял на асновах працоўнай школы па пэдагогіцы і па асобных мэтодыках, студэнт на кожным кроку свае работы сустракае сучасныя пэдагогічныя запатрабаваньні, якія грунтуюцца на тым, што актыўныя мэтоды работы ў школе павінны запаўняць увесь пэдагогічны процэс. Каб аўладаць гэтымі мэтодамі, мала ўжываць іх толькі ў часе пэдпрактыкуму, патрэбна, каб уся работа ў тэхнікуме па мажлівасьці будавалася на гэтых мэтодах. Калі заданьне пабудавана так, што ў ім толькі ёсьць пералік падтэм, узятых з падручніка (сьпісаны зьмест якога-небудзь аддзелу падручніка), дык у такім разе студэнт амаль што ніякай актыўнасьці пры рабоце ня можа праявіць, – ён на веру прысвойвае тое, што напісана ў кніжцы і крытычнай сваёй думкі разьвіць ня зможа. З практыкі вядома, што пабудаванае такім чынам заданьне студэнтамі ня чытаецца. Яны цікавяцца ў такім заданьні толькі старонкамі падручніка і больш нічым. А калі яшчэ выкладчык дыктуе на ўступнай конфэрэнцыі такога тыпу заданьне, дык гэтым толькі адымае ад студэнтаў дарагі для іх час. Акрамя разьвіцьця тэхнікі пісьма студэнтамі ды траты часу, ніякай карысьці ад гэтага ня будзе. Адсюль, укладаючы заданьне, выкладчык заўсёды павінен мець на ўвазе, якую карысьць дасьць яго заданьне студэнту, ці дапаможа яно яму ў рабоце, ці прымусіць падумаць над тым ці іншым пытаньнем, ці выкліча самастойную думку, ці будзе прывучаць студэнта адшукоўваць галоўнае ў тым матар'яле, які ёсьць ў падручніку і г. д.

Патрэбнасьць ўключэньня контрольных пытаньняў у заданьне, якія-б прымусілі студэнта на падставе прапрацаванага матар'ялу рабіць уласныя вывады, відавочна. Гаворачы пра работу студэнтаў у пэдтэхнікумах, патрэбна закрануць пытаньне аб экскурсіях. Звычайна экскурсіі ўжываюцца з мэтай ілюстраваньня таго, што вывучаецца ў сьценах навучальнай установы і ў большасьці праводзяцца яны тады, калі адпаведнае пытаньне прапрацавана тэорытычна. Гэта форма работы ўжываецца часьцей за ўсё.

А трэба часьцей рабіць наадварот. Актыўныя мэтоды работы патрабуюць у першую чаргу правядзеньня назіраньня над тымі об'ектамі, над тымі формамі і зьявамі, якія вывучаюцца, і толькі пасьля, ў часе апрацоўкі экскурсійнага матар'ялу, падводзіцца і тэорытычнае абаснаваньне. Так мы будуем са студэнтамі-практыкантамі іх заняткі ў практыкавальна-паказальнай школе, калі ў плян заняткаў можна ўвесьці экскурсію; так патрэбна будаваць плян работы і ў тэхнікуме, калі

праводзяцца экскурсіі. Спачатку студэнты павінны прапрацаваць заданьне ў часе экскурсіі (вядучы на экскурсію, даць спэцыяльнае заданьне курсу, альбо розныя заданьні асобным зьвеньням), і толькі пасьля абгаварэньня і дасьледваньня набытых уяўленьняў і матар'ялу для ўцямленьня асобных момантаў даецца тэорытычны кніжны матар'ял.

Ужываюцца экскурсіі больш за ўсё па прыродазнаўчаму цыклю, а іх трэба ўводзіць у пляны работы і па такіх прадметах, як грамадазнаўства, літаратура, ручная праца і іншыя. Значэньне экскурсій усім вядома і на гэтым спыняцца зараз нясьлед. Трэба толькі падкрэсьліць, што пры належнай пастаноўцы навучальнага процэсу і адвядзеньні ім належнага месца і пры належнай мэтодыцы іх студэнты на справе ауладаюць мэтодыкай і тэхнікай вядзеньня экскурсій, перакanaюцца, што гэтая форма работы мае надта вялікае значэньне ў сэнсе адукацыі і выхаваньня моладзі, і, акрамя гэтага, будуць ведаць дасканальна ўсе віды вытворчасьці дадзенага гораду і раёну, формы організацыі работы на прадпрыемствах, прыродныя багацьці і ўмовы.

Самы навучальны процэс, сама работа студэнтаў ня будзе адарвана ад жыцьця, яна ўвяжацца з навакольным жыцьцём, большы ўдзел калектыў тэхнікуму будзе мець у розных галінах перабудовы народнае гаспадаркі на новай тэхнічнай аснове. Пасьля тэорытычнай прапрацоўкі заданьня бывае мажліва даць практычную работу студэнтам для замацаваньня набытага на практыцы для ўвязкі з жыцьцём, напрыклад, па мэтодыках, пэдолёгіі, асновах працоўнай школы і іншых прадметах. У такім выпадку абавязкова скарыстоўваньне ўсялякай мажлівасьці. Трэба імкнуцца гэтакую практычную работу праводзіць у такой форме і там, дзе яна як мага больш давала-б карысьці грамадзтву; тады адзін з асноўных прынцыпаў савецкай школы, грамадзка-карысны прынцып, будзе ня пустым словам.

Работа студэнтаў па кніжнаму матар'ялу ў лябораторыі мае шмат недахопаў. Абавязак пэдагогічнага калектыву дапамагчы тут студэнту, каб ён больш рацыяналізаваў сваю работу.

Часта група студэнтаў на працягу дзьвюх-трох лекцый (калі яны злучаны) чытае кніжны матар'ял па заданьню, ня спыняючыся на галоўных момантах і не стараючыся ўцяміць тут-жа прачытанае. Калі праз некалькі дзён адбываецца праця прапрацоўкі ў гэй-жа лябораторыі дадзенага заданьня па тэй-жа кніжцы, студэнты зноў, як амаль што новы і незнаёмы для іх матар'ял, пачынаюць чытаць спачатку і канчаткова уцяміць таксама ня могуць. Такім чынам, хоць і ў два разы больш часу адвесьці для распрацоўкі заданьня, гэта частка студэнтаў да канца яго не дапрацуе і да падагульняючай конфэрэнцыі належна не падрыхтуецца. Патрэбна выкладчыкам пільна сачыць за тым, каб студэнт скарыстоўваў свой час у лябораторыі як мага продукцыйней.

Трэба выкладчыку організоўваць так лябораторную прапрацоўку кніжнага матар'ялу, каб прачытанае за дзьве-тры лекцыі ў дадзены дзень было канчаткова ўцямлена, каб ня прышлося на другі дзень студэнтам пачынаць сваю работу спачатку. Цесную сувязь з гэтым мае конспэктаваньне студэнтамі матар'ялаў, які яны чытаюць. Тут дужа важна навучыць студэнтаў ужо на першым годзе навучаньня браць з кніжкі толькі самае важнае, адрозьніваць самае галоўнае ад другараднага.

Запісы свае студэнты павінны весьці ў такой форме, каб імі можна было пасьля карыстацца для паўтарэньня заданьня. Трэба дабівацца, каб конспэкт ня толькі адыгрываў ролю ў сэнсе лепшага ўцямленьня таго матар'ялу, які чытаецца (бо пры запісваньні прымае ўдзел моторная і зрокавая памяць), але пры падрыхтоўцы да падагульняючай конфэрэнцыі, каб ён зьяўляўся галоўнай крыніцай, па якой студэнты змаглі-б зноў усё ўцямленае ўспомніць, лепш замацаваць.

У ўступнай гутарцы да новага заданьня выкладчык зазначае мэту заданьня і парадак работы і зварочвае ўвагу студэнтаў толькі на найбольш цяжкія месцы заданьня, якія можа зараз і растлумачыць. Ні ў якім разе ня можна ў часе дачы новага заданьня чытаць лекцыі па ўсяму матар'ялу заданьня, калі маецца на мэце самастойная работа па кніжнаму матар'ялу для распрацоўкі тых-жа пытаньняў. Пры такім мэтодзе студэнты звычайна пасыўны. Лепш, правёўшы кароткую ўступную гутарку, організаваць лябораторную распрацоўку па кніжцы, і толькі пасьля,

калі студэнты самастойна пазнаёмяцца з матар'ялам, можна дадаваць новае і паглыбляць веды іх лекцыйным шляхам. Пры такім мэтодзе студэнты ўжо маюць уяўленьне па тых ці іншых пытаньнях тэмы і таму больш актыўна будуць слухаць лектара. Заключныя конфэрэнцыі па заданьню павінны таксама паглыбляць матар'ял.

У выпадку адсутнасьці падручнікаў па дадзенай тэме выкладчыкам чытаецца звычайная лекцыя студэнтам. Тут важна будаваць сваю лекцыю так, каб студэнт бачыў у ёй плян, сыстэму, асноўнае; каб гэта асноўнае ён змог зафіксаваць, а на наступных лекцыях шляхам разгорнутай гутаркі выкладзены на папярэдніх занятках матар'ял трэба ўспомніць, замацаваць.

Настаўнік не павінен заставацца бесстароньнім у часе лектарнай работы, калі зьвеньні арганізаваны ня так, як належыць. Ня можна дапушчаць існаваньня зьвеньняў з лікам студэнтаў большым, чым 4, максымум 5. У зьвяне пры наяўнасьці заўсёды аднаго падручніка заўважаецца, што чытае на працягу нават месяцаў адзін студэнт, а рэшта слухае. Калі пасыўныя слухачы робяць свае адпаведныя запісы, дык гэта не застаўляе іх пасыўнымі слухачамі. А здараецца і так, што некаторая частка студэнтаў акуратна на працягу тыдняў і нават месяцаў сядзіць і толькі слухае тое, што чытае актывісты зьвяна. Зразумела, што ўдзел ў рабоце такога студэнта дужа малы. Добра, калі ён будзе абгаварваць тое ці іншае пытаньне з таварышамі і спрачацца (калектыўная чытка). А калі і ў гэтым выпадку ён застаецца пасыўным, тады толькі студэнт лябараторнаю сыстэмаю работы ахвяроўваецца загадзя ў катэгорыю другагагоднікаў, а бывае, што і да выключэньня за непасьпяховасьць. Выкладчыку асабліва пільна трэба сачыць за работаю кожнага студэнта ў лябараторыі, вывучаць кожнага індывідуальна, дапамагаць тым, хто самастойна не спраўляецца, ня ўмее працаваць і такім чынам прадумваць здольнасьці і веды студэнтаў да патрэбнага ўзроўню.

Заўсёды патрэбна імкнуцца да таго, штоб да часу падагульняючай конфэрэнцыі ўсе студэнты курсу скончылі прапрацоўку матар'ялу. Толькі тады гэтая конфэрэнцыя будзе мець сваю каштоўнасьць, толькі тады яна для кожнага студэнта будзе карысна. Ня можна дапушчаць, каб студэнты ў часе работы па дадзенаму заданьню распрацоўвалі мінулае, хоць бы яны адсталі і па ўважлівых прычынах, бо яны тады ніколі ня будуць гатовы да конфэрэнцыі.

Трэба закрануць пытаньне і аб вучоце работы студэнтаў у тэхнікуме. Мэтай вучоту зьяўляецца выяўленьне таго, як курс цалком уяўляе дадзенае пытаньне, і як кожны студэнт уцяміў матар'ял.

Адсюль аднолькавую форму вучоту работы студэнта прапанаваць кожнаму настаўніку ніяк немажліва, тым болей, што кожны прадмет мае свае асаблівасьці. З тае прычыны, што работа студэнта ў тэхнікуме складаецца з дзьвюх асноўных галін—акадэмічнай і грамадзкай, і час яго падзяляецца амаль што папалам, зраньня ён працуе па акадэмічнай галіне, а другую палову дню на грамадзкай рабоце, трэба браць курс на поўнае ўцямленьне програмнага матар'ялу ў часе лябараторнай распрацоўкі. Адсюль вывад такі, што, гаворачы аб вучоце акадэмічнай работы студэнта, трэба сюды ўвязаць і вучот наведваньня заняткаў студэнтамі. Такое зьявішча, калі выкладчык займаецца з курсам на працягу дзьвюх-трох гадзін і ня цікавіцца, ці ўсе студэнты прысутнічаюць на яго лекцыях, трэба лічыць ненармальным. Выкладчык павінен улічваць, колькі гадзін студэнт не працаваў па яго заданьню з прычыны адсутнасьці, тады ён зможа ўлічыць гэта і дапамагчы студэнту дапрацаваць пытаньне. Якасны вучот работы курсу цалком і кожнага студэнта паасобку ва ўмовах нашага тэхнікуму можа мець наступныя формы:

1. Яшчэ ў часе лябараторнай прапрацоўкі заданьня, настаўнік мае мажлівасьць прасачыць за тым, наколькі студэнт уважліва адносіцца да работы, як ён разьбіраецца ў пытаньнях, наколькі ён праяўляе самастойнасьць і актыўнасьць. І студэнты зьвяртаюцца да настаўніка з запытаньнямі, і настаўнік зьвяртаецца да іх з мэтай дапамогі, праверкі мэтоду работы студэнта, глыбіні і маштабу выяўленьня самараспрацоўкі, таму ўжо тут можна ўлічваць работу студэнта.

2. Калі канчаецца прапрацоўка заданьня, выкладчык можа апошнія гадзіну—

дзьве прымаць так званыя залікі ад студэнтаў, якія скончылі работу— тут настаўнік выяўляе індывідуальна якасьць уцямленьня заданьня кожным студэнтам.

3. Далей праводзіцца падагульненьне. Настаўнік меў мажлівасьць выявіць слабыя месцы ўцямленьня матар'ялу, ужо ведае, на што студэнты не зьвярнулі ўвагу. У часе падагульняючай конфэрэнцыі на гэтым трэба спыніцца і, акрамя гэтага, паглыбіць, калі патрэбна, матар'ял шляхам дапаўненьня. Падагульняючая конфэрэнцыя праводзіцца шляхам разгорнутай гутаркі, і таму ня толькі складаецца ўражаньне, як курс цалкам справіўся з заданьнем і ўцяміў яго, але і яскрава можна ўявіць якасьць уцямленьня тымі студэнтамі, якія выказваюцца.

4. Калі ў заданьне ўваходзіла практычная работа, дык па таму, як яна зроблена, можна рабіць заключэньне аб якасьці прапрацоўкі заданьня.

5. Самай лепшай формай у сэнсе выяўленьня індывідуальнага ўцямленьня матар'ялу трэба лічыць пісьмовую форму вучоту, пры чым можна ўжываць два віды пісьмовага вучоту: а) пісьмовую працу на тэму ці адну з падтэм заданьня і б) пісьмовыя адказы на шэраг пастаўленых пытаньняў (тэсты).

Для таго, каб падцягнуць наведваньне заняткаў студэнтамі, і каб кожны выкладчык лічыў сваім абавязкам праводзіць гэты вучот, трэба ўвесьці альбо журнал (курсавы), альбо лябораторную курсавую картку. Такая картка, калі ў ёй уставіць графы: а) колькасьць гадзін па дадзенаму заданьню, б) лік прапушчаных гадзін і в) якасьць прапрацоўкі матар'ялу, дасьць мажлівасьць на ўсіх курсах мець аднолькавую сыстэму вучоту работы студэнтаў і наведваньня імі заняткаў.

У Гомельскім белпэдтэхнікуме клясныя журналы адсутнічаюць, і зараз уведзена надта простая па форме лябораторная картка.

## ЛЯБОРАТОРНАЯ КАРТКА

**па.................. курсу Гомельскага белпэдтэхнікуму на 19 нав. год**

**.................. паўгодзьдзе**

| №№ п. ч. | Прозьвішча і імя | Заданьне № 1 | | | Заданьне № 2 | | | Заданьне № 3 | | | Заданьне № 4 | | | | | | Усяго гадз. за паўгодзьдзе | З іх прапушчана | Характарыстыка |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Лік гадз. | Прап. гадз. | Якасьць апрацоўкі | Лік гадз. | Прап. гадз. | Якасьць апрацоўкі | Лік гадз. | Прап. гадз. | Якасьць апр цоўкі | Лік гадз | Прап. гадз. | Якасьць апрацоўкі | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |

За паўгодзьдзе ў процэсе работы кожным выкладчыкам яна будзе запоўнена, і, такім чынам, атрымаецца кароткая і амаль дастатковая характарыстыка акадэмічнай работы кожнага студэнта.

# ПАЛЕПШЫЦЬ НАВУЧАНЬНЕ

І. КАВАЛЕЎ

## БАРАЦЬБА З ДРУГАГОДНІЦТВАМ

Як адзін з мэтодаў барацьбы з другагодніцтвам, я думаю, трэба асобна вылучыць пытаньне падзелу дзяцей па наяўнасьці ў іх тых ці іншых дэфэктаў (разумовых і фізычных). Асноўны контынгент дэфэктыўных дзяцей будзе ісьці па лініі разумовай адсталасьці. Лічачы, па прынятай НКА РСФСР лічбе, 3 проц. усіх дзяцей разумова адсталымі—дэбілікамі, мы для Менску будзем мець каля 600 дзяцей разумова адсталых. (У мяне пад рукой няма сталых лічбаў ні насельніцтва наогул, ні дзіцячага насельніцтва, якое раскінута па ўсіх школах і клясах Менску). Гэтым дзецям нормальная школа з яе тэмпам і аб'ёмам работы нічога даць ня зможа. Для школы яны зьяўляюцца абузай і нават тормозам у нормальнай навучальнай рабоце: адцягваючы на сябе ўвагу настаўніка (скарыстоўваецца нерацыянальна час), яны зьяўлюцца пабочнай прычынай другагодніцтва слабейшых дзяцей нормальных. Гэтыя дзеці, апрача таго, што яны трацяць веру ў свае сілы, як кажа Гальчук („Асьвета", № 7—1929 г.), яны, ці значная частка іх, ад гультайства перашкаджаюць клясе, адымаючы гэтым час работы ад усяе клясы, і паступова становяцца цяжка выхоўваемымі. Экономічны бок тут ідзе далей таго, што на іх у сучасны момант дарэмна трацяць грошы. Гэтыя грошы неабходна будзе траціць і пазьней органам НКУС і НКСЗ з прычыны таго, што гэтыя дзеці з школы выйшлі непадрыхтаванамі да жыцьця (для іх трэба спэц. школы з профпадрыхтоўкай) і надалей становяцца крымінальным элемэнтам альбо соцыяльна-апякаемымі. Амэрыканцы падлічылі, што падрыхтоўка да жыцьця аднаго разумова адсталага каштуе 2-3 тысячы даляраў, а выдатак дзяржавы на яго (утрыманьне ў турме, выдаткі судовага апарату і г. д.) пры непадрыхтаванасьці яго да жыцьця складаюць 10 тысяч даляраў (прыблізна). Карысьць спэцыяльнага навучаньня відавочна. Апрача таго, не пабудаваўшы дапаможных школ і клясаў, мы не праводзім да канца прынцыпу ўсеагульнага навучаньня: сапраўды, як можна назваць навучаньне ўсеагульным, калі 3 проц. дзіцячага насельніцтва выйдуць з школы невукамі. Ды ўжо і спроба 1-й сямігодкі Менску (па артыкулу т. Гальчука) яскрава паказвае, як разрозьненьне дзяцей па ступенях разумовай здольнасьці значна зьніжае процант другагодніцтва (астаюцца 3,1 проц. замест сярэдняга—11,7). Ленінград, напр., у гэтым напрамку працуе вельмі добра, там амаль што ўсе разумова-адсталыя дзеці ахоплены дапаможным навучаньнем. Ды і наогул па РСФСР дапаможнае навучаньне пачынае разгортвацца ўсё больш і больш. Я думаю, што і нам на Беларусі патрэбна магчыма хутчэй і больш рашуча ўзяцца за ўтварэньне здавальняючай сеткі дапаможных школ і клясаў. тым больш, што на Беларусі, па-першае, ужо праводзіцца ўсеагульнае навучаньне, і прынцып яго трэба захоўваць да канца, па-другое, я лічу, што процант разумова-адсталых дзяцей у нас павінен быць у сучасны момант больш 3 з прычыны таго, што дзеці, якія нарадзіліся ў часе польскай і нямецкай окупацый, цяпер ужо школьнікі. З мэтай барацьбы з другагодніцтвам, апрача падзелу дзяцей па здольнасьці, нам трэба зьвярнуць увагу і на дзяцей-легапатаў, асабліва на заіканьне сярод дзяцей. Дзіця-заіка у большасьці саромлівае, дзякуючы свайму дэфэкту яшчэ больш (баіцца гаварыць перад клясай) уваходзіць у сябе, чураецца грамады, пазбаўляецца гэтым дзіцячага колектыву і яго выхаваўчага ўплыву, траціць веру

у сябе і ў магчымасьцьісьці роўна з дзяцьмі, якія нармальна гавораць. Пры зусім нормальным інтэлекце і пры наяўнасьці ўсіх магчымасьцяй не адставаць ад клясы гэтыя дзеці таксама часам становяцца другагоднікамі. Ды нават, калі і ня з гэтай мэтай, а толькі з мэтай поўнага прыцягненьня гэтых дзяцей у колектыў, мы павінны ўсім легапатам (заікі, гамзастыя) дапамагчы вызваліцца ад іх дэфэкту ці шляхам утварэньня курсаў, ці шляхам спэцыяльных заняткаў з імі пасьля ці перад лекцыямі, ці шляхам утварэньня консультацый (уключаючы і завочную) з боку клінікі мэдфаку і інстытуту глуханямых. Кажучы аб другагодніцтве, трэба не забываць, што ў нормальнай школе вучацца таксама і дзеці з рознымі ступенямі тугавухасьці. Добра-б было і для іх утварыць спэцыяльныя клясы, мабыць, лепш было-б праводзіць навучаньне іх праз мікрофон (гэта пытаньне яшчэ добра ня вывучана), але ва ўсякім разе абавязкова ўтварыўшы дапамогу іх слуху, альбо навучыць чытаць з твару. У сучасны-ж момант я лічу патрэбным, каб у вячэрніх гурткох па падрыхтоўцы да лекцыяў тугавухія вылучаліся ў асобныя групкі, уключыўшы ў праграму заняткаў з імі навучаньне чытцы з твару. Гэта будзе зьяўляцца вялікай дапамогай для іх, бо незаўсёды гэтыя дзеці ўсё могуць схапіць слухам. Шмат чаго „праходзіць міма вушэй", з прычыны чаго яны адстаюць, уменьне-ж прачытаць з твару недачутае будзе гэты дэфэкт компэнсаваць. Пры тым, іх патрэбна садзіць на першыя парты.

Побач з гэтым, ня зьвязваючы з другагодніцтвам, я хачу сказаць некалькі слоў і аб дзецях нямых, глуханямых і сляпых.

Праводзячы ўсеагульнае навучаньне, напэўна, мы ня можам гэтых дзяцей пакінуць за бартом школы. А ў нас, паміж іншым, заўважаецца такое зьявішча—нямыя дзеці зусім ня маюць магчымасьці вучыцца, бо для іх па ўсёй Беларусі ні пры якой установе, нават і пры інстытуце глуханямых, няма спэцыяльных клясаў (дагэтуль інстытут прымаў выключна глухіх дзяцей). Для гэтых дзяцей ужо ў гэтым годзе (мая думка) патрэбна пры інстытуце глуханямых забясьпечыць адчыненьне 1-2 клясаў і надалей штогодна, побач з прыёмам глуханямых, прымаць у гэтую клясу і дзяцей нямых. Глуханямыя дзеці ў гэтым годзе прымаліся так: на 45 заяў прыймовага ўзросту дзяцей прынята толькі 12 чалавек, г. зн., прынята 26 проц. Адмоўлена 64 падросткам. Такім чынам, ужо прыём гэтага году паказвае, што глуханямыя школьнага ўзросту ахопліваюцца намі толькі на 25 проц. (за бартом школы 75 проц; у якіх школах яшчэ існуе такі процант?), падросткі і познааглохшыя зусім не ахоплены школай, а яны таксама, і ў першую чаргу познааглохшыя, маюць права на школу побач з усімі дзяцьмі. Цяпер, разгортваючы школьнае будаўніцтва і праводзячы ўсеагульнае навучаньне, нам трэба зьвярнуць асаблівую увагу на ахоп дзяцей глуханямых ці шляхам пашырэньня інстытуту глуханямых, ці шляхам утварэньня другога інстытуту глуханямых, ці шляхам адчыненьня паасобных клясаў глуханямых пры нормальных школах у акруговых гарадох, як гэта практыкуецца ў Ленінградзе. Што датычыцца падросткаў, дык тут ужо бяз усякіх агаворак з наступнага навучальнага году трэба адчыніць школу, тым больш, што колькасьць падросткаў не абмяжоўваецца лічбай, якая паказана вышэй, бо і ва ўсе мінулыя гады інстытут адмаўляў у прыеме падросткаў. Я не чапаю тут пытаньня аб надта вялікай патрэбе дашкольнага выхаваньня глуханямых дзяцей, бо ня стаўлю сабе на мэце высьвятляць гэтае пытаньне ў даным артыкуле.

Напэўна, гэткае-ж становішча і ў школе сьляпых.

Утвараючы шэраг спэцыяльных клясаў для розных відаў дзіцячае дэфэктыўнасьці, мы падыходзім да пытаньня аб кадрах. Падрыхтоўку кадраў трэба пачынаць зараз-жа, у першую чаргу ўтварыўшы паўгадовыя і, у крайнім выпадку, 3-месячныя курсы, зрабіўшы іх з другога набору гадовымі, прымаючы на іх пэдагогаў, якія скончылі пэдтэхнікум, маюць практычны стаж працы ў нормальных школах і жадаюць працаваць ва ўстановах для дэфэктыўных дзяцей. Гэта тэрміновае мерапрыемства. Для сталай падрыхтоўкі працаўнікоў я лічу неабходным ужо з гэтага году ўтварыць пры пэдолёга-пэдагогічным аддзяленьні пэдфаку дэфэктолёгічную сэкцыю, мабыць, надалей ператварыўшы яе ў аддзяленьне.

ФРЫДМАН

# СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЕ СПАБОРНІЦТВА ПАМІЖ ДАШКОЛЬНЫМІ ЎСТАНОВАМІ.

(*У парадку прапановы*)

Дашкольнае выхаваньне дае грунтоўную клясавую ўстаноўку новаму пакаленьню. Яно дае магчымасьць уцягнуць жанчыну-работніцу і сялянку ў грамадзка-палітычную работу, павялічыць продукцыйнасьць іх працы; з другога боку, яно павольна, але ўпарта ўплывае на пераход да новага быту. Такім чынам, дашкольнае выхаваньне ёсьць частка соцыялістычнага будаўніцтва, якое патрабуе вышэйшай напружанасьці ўсіх сіл і магчымасьцяй для ажыцьцяўленьня задач, якія выстаўляе пяцігодка. Соцыялістычнае спаборніцтва, якое ахапіла ўсіх працоўных нашага вялікага Саюзу, як мэтод плянавага соцыялістычнага будаўніцтва, ёсьць строгі і чоткі аналіз свае работы, об'ектыўны разгляд сваіх недахопаў і плянавая работа для зьнішчэньня іх з мэтаю падняць продукцыйнасьць і зьнізіць сабекошт. Наша продукцыйнасьць — дзеці; нашы задачы — клясавае, інтэрнацыянальнае і матэрыялістычнае выхаваньне іх; адсюль дашкольным установам неабходна ўступіць (частка ўжо ўступіла) у соцыялістычнае спаборніцтва — неабходна ісьці па лініі удакладненьня сваёй работы, па лініі распрацоўкі лепшых мэтодаў для дасягненьня ўсіх задач, якія пастаўлены перад дашкольным выхаваньнем. Уступаючы ў соцыялістычнае спаборніцтва, кожная дашкольная ўстанова павінна пераглядзець усю сваю работу па такіх разьдзелах.

**I. Працоўная дысцыпліна і рацыяналізацыя работы ўстановы.**

а) Падвышэньне асабістай адказнасьці членаў колектыву, плянавасьць у рабоце колектыву, чоткае разьмеркаваньне абавязкаў паміж членамі колектыву адпаведна кваліфікацыі і спэцыялізацыі кожнага.

б) Уцягненьне членаў савету і бацькоў у актыўную работу на карысьць дзіцячай установы.

в) Экономнае і мэтазгоднае скарыстоўваньне сродкаў: дакладнае і сваячасовае вядзеньне вучоту, ашчадныя адносіны да памяшканьня, інвэнтару, прыладаў, матар'ялаў і г. д.

**II. Клясавае выхаваньне дзяцей.**

а) Чоткае ўдасканаленьне мэтодыкі выхаваўчай работы з дзяцьмі.

б) Як паглыбляецца клясавая накіраванасьць дзяцей (інтэрнацыянальнае і антырэлігійнае выхаваньне, сувязь з грамадзка-палітычным і працоўным жыцьцём).

в) Дасягненьні і недахопы ў выхаваньні ў дзецях колектыўнасьці, актыўнасьці і працоўнасьці; якім шляхам установа ажыцьцяўляе гэтыя задачы, ці дасканала высьветлены зьмест і мэтоды гэтай работы.

**III. Агітацыя і пропаганда ідэй дашкольнага выхаваньня.**

а) Ці прымае ўдзел дзіцячая ўстанова ў пашырэньні сеткі шляхам уцягненьня грамадзкасьці і коопэраваньня сродкаў.

б) Ступень уцягненьня ў гэту працу грамадзкіх устаноў; удзел савету саду, як сталага органу, у гэтай рабоце.

в) Дапамога ў выхаваньні дзіцяці ў сям'і; організацыя, зьмест, мэтоды гэтай работы; распаўсюджаньне гэтай работы паміж шырокімі коламі насельніцтва.

г) Удзел і дапамога дашкольнай установы ў рабоце з неорганізаванымі дзяцьмі раёну (удзел у рабоце дзіцячых пакояў пры клюбах, летніх пляцовак і г. д.).

д) Ці дасканала высьветлена мэтодыка ўсіх відаў гэтай работы.

Спаборніцтва можа ісьці і па лініі паглыбленьня асобных проблем дашкольнага выхаваньня, якія выстаўляе як тэорыя так і практыка, напрыклад: лепшая падрыхтоўка дзяцей да школы як у стацыянарных дашкольных установах, так і на летніх пляцоўках; па сувязі з ясьлямі і г. д.

Аналіз працы па ўсіх закранутых разьдзелах павінен ісьці галоўным чынам па лініі недахопаў, а галоўная мэта спаборніцтва--ударыць па ўсіх гэтых недахопах і зьнішчыць іх. Да пачатку спаборніцтва кожная дашкольная ўстанова павінна азнаёміцца дасканала з другой дашкольнай установай, усебакова высьветліць становішча яе. Гэта дасьць магчымасьць пры падліку вынікаў спаборніцтва ўявіць рост дашкольнай установы, як об'ектыўны вынік спаборніцтва.

Як-жа быць у тых мясцовасьцях, дзе ёсьць толькі адна дашкольная ўстанова? Ці павінна яна ўступіць у соцспаборніцтва і з кім? Калі разглядаць соцыялістычнае спаборніцтва як мэтод, які зьнішчае недахопы, ажыўляе і паглыбляе работу, дык, для аднэй, закінутай установы соцспаборніцтва яшчэ больш неабходна, чым для ўстановы, якая мае кіраўніцтва. Дзіцячы сад і яслі альбо дзіцячы сад і нулявая група школы (калі гэтыя ўстановы ёсьць у данай мясцовасьці) могуць уступіць у соцспаборніцтва. Нарэшце, два раёны, якія маюць па аднэй дашкольнай установе. Спаборніцтва наблізіць іх да бягучых спраў сучаснасьці, прылучыць да агульнага, магутнага процэсу соцыялістычнага будаўніцтва, бязумоўна ажывіць усю работу ўстановы, прымусіць бліжэй падыйсьці да грамадзкасьці і панесьці ідэі дашкольнага выхаваньня ў шырокія колы працоўных.

Соцыялістычнае спаборніцтва паміж дашкольнымі ўстановамі, плянава пабудаванае на падліку сучасных задач соцыялістычнага будаўніцтва і на аналізе недахопаў і дасягненьняў сваёй мінулай работы, павінна, з аднаго боку, ўдасканаліць і паглыбіць шляхі выхаваньня новага чалавека і, з другога боку, быць тым моцным штурхачом, які павінен прасоўваць дашкольнае выхаваньне ў шырокія колы і зрабіць яго здабыткам усіх працоўных. Патрэбна спыніцца яшчэ на спаборніцтве паміж дзяцьмі сярэдняга і старэйшага ўзросту.

Спаборніцтва паміж групамі дзяцей павінна ісьці таксама па лініі вытлумачэньня недахопаў у трыманьні як асобных дзяцей, так і ўсяе групы; група цалком абавязваецца зьнішчыць на працягу пэўнага тэрміну (месяц, два, тры, да вясны) некаторыя недахопы ў сваім трыманьні. Сумесна з кіраўніцай групы дзеці абгаварваюць узятыя на сябе абавязкі па пунктах, як напр.: 1) сваячасова прыходзіць у дзіцячую ўстанову; 2) мыць рукі пасьля ўборкі; 3) заўсёды прыбіраць за сабою; 4) вопратка павінна быць чыстая і акуратная; 5) не задзірацца, ня лаяцца; 6) дапамагаць таварышом; 7) далікатна прасіць у таварыша прыладу альбо цацку,—і цэлы шэраг іншых у залежнасьці ад таго, чым хварэе даная група. Усе пункты павінны быць запісаны, мастацкі аформлены і вывешаны ў групе. Кіраўніца павінна весьці падлік спаборніцтва; з дзяцьмі падкрэсьліваць дасягненьні як з боку асобных дзяцей, так і ўсяе групы. Гэты падлік дасьць вельмі каштоўны матар'ял для дзіцячай насьценнай газэты. У малюнках дзеці дадуць усё разгортваньне спаборніцтва. Нарэшце, шляхам аб'яднанага сходу дзяцей абедзьвюх груп, падлічваюцца дасягненьні спаборніцтва. Патрэбна, каб дзіцячы сход не абмежаваўся толькі сухой гутаркай; уражаньні спаборніцтва трэба замацаваць мастацкай часткай, у якой адлюстроўваліся-б усе рэакцыі дзяцей на спаборніцтва. Самае лепшае—скарыстаць „Пятрушку“, але там, дзе немагчыма добра скласьці з дзяцьмі маленькую інсцэніроўку на гэту тэму ў вершаванай форме, альбо прыдумаць што іншае.

Спаборніцтва можа дапамагчы інтэрнацыянальнаму выхаваньню дзяцей, значна паглыбіць яго. Таксама спаборніцтва можа дапамагчы лягчэй уцягнуць у жыцьцё групы цяжка выхоўваемых дзяцей. Умова, якая робіцца паміж групамі дзяцей, яскрава ставіць перад імі неабходнасьць і моц адказнасьці як за асабістыя паводзіны кожнага дзіцяці, так і за паводзіны ўсяе групы.

**Ад рэдакцыі:**

1. Зьмяшчаючы артыкул тав. Фрыдман у парадку прапановы.рэдакцыя папярэджвае, што соцыялістычнае спаборніцтва ні ў якім разе нельга абмяжоўваць якой-небудзь схэмай. Тут павінна быць праяўлена з боку ўдзельнікаў спаборніцтва самая шырокая самадзейнасьць і ініцыятыва.
2. Рэдакцыя чакае водгукаў з боку дашкольных работнікаў аб практычнай рабоце па соцыялістычнаму спаборніцтву.

# ПЯЦІГОДКА І КАДРЫ

Б. СІЛІН

## ДА ПЫТАНЬНЯ ПАДРЫХТОЎКІ КАДРАЎ

Пытаньне пра кадры ў пяцігадовым пляне займае значнае месца. І не дарэмна. Нябывалы тэмп разьвіцьця народнай гаспадаркі і прамысловасьці штогод прад'яўляе ўсё большыя і большыя запатрабаваньні на спэцыялістых і кожны раз адчувае нястачу, асабліва інжынэрна-тэхнічных сіл.

Бліжэйшыя выпускі з вышэйшых тэхнічных навучальных устаноў і індустрыяльных тэхнікумаў, якія абмяжованы бясплянавымі прыёмамі мінулых гадоў, ня могуць колькасна задаволіць вытворчасьць. Ужытыя захады да павялічэньня нормаў прыёму дадуць вынікі ледзь к канцу пяцігодкі ці к пачатку другога пьцігодзьдзя, а пакуль што дэфіцыт ствараецца вельмі востры і нават можа пагражаць выкананьню пяцігадовага пляну.

Аднак, магутнасьць пролетарыяту і нявычэрпны запас крыніц энэргіі і сілы волі робяць заўсёды тое, што немагчымае становіцца магчымым і невыканаўчае выконваецца. Вось і ў згаданым выпадку запас практычных ведаў па тэхнолёгічных вытворчых процэсах, які так сказаць, у стане потэнцыялу знаходзіцца ў кваліфікаваных рабочых, ідзе на падмогу соцыялістычнаму будаўніцтву, высоўваючы з сваіх нетраў шэрагі больш здольных, разьвітых, энэргічных, па пераважнасьці маладых і кваліфікаваных рабочых, якія, бяз сумненьня, пры набыцьці імі неабходных адпаведных тэорытычных ведаў і папаўненьні практычных звычак пры дапамозе адпаведнай вытворчай практыкі змогуць стаць кваліфікаванымі тэхнікамі і запоўніць у вытворчасьці той прабел організатараў і кіраўнікоў, які ствараецца з-за недахопу сталых спэцыялістых.

Разам з тым, бясспрэчна, устаноўлена і пацьверджана вопытам, што непасрэдная вытворчая праца на вытворчасьці—як магутны рычаг дапамагае падняць вялікі цяжар—значна спрыяе найлепшаму і найхутчэйшаму ўцямленьню тэорытычных спэцыяльных дысцыплін.

З гэтага выходзіць, што ўводзячы ў індустрыяльных навучальна - тэхнічных установах максымальную сувязь тэорыі з практыкай і чаргуючы тэорытычную навучальную працу ва ўстанове з вытворчай працай на прадпрыемстве, раней у якасьці рабочага, а далей у якасьці выконваючага абавязкі тэхніка па адпаведнай спэцыяльнасьці,—магчыма адпаведным чынам скараціць працяг навучаньня і хутчэй даць вытворчасьці новыя кадры маладых спэцыялістых.

Улічваючы гэтыя два моманты, каб як мага хутчэй і пaўней забясьпечыць заяўкі прамысловасьці неабходнымі для яе кадрамі інжынэраў і тэхнікаў, каб узмацніць тыя, што ёсьць, кадры больш ідэолёгічна надзейнымі і клясава-вытрыманымі кіраўнікамі прамысловасьці, зараз, згодна лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б), Народным Комісарыятам Асьветы праводзяцца дзьве буйныя рэформы ў сыстэме профтэхнічнай падрыхтоўкі спэцыялістых, у прыватнасьці тэхнікаў для вытворчасьці.

Першая рэформа заключаецца:

а) ва ўвядзеньні ў навучальных профтэхнічных установах бесьперапыннай вытворчай практыкі студэнтаў на прадпрыемстве;

б) у дыфэрэнцыяцыі падрыхтоўкі спэцыялістых па больш вузкіх галінах прамысловасьці;

в) у пераглядзе ўсіх навучальных пляна ў у бок максымальна магчымага пазбаўленьня іх ад агульнаадукацыйных і агульнатэхнічных дысцыплін, якія ня

маюць непасрэдных адносін да вывучэньня спэцыяльнасьці, а таксама ўдаленьне з програм усяго непатрэбнага для вузкага спэцыяліста навучальнага матар'ялу;

г) у сувязі з усім гэтым правядзеньне максымальнага скарачэньня тэрміну прабываньня студэнта ў навучальнай установе і, нарэшце,

д) адмена стажу і ўсялякіх дыплёмных прац па сканчэньні тэорытычнага курсу навучаньня.

Другая рэформа адносіцца да вячэрніх рабочых тэхнікумаў.

Менскі і Віцебскі вячэрнія рабочыя тэхнікумы, якія існавалі да гэтага часу, павінны былі рыхтаваць тэхнікаў тае самай якасьці, як і дзённыя політэхнікумы, для чаго, зразумела, павінны былі ўжывацца і тыя-ж самыя програмы па ўсіх прадметах дзённага тэхнікуму, а з тае прычыны, што вячэрняя праца слухачоў ВРТ пасьля 8 гадзіннага працоўнага дню на вытворчасьці не магла быць фізычна так продукцыйна, і апрача таго навучальная праца слухача ВРТ у тыдзень не перавышала 20-24-х гадзін, тады як тыднёвая нагрузка студэнта дзённага політэхнікуму пры поўным працоўным акадэмічным дні складалася з 42 тыднёвых гадзін.

Зразумела, пры такім становішчы тэрмін навучаньня ў ВРТ прыходзілася мець ня менш 6 гадоў; а каб даць слухачом пэўныя закончаныя веды раней поўнага сканчэньня, ВРТ прадугледжваў ў два концэнтры, па 3 гады кожны. Першы концэнтр даваў слухачом годнасьць майстра, манцёра, дзесятніка, а ўжо другі концэнтр-тэхніка.

Зараз, з вышэй пaказаных прычын, г. зн. патрэбы форсаваньня тэмпу падрыхтоўкі тэхнікаў, звужэньня спэцыялізацыі іх, увядзеньня вытворчай практыкі ў дадатак да вытворчай працы слухачоў на прадпрыемствах, ушчыльненьня навучальных плянаў і програм, скарачэньня працоўнага дню на вытворчасьці слухачоў ВРТ да 6 гадзін, а таксама поўнага аслабаненьня з вытворчасьці слухачоў апошняга курсу, як гэта мяркуецца і, пераводу іх у працягу апошняга году навучаньня на становішча студэнтаў- стыпэндыятаў дзённых тэхнікумаў,—можна гаварыць аб адпаведным скарачэньні тэрміну навучаньня ў ВРТ.

Як пачатак правядзеньня ў жыцьцё усіх вызначаных вышэй рэформ НКА, пры непасрэдным удзеле навучальнай часткі і студэнцтва, праведзены наступныя буйныя мерапрыемствы:

1. Ажыцьцёўлен перавод на пяцідзёнку і бесьперапынку заняткаў ва ўстанове, па-што ўносіць цэлы шэраг рацыянальных палепшаньняў акадэмічнай працы, ушчыльняе заняткаў, паўней выкарыстоўвае плошчу памяшканьня і абсталяваньня і г. д.

2. Усе аддзяленьні Віцебскага дзяржаўнага політэхнікуму і хэміка-тэхнічнага аддзяленьня Менскага дзяржаўнага політэхнікуму пераведзены ўжо на бесьперапынную вытворчую практыку, пры чым, згодна апошняй пастановы НКА, гэткая практыка будзе складаць ня менш 40 проц. усяго навучальнага пляну. Складзены календарныя пляны правядзеньня гэтае практыкі і чаргаваньня яе з тэорытычнай вучобай у навучальнай установе, і па ўзгадненьні з ВСНГБ студэнты-практыканты ужо разьмеркаваны па прадпрыемствах.

Распрацоўваецца пытаньне аб стварэньні таго-ж самага і на іншых аддзяленьнях політэхнікуму, дзе поўны пераход на бесьперапынную вытворчую практыку немагчымы ў сувязі з тым, што вытворчая практыка на гэтых аддзяленьнях носіць сэзонны характар (будаўнічае, дарожнае, гідратэхнічнае аддзяленьні).

3. Скарочаны тэрмін навучаньня ў ВРТ з 6 гадоў да 4. (Для сучаснага складу IV курсу—4 з паловай гады).

Уведзена дадатковая вытворчая, а на апошніх курсах — тэхнічная практыка, тэрмінам да 8 месяцаў за ўвесь час навучаньня ў ВРТ.

Устаноўлена патрэбнасьць аслабаненьня слухачоў апошняга курсу ВРТ ад працы на прадпрыемстве з пераводам іх на становішча студэнтаў-стыпэндыятаў шляхам контрактацыі іх прадпрыемствамі, аб чым вядуцца перамовы з ВСНГБ.

Прынцыпова намечана скарачэньне тэрміну навучаньня і ў дзённых політэхнікумах, з большай дэталізацыяй мэтавай устаноўкі кожнага аддзяленьня, пераапрацоўка навучальных плянаў і про-

грам з большым прыстасаваньнем іх да канкрэтных запатрабаваньняў звужанай спэцыялізацыі. Гэтае складанае і адказнае пытаньне знаходзіцца ў стадыі распрацоўкі і конкрэтна вырашыцца к пачатку другога паўгодзьдзя бягучага навучальнага году.

Усе вышэйадзначаныя мерапрыемствы па выкананьні дырэктыў партыі ўпарадкуюць стан падрыхтоўкі тэхнікаў, больш цесна і шчыльна ўвяжуць навучальную дзейнасьць нашых сярэдніх навучальна-тэхнічных установ з вытворчасьцю, чым палепшаць якасьць рыхтуемых спэцыялістаў, скароцяць тэрмін гэтай падрыхтоўкі і, такім чынам, у большай меры паслужаць забесьпячэньню народнай гаспадаркі, прамысловасьці і будаўніцтва вельмі патрэбнымі для таго сьвежымі кадрамі спэцыялістых.

---

**М. С. АРЭФ‘ЕЎ**

# ПРА ТЭХНІЧНЫЯ КАДРЫ

(*З вопыту работы*)

Пытаньне аб тэхнічных кадрах ні ў якім разе ня трэба спрашчаць. Па-першае,—гэта пытаньне ня толькі пяцігодкі бягучай, але таксама і наступнай; па-другое, гэта пытаньне ня толькі колькасьці, але таксама і якасьці, пры тым якасьці ў дзьвюх адносінах: навуковай падрыхтаванасьці і пэўнай ідэолёгіі; па-трэцяе, пытаньне аб кадрах зьвязана з укомплектаваньнем ВНУ і ВТНУ, а ўкомплектаваньне іх зьвязана ў сваю чаргу з сыстэмай навучальных устаноў, што даюць матар‘ял для ўкомплектаваньня.

З тэхнічнымі кадрамі справа абстаіць вельмі дрэнна. А калі мы гэтае пытаньне пачнем разглядаць у паказанай органічнай сувязі з другімі пытаньнямі, дык справа аказваецца яшчэ горшай—па ўсёй лініі гэтых пытаньняў у нас небясьпечна.

Перш за ўсё ў нас хронічны недахоп асоб першай катэгорыі, дастаткова падрыхтаваных для паступленьня ў ВНУ; даводзіцца рабіць зьнізыходжаньне і прымаць з 1-2 нездавальняючымі адметкамі па асноўных прадметах. Гэта не вырашэньне пытаньня: 1) давучваньне іх у ВНУ абыходзіцца даражэй, 2) насьпех давучаны часьцей усяго не дацягвае да канца курсу і кідае, альбо захворвае ад зморанасьці, і % канчаючых рабочых, такім чынам, усёроўна зьмяншаецца, 3) а калі хто і канчае, дык з яго выходзіць больш слабы спэц, чым з асоб трэцяй катэгорыі, якія прыйшлі ў ВНУ з досыць высокай падрыхтоўкай.

Акрамя таго, у навучальных установах, якія падрыхтоўваюць матар‘ял для укамплектаваньня ВНУ, прыкмячаецца адыход дзяцей рабочых на вытворчасьць раней сканчэньня девяцігодкі (у РСФСР) і сямігодкі з профшколай (на Ўкраіне), чаму апошнія групы гэтых школ існуюць у значнай долі не для рабочых.

Мы можам шукаць часовых захадаў, паліятываў для зьмякчэньня дэфіцыту тэхнічных сіл у даны момант, але чым хутчэй мы пяройдзем ад часовых захадаў да нормальнай работы, тым лепш, і таму зараз-жа трэба паставіць пытаньне так: „Знайсьці спосаб у найкарацейшы тэрмін даваць ВНУ дастатковую колькасьць добра падрыхтаваных, з цьвёрдай пролетарскай ідэолёгіяй, людзей для ўкомплектаваньня“.

Ня так даўно тав. Камінскі на старонках „Праўды“ прапанаваў абмежаваць агульную адукацыю толькі першай ступеньню, а другую ступень (з пятае клясы працшколы) зрабіць профшколай. Гэта зьменшыць тэрмін падрыхтоўкі у ВНУ на пяць год. Але гэта самы лепшы спосаб сарваць усё наша будаўніцтва, укомплектаваць нашы ВНУ шаснаццацігадовымі няпісьменнымі птушанятамі і атрымаць потым 20-гадовых няпісьменных інжынэраў, агрономаў і г. д.

Аб узросьце і ідэолёгіі тав. Камінскі не падумаў, а наконт пісьменнасьці яму, як відаць, і самому зрабілася страшна. Таму ён прапанаваў у гэтай профшколе

праходзіць і агульна-адукацыйныя прадметы. Як быццам бы добра, але толькі, як ца законах фізыкі, „прастор, заняты адным целам, ня можа быць заняты у той-жа час другім целам“, так у адзін і той-жа прамежак часу нельга прайсьці программы дзьвюх школ.

Не, у гэтым пытаньні і сямігодка з профшколай і дзевяцігодка павінны адыйсьці на другі плян—яны надзвычайна доўгі шлях і, акрамя таго, як сказана вышэй, яны не апраўдваюць сябе ў социяльных адносінах.

Вось другая справа—рабфак. Што патрэбна ведаць для паступленьня ў яго? Чатыры дзеі над цэлымі лічбамі любой велічыні і ўменьне напісаць нескладаную пісьмовую працу з захаваньнем элемэнтарнай ортографіі. Гэтымі ведамі ўладае большасьць вытворчых рабочых.

Дзеці з гэткім багажом ня могуць праходзіць программы другой ступені— іх яшчэ трэба разьвіць, трэба збагаціць іх розум вопытам і навыкамі мысьленьня, для чаго ім даюцца яшчэ агульныя весткі па географіі, прыродзе і грамадазнаўству, а дарослыя, уладаючы пэўнай колькасьцю вопытных ведаў і разьвіцьцём, з паказанымі ведамі вельмі добра спраўляюцца і шмат хутчэй з программай другой ступені, з программай рабфаку.

Такім чынам, рабочыя-вытворцы даюць нявычэрпную крыніцу для ўкомплектаваньня рабфаку, а рабфакі ў 3-4 гады будуць дастаўляць ВНУ добра падрыхтаваны і найлепшы ў социяльных адносінах матар'ял для ўкомплектаваньня.

Але рабфак—вельмі дарагая ўстанова, каб яго льга было зрабіць масавай школай Нават вячэрні рабфак, у якім няма стыпэндыі, як у дзённым, і то затрачвае на навучаньне аднаго слухача ў год самае меншае 130 руб., а пра дзённыя рабфакі і гаварыць няма чаго.

Але ў нас ёсьць яшчэ адзін тып школы, у якую прымаюць з гэткім-жа узроўнем ведаў, як вячэрні рабфак, тых жа самых рабочых, і ў якой праходзіцца амаль тая-ж программа, што і ў рабфаку, але ў якой навучаньне аднаго слухача ў год каштуе толькі 50 руб. Я гавару пра вячэрнюю рабочую школу II ступені (ВРШ II ст.). ВРШ II ступ. яшчэ мала вядомы і мала распаўсюджаны тып школы, таму што сродкі на іх адпушчаюцца ў апошнюю чаргу (школа, якой я загадваў, была арганізавана самымі рабочымі і першы год існавала на самааплаце), а між тым, гэта ідэальны продукт савецкага ладу. Яе нельга разглядаць асобна ад вытворчасьці: раншнія ўражаньні ад заводу вызначаюць ход думкі і пытаньні слухача да выкладчыка ўвечары ў школе, а новыя тэорытычныя вывады і абагуленьні, атрыманыя ў школе, прымушаюць пэўным чынам глядзець на процэсы вытворчасьці, шукаць у іх пацьвярджэньня тэорытычнай думкі. Цяжка нават сказаць, дзе канчаецца завод, і дзе пачынаецца школа, і таму школа па сутнасьці зьяўляецца не агульнаадукацыйнай, а сваявіднай профшколай.

У той-жа час гэтая школа можа і павінна служыць корэктывам для дзевяцігодкі і сямігодкі: дзеці рабочых, якія ня скончылі гэтыя школы, праз 1-2 гады, калі цалкам забясьпечаць сябе экономічна, прыходзяць у вячэрнія рабочыя школы II ступені і просяць прыняць іх у другую альбо трэцюю групу (наша школа звычайна ім адмаўляла, таму што ў першую чаргу прымала больш дарослых рабочых, а месц было мала).

Калі да 3-гадовага курсу ВРШ II ст. дадаць яшчэ адзін год (зрабіць 4-гадовай, як вячэрні рабфак), дык з поўнай адказнасьцю за свае словы заяўляю, што скончыўшыя гэтую школу вытрымаюць самы жорсткі конкурс у любую ВНУ і ВТНУ. Я зрабіў у Дняпропятроўску ўжо два выпускі ў ВРШ II ст. („ВРШ II ст., Чачэлеўскага раёну“): першы выпуск з прынятых адразу на другі год навучаньня і другі—з тых, якія нормальна праслухалі ўвесь 3-гадовы курс школы.

Школа ня ставіла сабе спэцыяльнай мэты—падрыхтоўваць у ВНУ, не займалася „натаскиванием“, а проста імкнулася даць некаторае набліжэньне да сярэдняй адукацыі (для поўнай сярэдняй адукацыі 3 гадовага курсу недастаткова, патрэбен чацьвёрты год). Наколькі мы былі далёкі ад вузкай мэты падрыхтоўкі ў ВНУ, відаць з таго, што ў нас грамадазнаўства на першым годзе навучаньня мела 3 гадзіны, на другім годзе—3 гадзіны і ў выпускной клясе—5 гадзін (з 20-ці), што ў агульнай складанасьці давала такія веды па гэтаму прадмету, якія даюць на першым курсе ня спэц. ВНУ.

Трэба яшчэ адзначыць, што школа працавала ў самых дзікіх, няспрыяючых умовах: палітасьветы, у веданьні якога лічылася школа, знаходзіў, што „кожны рабочы, што скончыў ВРШ II ст. і пайшоў у ВНУ—гэта злачынства загадчыка школай" (дакладны выраз старшыні школьна курсавой сэкцыі на афіцыйным пасяджэньні сэкцыі). Каб пазбавіць мажлівасьці слухачоў ВРШ выкарыстаць гэтую школу, як шлях да ВНУ, выкладчыкам раілася „трактаваць навучальны матар'ял так, каб слухач ня змог потым выкарыстаць яго на конкурсе" (мэтодысты палітасьветы), выпрацоўваліся проэкты скарачэньня ліку гадзін і дзён заняткаў і наогул програмы (слухачы заяўлялі, што яны будуць скардзіцца ў Наркомасьветы), утваралася ўсялякае націсканьне на мяне, як загадчыка.

Мы выступалі супроць пункту гледжаньня палітасьветы, адзначаючы, што палітасьветы мае права контраляваць прыём у школу (гэта і рабілася), каб мы не ўкомплектоўвалі школы слухачамі больш падрыхтаванымі, чым гэта паказана Галоўпалітасьветы, але штучнае зьніжэньне продукцыйнасьці свае работы мы лічылі злачынствам. І ня гледзячы на ўсё гэта, вынікі атрымаліся зьдзіўляючыя. Даволі параўнаць выпускныя працы скончыўшых з іх працамі пры паступленьні ў школу (на выпускным вечары ў гэтым годзе была наладжана выстаўка), каб пераканацца ў гэтым. Яшчэ больш паказальныя вынікі ўдзелу скончыўшых Чачэлеўскую ВРШ II ст. на конкурсах у ВНУ. На жаль, ёсьць весткі покуль што толькі аб тых, хто трымаў іспыты ў мясцовыя інстытуты і тэхнікумы (напамінаю, што на Украіне тэхнікум—ВНУ). У інстытут народнае асьветы прынята—2, ня вытрымаў—1 (захварэла яшчэ ў часе выпуску з школы ї хварэла ўсё лета да прыёму ў інстытут), у вячэрні індустрыяльны тэхнікум на першы курс прынята 9 чал., ня вытрымала—2 чал., у хэмічны тэхнікум трымаў 1 і вытрымаў, у будаўнічы тэхнікум прынята—2, ня вытрымаў—1. Такім чынам, з тых, што трымалі іспыты, вытрымаўшыя іх складаюць 77%. Пры гэтым, пералічаныя тут не зьяўляліся самымі лепшымі вучнямі школы і рыхталіся яны дадаткова толькі ад сканчэньня школы (у чэрвені) да пачатку прыёму ў ВНУ (восень), акрамя нямецкае мовы, вывучэньне якой праводзілася ўзімку ў гуртку.

Ітак, дзевяцігодка і сямігодка з профшколай—гэта надзвычай доўгі шлях, папершае, а па-другое, яны выпускаюць вельмі невялікі % дзяцей рабочых, і, патрэцяе, рабочыя, ужо працаваўшыя на вытворчасьці, ідэолёгічна больш дужы элемэнт, чымся дзеці рабочых, яшчэ незагартаваныя ў вагні вытворчасьці.

Курсы падрыхтоўкі ў ВНУ, аб якіх яшчэ не ўпаміналася ў артыкуле (але ўпамянуць варта таму, што шмат якія думаюць іх зрабіць базай укомплектаваньня ВНУ), вядуць працу над скончыўшымі сямігодкі і наогул над матар'ялам амаль гатовым, а такога матар'ялу сярод рабочых даволі тонкая і кволая праплastоўка, курсы ўжо зараз адчуваюць недахоп у слухачох і ўводзяць падрыхтоўчыя клясы, становяцца 2 і 3-х гадовымі, гэта значыць ператвараюцца ў ВРШ II ст. (але значна больш дарагія, таму што аплачваюць працаўнікоў амаль па нормах ВНУ).

Дзённы рабфак ня можа быць масавай школай таму, што патрабуе адрыву слухачоў ад вытворчасьці і выдачы ім стыпэндый. Гэта вельмі дарага для дзяржавы і не задавальвае многіх слухачоў, бо стыпэндыі значна ніжэй заработкаў.

Вячэрні рабфак, хоць і намнога таней дзённага, але ўсё-ж такі вельмі дарагі для масавай школы.

Вячэрняя рабочая школа II ступені аплачвае сваіх работнікаў па звычайных стаўках старэйшага концэнтру працоўнай школы і пры гэтым ніколі не адчувае недахопу ў выкладчыках з вышэйшай адукацыяй, выдаткоўвае на навучаньне аднаго слухача ў год 50 р., у тры разы меньш, чым вячэрні рабфак (прымаючы з тымі-ж ведамі, як і вячэрні рабфак), мае, як і ён, моцную базу сярод рабочых, якая папаўняецца тымі, што кідаюць да сканчэньня сямігодкі і дзевяцігодкі, зьяўляецца корэктывам да апошніх школ.

Пры пашырэньні курсу яе да 4 год, каб яна магла павялічыць лік гадзін матэматыкі, фізыкі, прыродазнаўства і ўвесьці замежную мову, гэтая школа цалком заменіць сабою рабфак і курсы падрыхтоўкі ў ВНУ і дасьць для ўкомлектаваньня ВНУ добра падрыхтаваных рабочых, самае меншае з 5 гадовым стажам, выхаваных пад падвойным узьдзейнічаньнем вытворчасьці і вучобы.

Калі-б мы паменшылі выдаткі на апошнія клясы дзевяцігодак і профшколы, дзе амаль няма дзяцей рабочых, зьніштожылі курсы пыдрыхтоўкі ў ВНУ, а замест усяго гэтага і дарагіх рабфакаў зрабілі-б ВРШ II ст. масавай школай, тады пры вялікай колькасьці іх было-б мажлівым кожную школу адкрываць пры пэўнай вытворчасьці і ў той-ж час зьвязаць яе з пэўным тыпам ВНУ альбо ВТНУ.

Прапануючы ВРШ II ступені ў якасьці крыніцы матар'ялаў для ўкомплектаваньня ВНУ і ВТНУ, я, аднак, катэгарычна выступаў-бы супроць звужэньня яе задачы аднэй гэтай мэтаю. ВРШ II ступені павінна даваць сярэднюю адукацыю для кожнага, хто жадае яе мець, а жадаюць яе мець ня толькі тыя, якія імкнуцца ў ВНУ, але і многія іншых: высока-кваліфікаваныя рабочыя, якія сваю практычную кваліфікацыю жадаюць падмацаваць і тэорытычнай асьветай, каб не заставацца ў хвасьце пры новым абсталяваньні; больш—сямейныя рабочыя, якія з-за сям'і ня могуць пакінуць вытворчасьці для ВНУ, але якія разумеюць, што адукацыя дапаможа ім у падвышэньні кваліфікацыі, альбо ў іх вынаходніцтве, альбо ў грамадзкай рабоце; нарэшце, шмат якія ідуць у ВРШ II ступені толькі для таго, каб праслухаць адзін-два гады навучаньня, стаць больш пісьменнымі, а потым пайсьці на якіянебудзь спэцыяльныя тэхнічныя курсы. ВРШ II ступені павінна служыць кожнаму рабочаму, для якой-бы мэты ён ні шукаў адукацыі.

Каб ВРШ II ст. магла зьдзейсьніць паказаныя задачы, патрэбна альбо выключыць яе з веданьня політасьветы і перадаць профасьвеце, альбо паказаць мясцовым політасьветам, што заданьні клюбаў, тэатраў, і бібліотэк—адны, а заданьні школ, хаця-б і політасьветных—другія. Калі ад першых нельга патрабаваць больш чым „падвышэньня агульнакультурнага і політычнага ўзроўню", дык другія абавязаны даваць веды, адукацыю. А некаторыя політасьветы лічаць словы „адукацыя" і „веды" контррэволюцыйнымі ў вуснах політасьветнага работніка.

Абслугованьне кожнай ВРШ II ст. пэўнае вытворчасьці, пры дастатковай колькасьці кляс у школе, дало-б мажлівасьць для кожнай зьмены адвесьці паасобную клясу і поўнасьцю вырашыць пытаньне аб вучобе рабочых-зьменьнікаў. Пасьля гэтага неабходна выпрацаваць варыянт програмы, прыстасаванай для сельскагаспадарчых работнікаў. і распаўсюдзіць гэты тып школы і па вёсках.

Гор. Дняпропятроўск.

---

**І. КОРБУТ**

# ЖЫЦЬЦЁ ВЫПЯРЭДЖВАЕ НАС

*(Проблема кадраў і ШСМ)*

Шмат пішацца і гаворыцца пра тое, што шпаркі тэмп разьвіцьця колгаснага руху ўпіраецца ў проблему кадраў.

Кадры і кадры — вось баявы лёзунг дню—дню вялікай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі. Для буйных аб'яднаных гаспадарак у першую чаргу патрэбны кіраўнікі па розных галінах, патрэбны арганізатары гэтых гаспадарак. Вялікую ролю ў падрыхтоўцы новых кадраў павінна адыграць культурная сіла самой вёскі: каморнікі, агрономы і шматлікае настаўніцтва, якое, да-рэчы сказаць, яшчэ да гэтага часу не раскачалася, і ў самой масе сваёй не зразумела свайго месца і ролі ў сучасным бегу жыцьця.

У далейшым разьвіцьці і замацаваньні колгаснага руху патрэбны рэзэрвы: маладыя, сьвежыя сілы, па-бальшавіцку загартаваныя і навукова падрыхтаваныя, павінны даць нашы вясковыя сямігодкі і ў першую чаргу ШСМ (не дарма ў друку ўзьнята пытаньне аб перабудове вясковых сямігодак па тыпу ШСМ).

Перш, чым гаварыць аб далейшым напрамку работы ШСМ, неабходна кінуць рэтроспэктыўны погляд назад, што ўяўлялі і ўяўляюць сабою ШСМ на сёньняшні

дзень. У выніку нагляданьняў і трохгадовага вопыту працы ў ШСМ магу сказаць, што ШСМ--такая-ж сямігодка толькі з сельска-гаспадарчым ухілам, нават ня зусім выразна выяўленым. Каго-ж падрыхтавала і каго выпусьціла Парыцкая ШСМ за 4 гады свайго існаваньня? Школа падрыхтоўвала культурніка-гаспадара-адзіночку, а выпусьціла: сэкратароў с.-с., хатнікаў, рабочых цукернай фабрыкі, судовых дзелаводаў і выканаўцаў, ліквідатараў, студэнтаў профтэхшкол, курсантаў вайсковых школ і нават міліцыонэраў. Вось плады нашай чатырохгадовай працы па падрыхтоўцы кадраў для рэконструкцыі сельскай гаспадаркі.

На Ўсебеларускай конфэрэнцыі ШСМ з прыватных гутарак з прадстаўнікамі многіх ШСМ выявілася, што зьява гэтая мае масавы характар. Зьява ненормальная і, паколькі яна мае моц у жыцьці школ і ў бягучы момант, пагражае зрывам мэтавай устаноўкі і ўсёй работы ШСМ.

Жыцьцё ідзе. Нячуваным тэмпам шырыцца індустрыялізацыя і аграмаджаньне сельскай гаспадаркі, а кузьня, дзе павінны выкоўвацца і загартоўвацца будучыя кіраўнікі гэтай аграмаджанай індустрыялізаванай гаспадаркі, культурнічае і рыхтуецца да чарговага выпуску новых кадраў для савецкага канцэлярскага апарату.

Хто-ж альбо што вінавата ў гэтым? У першую чаргу мы самі, працаўнікі школ, а далей патрэбна прыпрэгчы і „значительное лицо“, а таксама і ўсе об'ектыўныя акалічнасьці жыцьця і работы ШСМ.

Мы спытаем: ці мела ШСМ за пяць год свайго існаваньня якую-небудзь увагу да сябе, якое-небудзь кіраўніцтва? Не, ня мела. Досыць, нават, такога факту, што школа да гэтага часу ня мае свайго сталага статуту, а проэкт статуту, які разглядала Ўсебеларуская канфэрэнцыя ШСМ да гэтага часу не зацьверджаны і не разасланы па школах.

Знаходжаньне школы не ва ўласьцівых і несумяшчальных з яе структурай і мэтавай устаноўкай географічна-бытавых умовах і шмат іншых об'ектыўных прычын, можна было-б пералічыць, якія перашкаджаюць нормальнай рабоце ШСМ але мысьліцца, што яны будуць усе выкрыты ў водгуках другіх ШСМ, дзе ім (прычынам) у парадку самакрытыкі будзе дадзена належная ацэнка. Карацей кажучы, ШСМ сябе не апраўдалі і змогуць апраўдаць толькі пры рашучым пераломе ўсяго іх жыцьця і работы, пры стварэньні навакол іх пэўнай спрыяючай грамадзкай думкі, пры поўнай зацікаўленасьці і ўсямернай дапамозе ім з боку мясцовых органаў улады і пры непасрэдным жывым кіраўніцтве зацікаўленых вышэйшых органаў.

Трэба адкрыта сказаць, што да гэтага часу шмат якім адказным працаўніком раёну, якія не зразумелі яшчэ сутнасьці ШСМ, апошнія зьяўляюцца „бяльмом на воку“, і не выключаюцца выпадкі, што гэтыя працаўнікі, замест цьвёрдага контакту ў рабоце, прабавалі „лягнуць“ ШСМ.

Школы да гэтага часу ходзяць вобмацкам: ні кіраўніцтва, ні жывой сувязі, ні сувязі праз друк, ні абмену вопытам паміж школамі ня было і няма; і да гэтага часу яны адданы самі сабе і самастойна шукаюць шляхоў прыстасаваньня да новых форм жыцьця і, не чакаючы паказаньняў зьверху, пачынаюць праводзіць рэконструкцыю сваіх програм, навучальных плянаў, форм і мэтодаў работы.

На апошніх паседжаньнях школьнай рады Парыцкай школы сялянскай моладзі прынята конкрэтная пастанова аб гэтым. Пры абмеркаваньні плянаў работы па розных дысцыплінах было высунута пытаньне аб перабудове програм і навучальнага пляну выпускнога курсу. У выніку абгаварэньня намечаны наступныя мерапрыемствы: „Прымаючы пад увагу шпаркі тэмп разьвіцьця колектывізацыі ў раёне, адсутнасьць належна падрыхтаваных кадраў, якія ў першую чаргу павінна даць ШСМ, і выходзячы з мэтавай устаноўкі школы сялянскай моладзі і тых акалічнасьцяй, што пры сучаснай пастаноўцы працы ў школе і навучальных плянаў школа, у лепшым выпадку, можа падрыхтаваць гаспадара-культурніка, а не кіраўніка тае ці іншай галіны колгасу, лічыць канешна патрэбным перабудаваць навучальныя пляны і програмы выпускнога курсу наступным чынам:

1. Сконцэнтраваць усю увагу вучняўвыпускнікоў на пытаньнях сельскай гаспадаркі і коопэрацыі, а для набыцьця імі больш сталых ведаў і практыкі і пэўнай спэцыялізацыі разьбіць увесь курс

па сэкцыях адпаведна організацыі колгасаў, выходзячы з географічна-экономічных умоў сумежных раёнаў: жывёлагадоўчую, паляводзтва, рахункаводзтва і садова-гародніцкую.

2. Зьвязацца з нанова організаванымі колгасамі з мэтай законтрактаваньня імі вучняў адпаведнай спэцыяльнасьці.

3. Настаўнікам пэўных дысцыплін скласьці да 15 студзеня рабочыя пляны па сэкцыях.

4. Зьвязацца з колгасам „Кастрычнік“ з тым, каб тэорытычныя веды вучняў пасобных сэкцый атрымалі свае практычнае прыстасаваньне ў рабоце непасрэдна ў колгасе.

5. Зьвязацца з новым колгасам вёскі Дворышча і на вопыце гэтага колгасу прасачыць к<sup></sup>ок за крокам організацыю колгасу і паступовасьць пераходу ад аднаасабовай да буйнай, аб'яднанай гаспадаркі

6. Лічыць немэтазгодным застаўленьне на далейшы час школы ў мястэчку Парычах, сярод неземляробскага насельніцтва, а паставіць пытаньне перад належнымі органамі аб канечным пераходзе і прымацаваньні школы да пэўнага кусту колгасаў, у любым раёне Бабруйскай акругі, каб школа ў пераважнай большасьці папаўнялася падросткамі-колгасьнікамі, каб навучальныя пляны школы былі цесна ўвязаны з жыцьцём і працай вакольных колгасаў і каб спэцыялізацыя вучням надавалася тая, якая вымагаецца ўхілам колгасаў дадзенага кусту.

7. Лічыць канешна патрэбным паставіць пытаньне перад НК БССР аб зьмене програм і навучальных плянаў ШСМ адпаведна вышэйпаданым вымаганьням колгаснага будаўніцтва“.

Вось гэтай пастановай я і хачу падзяліцца з працаўнікамі ШСМ (упэўнены, што і ў другіх школах што-небудзь робіцца ў гэтым напрамку), каб абмеркаваць усебакова высунутыя тут пытаньні, паглыбіць і пашырыць іх, а на будучы час выпрацаваць сталыя стабільныя формы і мэтоды працы і рашуча зьмяніць програмы і навучальныя пляны ШСМ.

Што да перабудовы програм, дык, па нашай думцы, тут трэба выходзіць з асноўнай тэмы: сельска-гаспадарчая комуна з пэўным ухілам. Гэтая тэма павінна быць стрыжнявой тэмай, і програмы ўсіх дысцыплін павінны быць укладзены толькі ў аспэкце гэтай асноўнай тэмы. Сама пабудова програм павінна быць строга тэматычная па пэўных момантах жыцьця і працы колгасу з захаваньнем комплекснасьці дысцыплін і дакладным вызначэньнем практычна-вытворчай работы па кожнай тэме. У програмах павінны знайсьці свой адбітак—дэталёва і тэматычна распрацаваны — галоўныя ўхілы гаспадарак (разумеецца, колгасаў), якія ўхілы пануюць на Беларусі.

Побач з гэтым вынікае пытаньне аб утварэньні сталага статуту школ, у якім знайшлі-б свой адбітак усе моманты, што вымагае бягучае жыцьцё.

Шырокая рэформа жыцьця і работы ШСМ ня церпіць адкладу, бо жыцьцё выпярэджвае нас і патрабуе рашучай зьмены курсу.

У першую чаргу над гэтым трэба задумацца нашым вышэйшым органам — НКА, НКЗ і Колгассаюзу.

---

Л. ШАШКОЎ

# ПАДРЫХТОЎКА КАДРАЎ

Пытаньнем падрыхтоўкі новых пролетарскіх кадраў займаўся ліпнёўскі, лістападаўскі пленумы ЦК УсеКП(б) і верасьнёўскі пленум ЦК КП(б)Б.

Пастановамі гэтых пленумаў завострана думка ўсяе партыйнай і савецкае грамадзкасьці на гэтым пытаньні.

У пастановах лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б) гаворыцца: „Вялізарны размах соцыялістычнага будаўніцтва, ажыцьцяўленьне пяцігадовага пляну, які зьяўляецца практычным выразам лёзунгу партыі „здагнаць і перагнаць“ перадавыя капіталістычныя краіны, нарэшце, абвастрэньне клясавай барацьбы ў краіне ставяць перад партыяй ва ўсёй шырыні і вострасьці проблему кадраў у рэконструкцыйны пэрыод.

Недастача кваліфікаваных тэхнічных і кіруючых кадраў, што існавала на пра-

цягу шэрагу гадоў, асабліва абвастрылася ў сучасны пэрыод бурнага разгортваньня прамысловасьці і соцыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі“.

На падставе пастаноў ліпнёўскага і лістападаўскага пленумаў ЦК УсеКП(б) Народным Комісарыятам Асьветы БССР, ужо пры новым кіраўніцтве, прадпрыняты шэраг конкрэтных і вельмі актуальных мерапрыемстваў. Так, напрыклад, шырока разгорнута падрыхтоўчая работа па скарачэньню тэрміну навучаньня (з 4 да 3 год) у сярэдніх і вышэйшых навучальных установах і па перагляду ў адпаведнасьці з гэтым навучальных плянаў, програм і г. д. Разам з гэтым у мэтах ажыцьцяўленьня пастаноў лістападаўскага пленуму, таго пункту, у якім гаворыцца, што гэтыя кадры павінны мець досыць глыбокія спэцыяльна-тэхнічныя веды, шырокі грамадзка-палітычны кругагляд і якасьці, абавязкова патрэбныя для організатараў вытворчай актыўнасьці шырокіх працоўных мас“, мяркуецца, скарачаючы тэрмін навучаньня да 3-х год, павялічыць да 10 месяцаў навучальны год, увесьці бесьперапынную вытворчую практыку, пачынаючы з першага курсу і канчаючы апошнім, узмацніць ідэолёгічнае выхаваньне шляхам больш паглыбленай прапрацоўкі прадметаў грамадазнаўчага цыклю.

Мяркуецца надаць больш вузкую спэцыялізацыю нашым тэхнікумам шляхам скарачэньня прадметаў, якія маюць ускосныя адносіны да асноўнай спэцыяльнасьці, узмацніўшы і паглыбіўшы адначасна прапрацоўку прадметаў, якія маюць непасрэдныя адносіны да спэцыяльнасьці.

У сувязі з скарачэньнем тэрміну навучаньня маецца на ўвазе скарачэньне агульна-адукацыйных прадметаў ці асобных разьдзелаў з іх, якія прапрацоўваліся студэнтамі ў сямігодках і зьяўляліся да гэтага часу паўтарэньнем у тэхнікумах.

Але, каб такое скарачэньне агульна-адукацыйных прадметаў не адбілася на агульным разьвіцьці і г. д., мяркуецца ўсіх тых, хто скончыў сямігодкі і паступае ў тэхнікумы, прапусьціць праз 2—3 месячныя курсы, мэтай якіх будзе абагуліць веды, што атрыманы ў сямігодцы, і значна іх пашырыць.

Мерапрыемства па організацыі такіх курсаў дасьць магчымасьць забясьпечыць максымальны прыток у тэхнікумы і іншыя навучальныя ўстановы дзяцей рабочых, батракоў, беднякоў і колгасьнікаў.

Нарэшце, у мэтах як мага хутчэйшага вырашэньня проблемы падрыхтоўкі пролетарскіх кадраў, а таксама ў мэтах максымальнага павялічэньня прапускной здольнасьці існуючых тэхнікумаў, і ў першую чаргу індустрыяльных і сельска-гаспадарчых, распачата работа па ўвядзеньню з бягучага году 2-х прыёмаў у год, з такім разрахункам, каб адзін (першы) прыём быў-бы зроблены ўвосень, а другі, прыкладна, у студзені месяцы, пасьля таго, як першы васеньні прыём, распрацаваўшы шэраг тэорытычных курсаў ці паасобных толькі разьдзелаў некаторых з іх, будзе накіраван на доўгатэрміновую вытворчую практыку.

Рэорганізацыя навучальных установаў, зразумела, датычыцца і рабфакаў. У адносінах да апошніх мы ў пастановах лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б) знаходзім: „Рэорганізаваць рабфакі на аснове прынцыпу спэцыялізацыі і мэтавага іх прызначэньня, прымацаваўшы асобныя рабфакі да адпаведных вышэйшых тэхнічных навучальных установаў. Устанавіць, што на індустрыяльна-тэхнічныя рабфакі павінна прымацца 90 проц. рабочых і работніц, на сельска-гаспадарчыя—ня менш як 75 проц. рабочых, батракоў, беднаты і колгасьнікаў“.

У адпаведнасьці з гэтай пастановай навукова-мэтодычным комітэтам НКА БССР ужо приступлена да перагляду навучальных плянаў, програм. Вядзецца падрыхтоўчая работа па пытаньні наданьня рабфакам спэцухілаў і прымацаваньня іх да адпаведных ВНУ.

# ЗА ПРОЛЕТАРСКУЮ ІДЭОЛЁГІЮ

П. САВІЧ

## СУПРОЦЬ ШКОДНЫХ КНІЖАК

*(З поваду кніжкі „Наш сьцяг“—чытанка для 4-га курсу сямігодак, выд. 5-е, 29 г.).*

Барацьба на ідэолёгічным фронце зьяўлялася і зьяўляецца аднэй з форм клясавай барацьбы пролетарыяту. Натуральна, што капіталістычныя элемэнты, супроць якіх пролетарыят цяпер вядзе асабліва ўзмоцнены соцыялістычны наступ аж да іх ліквідацыі, скарыстоўваюць усе мажлівасьці простага і абходнага, скрытага і адкрытага нападу на партыю пролетарыяту і з боку ідэолёгічнай барацьбы поруч з іншымі яе формамі.

Адным з вучасткаў ідэолёгічнай барацьбы зьяўляюцца нашы школы рознага тыпу. Нельга сказаць, што на гэтым вучастку ў нас няма прарываў. Навучальная справа знаходзілася як бы на „откупу“ ў органаў Наркомасьветы, якія вельмі слаба забясьпечаны комуністычнымі сіламі. Грамадзкі контроль над ёю, асабліва ў ніжэйшых зьвеньнях асьветы—пачатковыя школы і сямігодкі — быў вельмі невыстарчальны. Канец гэткаму становішчу кладзе апошняя пастанова ЦК УсеКП(б), якая пачынае ажыцьцяўляцца.

Разам з концэнтрацыяй увагі партыйнай і савецкай грамадзкасьці на ўсіх баках асьветнай справы трэба зараз-жа перагледзець той ідэолёгічны матар'ял, які даецца нашым ніжэйшым школам у выглядзе розных падручнікаў.

Роля падручніка ў навучаньні і ідэолёгічным выхаваньні зусім зразумелая. Для дзяцей і падросткаў крытычны падыход да кожнага друкаванага слова ў кніжцы яшчэ не зьяўляецца пасільным. Калі дадаць да гэтага, што і значная частка савецкі настроенага настаўніцтва бярэ някрытычна, на поўную веру, ідэолёгічную якасьць падручнікаў, якія азначаны кляймом „мэтодком“ Бел. Дз. Выдав. становіцца яшчэ больш зразумелым, наколькі важна ідэолёгічная чыстата і адпаведнасьць сучасным запатрабаваньням усякага дапаможніка для школы. Няма чаго ўжо і казаць аб сьвядомых спробах скарыстаць ідэолёгічна чужое ў нашых падручніках для „выхаваньня“ і „навучаньня“ дзяцей і моладзі, як гэта яскрава выявілася ў „лістох рэнэгата“ Купцэвіча. Наяўнасьць некаторай часткі настаўніцтва варожага нам кірунку дапамагае ўсялякія ідэолёгічныя вывіхі ў падручніках скарыстаць на „законнай, мэтодкомаўскай, гізаўскай падставе“ супроць нас.

Але калі мы ня зможам зусім унікнуць асобных памылак тут, дык павінны неадкладна пазбавіцца ад кніжак, у якіх асноўныя месцы даюць яўна шкодныя ўстаноўкі.

Возьмем для прыкладу кніжку „Наш сьцяг“, выд. 29 году, чытанка для 4-га году навучаньня. Гэта выданьне ўжо „пятае“ і „выпраўленае“, як кажуць аўтары--Самковіч, Пратасэвіч, Гарбацэвіч. Названыя аўтары зьяўляліся выкладчыкамі „Менскай цэнтр. дасьледчай школы“. Кніжка выдана апошні раз у 12 т. экз. Ёю карыстаюцца ўсе школы. Што-ж мы знаходзім ў гэтай кніжцы?

Першы разьдзел кнігі павінен даць „малюнак прыроды СССР, яго натуральных багацьцяў і веды аб насельніках“. Ужо ў гэтым разьдзеле ўкладчыкі зусім мала ўлічылі тыя зьмены, якія адбыліся за час пролетарскае рэволюцыі. Частыя ўпамінаньні „СССР“ вельмі мала дапамагаюць справе.

Найгорш справа стаіць з артыкуламі бяз подпісаў, якія належаць па заяве

аўтараў, альбо самім аўтарам, альбо „невядомым“. Пасьля вельмі няпісьменных, прасякнутых выключна тэхнічным пунктам погляду, разважаньняў аб „заданьнях“ народнай гаспадаркі і яе азначэньні, аўтары даюць адказ дзецям на запытаньне—„ці багаты наш народ“? у такіх словах: „У 4 разы меней есьць усяго наш чалавек (ад ангельца—С)... Вялізарны голад быў у СССР (?) у 1891-9! г. г. і потым у 1921-22 г. г.... паміраe ў нас народу ў 2 разы больш, чым у іншых краінах... ад цяжкасьці ўмоў жыцьця, ад беднасьці, ад надзвычайна цяжкай працы“ (стар. 8-9). Тут нават голад 91 году ўзяты пад шыльду СССР. І далей аўтары не паклапаціліся (сьвядома ці не) паказаць надзвычайна паказальны малюнак як раз у гэтым пытаньні ў СССР, пакінуўшы ў дзяцей уражаньне, што так цяпер у СССР. Відаць, у 29 г., перавыдаючы „выпраўленую“ кнігу, аўтары самі лічылі, што і цяпер СССР сорамна раўнаць з капіталістычнымі краінамі па дабрабыту працоўных, сьмяротнасьці іх і г. д.

Далей (стар. 13) аўтар дае сваё „клясычнае“ разуменьне прычын нашай беднасьці і адсталасьці: „Багацьці прыроды СССР. . не прывучалі нашых продкаў вельмі многа думаць аб барацьбе за існаваньне: страва даставалася адносна лёгка... І цяпер у некаторых мясцох СССР людзі жывуць без вялікай працы... башкіры, кіргізы, калмыкі і інш.“ Калі гэта не бязглузьдзіцца, дык нешта горшае. Так лёгка выкінуць соцыяльна-экономічныя фактары і паказаць дзецям, што паншчына і капіталізм „ня пры чым“, а „пры чым“ прырода і дзяды—куды лепш!?

Давёўшы гэта, аўтары хочуць „маральна“ ўзьняць дзяцей, паказаўшы ім іх „продкаў“ і разам „бацькаўшчыну“ ў „Жыхарох пушчы“: „Лясны яшчэ край, дзе жыцьцём самаісным спрадвеку жыве чалавек-беларус з душою, як пушча, а з сэрцам так чыстым, як белага сьнегу абрус“...

„Ад Брынскіх лясоў аж да пушч Белавежу ад Пінскіх балот да шырокай Дзьвіны яму, беларусу, адвеку належа праменнае, сонца ласкавай вясны...“ гэта самае „сьвежае, сучаснае“, што даюць аўтары аб насельніках Беларусі. Як відаць, яны лічаць, што сьнежная чыстата душы беларуса наогул самае галоўнае і, зразумела, што яму аднаму, як „спрадвечнаму“ насельніку, належыць „праменнае сонца“. Вельмі мала, вельмі „яскрава“ і вельмі дрэнна сказана аб „прыродзе“ і „насельніках“ БССР. Усё тое, што сказана нават у адным першым разьдзеле, больш гаворыць аб „прыродзе“ саміх аўтараў. Апошні артыкул разьдзелу „Політычны парадак СССР“ нічога не папраўляе. Тут аўтары знайшлі розьніцу СССР ад капіталістычных краін толькі ў нацыянальнай роўнасьці. Аб клясавай сутнасьці савецкай дзяржавы ні слова.

Каранным, недапусьцімым недахопам у 2-м разьдзеле кніжкі, які робіць усю кніжку шкоднай, зьяўляецца абсолютная адсутнасьць нават намёкаў на соцыялістычную перабудову ў галіне сельскай гаспадаркі. Наадварот, усё прасякнута простым праслаўленьнем прыватнай кулацкай гаспадаркі; праслаўленьнем, на якое не пашкадавалі аўтары і месца і мастацкасьці. Асабліва крычаць аб гэтым артыкулы: „Дзьве вёскі“ і „Зачарованае месца“ (стар. 91—96). У іх аўтары літаральна захапляюцца выгадамі хутароў Бэльгійскага „савецкага“ гатунку і патэтычна заклікаюць моладзь браць ад іх прыклады. Мажліва, аўтары „ўрэзаліся“ ў пропаганду „навукі“ і лепшай тэхнікі і „забылі“ аб іншым, але сама „забыўчывасьць“ не бяспрычынна.

Трэба таксама ўявіць, які „хлеб“ колектывізму даюць настаўнікі, чытаючы дзецям па гэтаму разьдзелу верш Ц. Гартнага „Ох, люблю, люблю сваё, сваё жыта жаці... а салодак свой хлябок“... Калі-б гэты верш даваўся ў разьдзеле „Клясавая барацьба“, як процістаўленьне селяніна пану,—дык было-б зразумела, а тут ён расцэньваецца савецкай монэтай і дае хутарскае выхаваньне.

На ўсіх артыкулах аб прамысловасьці і працы дзеці вельмі мала маюць мажлівасьці ўгледзець перавагі савецкага ладу, паколькі лепшы матар'ял гаворыць аб тэхнічных процэсах, а частка экономічная складзена ўсюды вельмі нездавальняюча наогул і да таго-ж грунтуецца на матар'ялах 20-21 году. Аўтары, як знарок, „прыстасоўваліся“ (ці не па „мэтодычных“ меркаваньнях?) да дзяцей такім бокам, каб дзеці ня бачылі росту БССР і СССР.

Трэці разьдзел—пра мінулую эпоху—значна лепш удаўся. Але і тут знайшоў месца вельмі мала ўмесны верш Я. Купалы „Ворагам Беларушчыны“. Паколькі ён даецца для сучасных дзяцей (а не для гісторычнай хрэстаматыі дарослым) ён гучыць накшталт „О чем шумите вы, народные витии“. Трудна дапусьціць, каб многія настаўнікі сваімі комэнтарыямі выпраўлялі шкоднасьць устаноўкі вершу, які, па прыкладу Багушэвіча, барацьбе за мову падпарадкуе ўсё іншае: „Жыў беларус і будзе жыць“—не, ня ўсякі беларус будзе жыць.

У чацьвертым разьдзеле (пра рэволюцыйную барацьбу) на старонцы 260 аўтар кажа: „Імпэрыялістычная вайна дала перамогу рабочай клясе СССР“, у рэспубліцы Саветаў „улада сапраўды належыць большасьці насяленьня—усім рабочым і сялянам“. Тут і вайне прыпісваецца добрая роля—„яна дала перамогу пролетарыяту“. Чаму ў такім разе пролетарыяту не жадаць вайны, якая дае такія падарункі?. Далей — улада належыць „усім рабочым і сялянам“. Дрэнна, калі аўтар і БДВ трымаюцца такой думкі да 29 году. Пара ўжо перадумаць, а падручнік з такім зьместам выкінуць.

У артыкуле „Пралітая кроў“ (стар. 264) аўтар яшчэ і яшчэ дае прыклады свайго разуменьня гісторыі і экономікі.

„Многа дзесяткаў год таму назад, калі пабудавалі па гарадох вялікія фабрыкі, жыцьцё рабочых стала вельмі цяжкім“... Што аўтару да ленінскага палажэньня, што рабочая кляса Расіі страдала тады ня толькі ад разьвіцьця капіталізму, сколькі ад недаразьвіцьця, адсталасьці яго. Яму (аўтару) здаецца, што раней, да пабудовы буйных фабрык, жыцьцё рабочых было лепш. Народніцкае, дробна буржуазнае разуменьне аўтарам гэтай справы, як і іншых, само выпукляецца.

Шмат іншых вельмі няўдалых формулёвак і памылак мае гэты разьдзел, асабліва па лініі адносін пролетарыяту і сялянства, кіруючай ролі пролетарыяту, адсутнасьці асьвятленьня клясавых адносін у савецкай вёсцы, упамінаньне пра кулака толькі адзін раз і то ў дужках і адразу ў двукосьсях: „багатшых сялян („кулакоў“)“ (стар. 305); аб клясавым змаганьні да Маркса пішацца, што яно „было па настрої, па гарачцы“ (стар. 319), і такіх глупстваў рассыпана шмат.

Але аўтарам хочацца даць у заключэньне нешта надзвычайна моцнае, і вось яны пад назвай „Сын і маці“ даюць на зайздрасьць лепшым буржуазным падручнікам высока „патрыотычны“ гімндуэт, у якім даецца сталы нацыянал-дэмократычны сьветапогляд, у якім зьмяшчаецца географія Беларусі з Вільняй і Смаленскам (барацьба „на два фронты“ таксама), гэроічны пэрыод—„як жылі мы, панавалі“, абаснаваньне пытаньня „што такое беларусы“ з „марксыцкім“ довадам, што гэта „ўсе людзі, што ад лета ў лета, ад пакон вякоў жылі тут і жывуць сягоньня“... словам—„на Беларусі жывуць беларусы“.

У гэтай „маці“ вельмі ўцямлівы „сын“: „Ужо сабе ўтлумачыў: беларус я. Ох, дам пытлю, хто скажа іначай... пакажу я ўсяму сьвету, хто я, ды што значу“. Такім „сынам“ і Янка Станкевіч быў-бы вельмі здаволены. З такіх і Кавэрда можа атрымацца незалежна ад таго, хочуць ці не такога фіналу аўтар, укладчыкі і БДВ.

Школа соцыяльнага выхаваньня, для якой прызначаецца гэтая ў вельмі значнай долі кулацкая і нацыянал-дэмократычная „чытанка“, і якая (школа) ужо праглынула іх паўсотні тысяч экзэмпляраў, павінна быць выратавана ад падобных кніжак і, як найхутчэй, ад той, якая разьбіралася.

„Школа соц. выхаваньня“ ёсьць школа комуністычнага выхаваньня, і яе трэба пазбавіць усялякага шовіністычнага, нац.-дэмократычнага (хоць бы і вельмі мастацкага) хламу; яна павінна паказаць наша соцыялістычнае будаўніцтва ў СССР і БССР, клясавую барацьбу ў горадзе і асабліва ў вёсцы; паказаць кулака бяз двукосьсяў, расчыніўшы дужкі, які ён ёсьць цяпер, а ня толькі былога часу; паказаць асобна і асабліва кулака беларускага, як ён ваюе з колектывізацыяй і забівае селькораў.

Органам НКА трэба забясьпечыць больш сталы нагляд за ідэолёгічнай продукцыяй для школ.

І. ДАРДАК

# ПРАВЫ ЎХІЛ У ПРОГРАМАХ НКА

Програмы НКА для 1-га концэнтру сямі і чатырохгодкі працоўнай політэхнічнай школы (гарадзкі і вясковы адменьнікі). Выд. НКА БССР. 1929 г.

У прадмове да програм, у інструкцыйным лісьце да ўсіх акруговых, гарадзкіх і раённых інспэктароў, настаўнікаў 1-га концэнтру даецца гэткая ўстаноўка:

„Гіганцкія задачы пастаўлены гісторыяй перад працоўнымі нашай краіны. Мы павінны ў параўнальна кароткі гісторычны тэрмін дагнаць і перагнаць у тэхнічна экономічных адносінах перадавыя капіталістычныя краіны, ажыцьцяўляючы соцыялістычную рэконструкцыю ўсяе народнае гаспадаркі. Мы павінны забясьпечыць хуткі рост індустрыі і разам з тым уздым сельскае гаспадаркі, усё больш разгортваючы буйную аграмаджаную гаспадарку ў вёсцы (саўгас, колгас) на аснове шырокай машынавай тэхнікі (з адозвы XVI конфэрэнцыі УсеКП). І далей, для зьдзейсьненьня гэтых вялікіх задач перад школой ставіцца: „Адзіная працоўная політэхнічная школа павінна рыхтаваць *ня проста будаўніка, але будаўніка і організатара соцыялістычнай гаспадаркі і грамадзтва, барацьбіта за культурную* рэволюцыю, за ідэалы рабочае клясы. Выхаваньне такога барацьбіта і будаўніка рашуча ставіць перад намі задачу надаць нашым школам сапраўды працоўны і пролетарскі клясавы характар (з ліста, курсіў мой—І. Д.).

Прачытаўшы ўсё гэта, вы як-бы ўпэўнены, што програмы сапраўды зьяўляюцца такімі, якія ўлічваюць тыя новыя і складаныя задачы—вясьці масы ў апошні і рашучы бой з капіталістычнымі элемэнтамі, якія паўсталі перад намі ў гэты рэконструцыйны пэрыод. Аднак, вы занадта оптымістычныя!!

Уступ—рэволюцыйны, а програма, як відаць, гэтую рэволюцыйнасьць паступова губляе. Чым гэта растлумачыць? Цяжка сказаць, але адно ясна, што програма „выйшла ў сьвет“ са спазьненьнем.

Каб ня быць галаслоўным, мы адразу-ж разгледзім програмы па частках.

Для больш яснага выяўленьня усіх гэтых памылак Навукова-Мэтодолёгічнага Комітэту, пачнем аналізаваць 4-ю групу, якая зьяўляецца заключным акордам 1-га концэнтру. У 4-й групе дзеці павінны ўсьвядоміць тыя мэты і задачы, якія стаяць перад пролетарыятам нашага Саюзу ў справе соцыялістычнага будаўніцтва, выкананьня пяцігадовага пляну; самі павінны ўдзельнічаць ў тэй клясавай барацьбе, якая адбываецца як у горадзе, гэтак і на вёсцы з капіталістычнымі элемэнтамі, і дапамагчы, у штодзённай працы соцыялістычнаму будаўніцтву.

Паглядзім, як усё гэта падаецца ў програмах НКА 1929-30 навучальнага году.

Першы комплекс—„Саюз Соцыялістычных Савецкіх Рэспублік“. *Аб самой назве.* Звычайна мы пры кожнай комплекснай тэме ў назве патрабуем і азначэньня мэтавай устаноўкі гэтае тэмы. Значна лепш было-б назву гэтага комплексу формуляваць: „СССР і будаўніцтва соцыялізму“. Мажліва, гэта недагляд, людзі не падумалі над формулёўкай,—бывае ж так. Падыдзем да зьместу.

Прырода—згодна разуменьня НМК—ёсьць экономічная і фізычная географія. Вось паслухайце, як ідзе распрацоўка гэтае тэмы—*першая падтэма*: „Географічнае палажэньне СССР“; *другая падтэма*: „Політычны склад СССР“. Дагэтуль мы мысьлілі, што „політычны склад“ ня ёсьць частка прыроды, і раптам „політычны склад“ у тэме „прырода“, як падтэма. Ну, і „тэорыі“! Устаноўка географічная па-за мэтамі і задачамі будаўніцтва соцыялізму. Я ўпэўнены, што гэтую тэму кожная буржуазная школа магла ўключыць у свае програмы па географіі. Нічога нашага, соцыялістычнага тут няма.

Другая асноўная тэма гэтага комплексу: „Сельская гаспадарка і апрацоўка сельска-гаспадарчых продуктаў“.

„Пазнаёміўшы дзяцей с сучасным станам сельскае гаспадаркі, давесьці ім, што адзіным сродкам уздыму сельскагаспадарчай культуры зьяўляецца пераход да соцыялістычных форм гаспада-

раньня—колектыву і комун". Вось гэта ўсё? Ну, а барацьба з капіталістычнымі элемэнтамі, аб гэтым мы павінны сказаць што-небудзь дзецям, ці мажліва бяз гэтага? Мабыць, дзеці занадта малыя, паводле разуменьня НМК, для ўцягваньня іх у справу выкарчоўваньня капіталістычных элемэнтаў у сельскай гаспадарцы, а галоўнае, у справу барацьбы з кулаком.

Уся ўстаноўка комплексу пахне „тэорыяй урастаньня кулака ў соцыялізм". Паглядзім, як распрацоўваецца гэты комплекс. 9 падтэм гэтае тэмы магчыма лічыць тэхніка-экономічнымі. Даюцца „об'ектыўна" веды тэхнічнага характару, напр., „Культура збожжавых расьлін", „Тэхнічныя расьліны і іх апрацоўка" і г. д. Ня кепска, зразумела, даць дзецям веды тэхнічнага характару, калі яны ўвязаны з палітыкай партыі ў сельскагаспадарчай галіне. Але гэтага няма. Палітыка партыі сама па сябе, а тэхнічныя веды самі па сябе. Яшчэ цікавая зьява: у гэтай тэме ні аднаго слова аб пяцігодцы! З адзінаццаці падтэм толькі адна гаворыць аб „мерапрыемствах савецкай улады і комуністычнай партыі ў галіне сельскае гаспадаркі".

Усё што хочаце знойдзеце ў гэтых мерапрыемствах: і саўгасы і колгасы, дасьледчыя агрономічныя станцыі, агрономічныя пункты, барацьбу са шкоднікамі палёў, барацьбу з сухменьню і г. д. Аднаго толькі не хапае: „Пяцігадовы плян" і „Барацьба з кулаком" ня ўключаны ў гэтыя тэмы. Яшчэ адна драбніца: „Барацьба з рэлігіяй", якая зьяўляецца тармазам для сельскай гаспадаркі (стар. 168—172 у гарадзкім варыянце і 79—83 у вясковым), ну, а клясавы характар рэлігіі? Рэлігія ў барацьбе з колгасамі і саўгасамі, дзе гэта? У гэтай тэме, як відаць з паказанага, адсутнічае ці „выпадкова" выпаў элемэнт клясавай барацьбы на вёсцы; рэлігія тлумачыцца, як тормоз; разрыў у падтэмах паміж палітыкай партыі і тэхнічнымі ведамі; адсутнічае пяцігадовы плян; нічога не дадзена аб палітыцы партыі ў справе будаўніцтва колгасаў і саўгасаў, каго прымаюць у гэтыя колгасы і саўгасы; нічога ня сказана аб пераробцы сялянскай індывідуалістычнай псыхолёгіі і пераробцы тэхніка-экономічнай падставы нашае вёскі; ні слова аб новым зьмесьце „змычкі", як вытворчай. Усё гэта дае ўжо цяпер мажлівасьць кваліфікаваць, як сыстэму поглядаў.

Каб яшчэ лепей у гэтым упэўніцца, пяройдзем да аналізу 3-й тэмы: „Індустрыя". Але гэткай тэмы, як аказваецца, у програмах няма. Калі тэма „Сельская гаспадарка" дадзена, як галіна народнай гаспадаркі, дык індустрыя, як галіна гаспадаркі, не даецца. Адсюль вынікае, што індустрыялізацыя нашай савецкае краіны і прынцыпы нашае палітыкі ў справе індустрыялізацы ня дадзены. Нашая палітыка ў справе вырабу сродкаў вытворчасьці таксама адсутнічае ў програмах. Мы мысьлім, што галоўным у народнай гаспадарцы зьяўляецца соцыялістычная індустрыя, а паводле програм Наркомасьветы выходзіць, што галоўным зьяўляецца сельская гаспадарка. Значыць, індустрыі, як тэмы, няма. Есьць тэмы: „Крыніцы энэргіі", „Горныя мэталы і іх апрацоўка". Вось вам і ўся індустрыя.

Паспрабуем прааналізаваць яшчэ адну тэму: „Насельніцтва СССР" у падтэме 6-й „Як вырашана ў СССР нацыянальнае пытаньне". Як і ў першых тэмах, адсутнічае пытаньне аб „барацьбе са скажэньнямі нацыянальнай палітыкі", „барацьба з антысэмітызмам і шовінізмам" і г. д. Цікава, што клясавае рассластаваньне ў горадзе і на вёсцы ідзе па лініі падтэмы „Элемэнты новага быту". Ну і „установачка"! Паводле ўстаноўкі НМК выходзіць, што клясавае рассластаваньне ідзе і адыгрывае ролю толькі па лініі культуры. У экономіцы гэта рассластаваньне ролі не адыгрывае.

Вось як програма вырашае проблему выхаваньня барацьбіта і будаўніка. Аналіз програмы 4-й групы даволі выразна паказаў, што ўсё гэта, пачынаючы ад першае тэмы і канчаючы апошняй, складае цэлую сыстэму поглядаў, асуджаных партыяй. Хаця „програмы" называюцца „стабільнымі", але гэта апошняя адносная і досыць няўстойлівая. Час пераглядзець грунтоўна програму і стварыць зусім новую не „папраўкамі" ды „прыстаўкамі", а перагледзець програму з пункту погляду прынцыпаў нашай палітыкі ў горадзе і на вёсцы.

# ПРА ДЗІЦЯЧУЮ КНІЖКУ

**ІВ. ЦЬВІКЕВІЧ.**

## БОЛЬШ УВАГІ ДЗІЦЯЧАЙ КНІЗЕ.

Часопісь „Асьвета“, якая павінна была быць баявым органам асьветнікаў па ўсіх пытаньнях асьветы, культуры і політыкі, надта мала зьмяшчала артыкулаў пра дзіцячую літаратуру.

Беларуская савецкая дзіцячая кніга існуе тры гады, яна ёсьць ва ўсіх бібліотэках, вучні чытаюць яе, бібліотэчныя работнікі працуюць з дзіцячай кнігай, настаўнікі карыстаюцца ёю, як адным з важных пэдагогічных сродкаў, бацькі купляюць яе і раюць чытаць сваім дзецям, выдавецтва друкуе і выпускае на рынак усё новыя і новыя дзіцячыя кнігі, але да гэтага часу няма сталай навуковай пэдагогічнай і політычнай ацэнкі гэтых кніг.

У свой час мы пісалі ў газэце „Савецкая Беларусь“: „У працаўнікоў выдавецтва ствараецца ўражаньне, што выданыя кнігі ідуць у нейкую пустэчу і там нязнаныя, ня бачаныя паміраюць бясслаўнай сьмерцю. Ні ганяць, ні хваляць—ніхто не падае голасу. Жудасная ціша пануе вакол беларускае дзіцячае літаратуры. У той час, як у РСФСР і на Украіне ўжо даўно ідуць гарачыя дыскусыі, калі там вырасла вялікая крытычная і мэтодолёгічная літаратура пра дзіцячую кнігу, у нас амаль што ня ўбачыш большменш сур'ёзнай навуковай рэцэнзіі на тую ці іншую дзіцячую кніжку“.

Чым вытлумачыць тое, што ў нас ня створана сталае крытыкі дзіцячае літаратуры? Ды пераважна тым, што настаўніцкія масы чамусьці да гэтага часу стаялі неяк з боку ад гэтае справы. А настаўніцтва, якое ўвесь час непасрэдна працуе з дзіцячай кнігай, якое карыстаецца ёю як дапаможным сродкам у сваёй пэдагогічнай практыцы, чуе голас дзіцячага колектыву,—яно мае ўсе магчымасьці ўсебакова ацаніць дзіцячую кнігу.

Настаўнік дашкольнае ўстановы павінен даць агляд усяе беларускае дашкольнае дзіцячае літаратуры. Ён павінен даць вычэрпваючы адказ на тое, якую кніжку чакае дашкольная дзятва. Ён можа дапамагчы ў складаньні рэкомэндацыйных сьпісаў дашкольнай літаратуры, каб бібліятэчныя і кніжныя работнікі, бацькі дый самі настаўнікі карысталіся сьпісамі для работы з дашкольнай кніжкай. Настаўнік першага і другога концэнтру павінен даць ацэнку дзіцячых кніг для школьнага ўзросту і таксама вызначыць, якія з гэтых кніг можна рэкомэндаваць для таго ці іншага ўзросту.

У працаўнікоў НКА яшчэ два гады назад была думка аб тым, каб скарыстаць часопісь „Асьвета“ для зьмяшчэньня сьпісаў рэкомэндаваных дзіцячых кніг, але гэта карысная думка чамусьці так і заставалася думкай.

Але лепш позна, як ніколі. Гэту думку трэба падтрымаць, ажывіць, даць ёй конкрэтныя формы. На падставе крытычных артыкулаў настаўніцтва, якія будуць надрукаваны ў часопісі, з бегам часу можна будзе ўлажыць сталыя рэкомэндацыйныя сьпісы і пасьля зьмяшчаць іх у тэй-жа часопісі.

Нам здаецца, што ў часопісі трэба зрабіць хоць бы невялікі разьдзел, прысьвячоны пытаньням дзіцячае літаратуры. Гэты разьдзел зьверне ўвагу настаўніцтва на проблему дзіцячае кнігі, згуртуе вакол сябе крытычныя, мэтодолёгічныя і пэдолёгічныя сілы і паслужыць зародкам будучае спэцыяльнае часопісі аб дзіцячай літаратуры. Такая часопісь выходзіць у Маскве пад назвай „Книга детям“. Кожны, хто цікавіцца дзіцячай кнігай і працуе з ёй, знойдзе ў гэтай часопісі шмат каштоўнага мэтодолёгічнага

і крытычнага матар'ялу. У гэтай-жа часопісі зьмяшчаюцца рэкомэндацыйныя сьпісы расійскіх дзіцячых кніг.

* * *

Гэтым артыкулам мы хочам закрануць некаторыя проблемы дзіцячай літаратуры, якія патрабуюць пільнае ўвагі, патрабуюць вырашэньня. Іх можна вырашыць толькі шляхам шырокага грамадзкага абмеркаваньня і з удзелам у першую чаргу нашага пролетарскага настаўніцтва.

Пачнем з дашкольнай кнігі.

Якую кніжку даць дзіцяці, каторае толькі пачынае крыху ўсьвядомліваць наўкольнае жыцьцё, каторае толькі навучаецца орыентавацца ў складаных абставінах хатняга, школьнага і грамадзкага жыцьця? Дарэволюцыйная буржуазная пэдагогіка вырашала гэтае пытаньне надта проста, прымітыўна, але з свайго клясавага пункту гледжаньня дасканала. Давалі дзецям салодзенькую, „сахарыную“ кніжку пра жывёл — зайчыкаў, кацянят, птушачак, казюлячак і г. д.; давалі клерыкальнага зьместу апавяданьні пра „добрага божаньку“, які любіць паслухмяных і карае свавольных, пра ціхіх анёлачкаў, пра „хрыстосіка“ і калядную або вялікодную ноч з усімі папоўскімі атрыбутамі; давалі пра „добрых, жаласьлівых багатых людзей“, якія ратавалі ў калядную марозную ноч бедных сіротак; пра прыгожых прынцаў і каралевічаў „да зубоў узброеных“ лепшымі моральнымі якасьцямі; пра „добрага рускага цара-бацюшку“, якога бяз меры любіць і паважае „просты люд“ і г. д. і г. д. Буржуазія насычала дзіцячы кніжны рынак патрыотычнай, монархічнай і клерыкальнай літаратурай. І трэба сказаць, што мастацкая якасьць гэтай літаратуры была часта на адпаведнай вышыні. Лепшыя літаратурныя і мастацкія сілы былі ўцягнуты ў стварэньне дзіцячай кнігі. Дзесяткі мільёнаў дзяцей атручваліся мастацкі паданай салодкай атрутай. Памешчыцка-царскі лад спрытна апойваў дзяцей буржуазным і папоўскім дурманам, каб падрыхтаваць з маладой зьмены рабскі пакорлівых падданых.

Пролетарская рэволюцыя зьнішчыла памешчыцка-буржуазны лад. Здавалася, што і буржуазным тэндэнцыям у дзіцячай літаратуры паложаны канец. Аднак, сілу старых пэдагогічных традыцый, сілу буржуазных поглядаў нельга было выкараніць адным ударам.

Буржуазная спадчына ў дзіцячай літаратуры яшчэ да гэтага часу падае аб сабе вестку, хоць часам і ў вельмі замаскаванай форме.

Погляды на дашкольную кніжку зьмяняюцца, але зьмена гэта адбываецца залішне марудным тэмпам. У гэтай галіне адбываецца барацьба паміж школай і сям'ёй. Бацькі ў большасьці сваёй глядзяць на дашкольную кніжку як на забаўку, дрындушку. Купіў кніжку з малюнкамі, тыцнуў яе дзіцяці і няхай забаўляецца. Які зьмест кніжкі, пра што там намалёвана і як намалёвана — гэта, па думцы бацькоў, апошняя справа. Абы дзіцё цешылася.

Савецкая пэдагогіка, пролетарская пэдагогіка павінна весьці з гэткімі абывательскімі поглядамі на дашкольную дзіцячую кніжку плянавае і рашучае змаганьне.

Дашкольная кніга ёсьць магутны выхаваўчы сродак. Адсюль вынікае, што гэты сродак мусіць быть дасканалым як па форме, так і па зьместу.

Да малюнкаў мы павінны ставіць высокія вымаганьні. Агульнавядомы факт, што малюнкі, бачаныя намі ў дзіцячыя гады, мы памятаем дзесяткі год, часам аж да сівых валос. Гэта сьведчыць пра тое, што ілюстрацыя ў дзіцячай кнізе мае вялізны выхаваўчы сэнс і часам больш уплывае на псыхіку дзяцей, чымся літаратурны зьмест. А ў кніжках для дашкольнага ўзросту ілюстрацыі адыгрываюць першарадную ролю. „Мастак-ілюстратар ня менш адказны перад дзяцьмі за ілюстрацыі, як пісьменьнік за словы. Магчыма, што і больш“.

Пытаньне пра тое, якой графічнай мовай павінен размаўляць мастак з дашкольнікамі, ёсьць пытаньне складанае і мала вывучанае. У той час, як у пэдагогічных колах ідзе дыскусія наконт гэтага, ідзе вывучэньне рэакцыі дзяцей на малюнкі, ідзе шуканьне об'ектыўнага навуковага крытэрыя для аналізу і ацэнкі дзіцячых ілюстрацый, — мастакі „нічтоже сумняшеся“ ілюструюць дзіцячыя кнігі кожны на свой погляд і на свой густ. Большасьць мастакоў ня ведаюць асноў пэдагогікі, ня ведаюць дзіцячай псыхікі і таму лічаць магчымым ужываць у сваіх малюнках любыя мастацкія напрамкі.

Мастакі зацікаўлены паказаць сваю кваліфікацыю ў формальна-мастацкім сэнсе і таму на пэдагогічна-выхаваўчы бок яны не зьвяртаюць увагі. Для каго мастакі малююць: для дзяцей, якія мала разумеюць у мастацтве, штрыху, стылю, гармоніі ліній, кубізьме, прамянізьме, эстэтызьме і да т. п., ці для мастакоў-жа, каб давесьці ім, што вось гэта мацней за гэтае, а вы гэтак ня зробіце, а, на мой погляд, вось гэткім спосабам цікавей, чымся тым і г. д? Дый сапраўды. У дзіцячых кнігах можна ўбачыць ўсе формальныя мастацкія шуканьні мастакоў, нават іх лябораторныя экспэрымэнты, усе адменнасьці стылізацыі і г. д. Усё гэта яскрава сьведчыць пра тое, што мастакі забываюцца на дзяцей, на маленькіх чытачоў, для якіх яны малююць.

У гэтым пытаньні трэба правесьці вялікую выхаваўчую работу з мастакамі шляхам сумленнай, об'ектыўнай настаўніцкай крытыкі ілюстрацыйнага матар'ялу ў дзіцячых кнігах. Крытыка павінна быць абгрунтаванай нагляданьнямі над дзіцячым успрыйманьнем малюнкаў. Аналіз мастацкай работы павінен быць навуковым. Такая таварыская крытыка з боку настаўніцтва дапаможа нашым мастаком стаць на правільны шлях. Нам неаднакроць даводзілася чуць скаргі мастакоў на тое, што ніхто не крытыкуе іх работу над дзіцячай кнігай, ніхто не памагае ім у іх шуканьнях правільнага падыходу да ілюстраваньня дзіцячае літаратуры.

Апроч малюнкаў, у дашкольнай кніжцы вялікае значэньне мае і тэкст, асабліва для старэйшых дашкольных груп, якія пачынаюць знаёміцца з літарамі. Тут настаўніцтва можа сказаць сваё аўторытэтнае слова наконт велічыні шрыфту, разьмеркаваньня і сувязі тэксту з малюнкамі, дапусьцімасьці ўжываньня каляровага тэксту і г. д. Таксама важна пачуць голас настаўнікаў аб форматах дашкольнай кнігі, аб матар'ялах для аправы. Дзеці дашкольнага ўзросту успрымаюць кнігу ня толькі вачыма, але галоўным чынам навобмацак—вось чаму ад прадуманага тэхнічнага афармленьня кнігі (формат, якасьць матар'ялу, цьвёрдасьць ці мяккасьць аправы, шурпатасьць ці гладкасьць яе, яскравасьць фарб на вокладцы і г. д.) залежыць яе посьпех сярод дзіцячага колектыву.

Калі мы ставім цэлы шэраг патрабаваньняў да знадворнага выгляду дашкольнай кніжкі, то яшчэ больш патрабаваньняў мы павінны прад'яўляць да зьместу.

Тут мы павінны адкрыта сказаць: дашкольнай літаратуры з новым, пролетарскім, клясавым зьместам яшчэ няма.

Рэволюцыйнае змаганьне ў Кастрычнікавыя дні, перамога рабочае клясы над царатам, барацьба рабочае клясы ў капіталістычных краінах, удзел дзяцей у рэволюцыйным руху, змаганьне навукі з рэлігіяй, цемрай, забабонамі, змаганьне з алкоголізмам і старым бытам, будаўніцтва сёньняшняга дня (індустрыялізацыя, колектывізацыя), пяцігодка і г. д.—усё гэта павінна быць тэмамі для дашкольнай дзіцячай кнігі.

Ці здолеюць дзеці дашкольнага ўзросту ўспрыняць гэтыя тэмы? Бязумоўна, здолеюць, калі падаць гэтыя тэмы ў мастацкай форме і адпаведна іх узросту.

Праўда, пэдагогіка зусім слушна кажа, што маленькія дзеці найлепш успрымаюць у кніжках тое, што ім знаёма, што яны ўжо бачылі. Таму звычайна першыя кніжкі для дзяцей пабудаваны на апісаньні прадметаў і процэсаў, вядомых дзецям: апісаньне хатніх рэчаў, свойскіх жывёл, апісаньне парадку дня дзіцяці і да т. п. А як-жа тут быць з „рэволюцыяй", „рэволюцыйнай барацьбой", „соцыялістычным будаўніцтвам", „пяцігодкай" і да т. п. адцягненымі і складанымі разуменьнямі? Ёсьць шмат людзей, якія па сваёй абывательскай наіўнасьці лічаць зусім немагчымым і немэтазгодным расказваць малым дзецям пра нашы „дарослыя", сур'ёзныя справы, пра нашу гэроічную барацьбу і іншае гэроічнае будаўніцтва. Палохаюць самі сябе і робяць патугі палохаць нашу пэдагогічную думку „страшнымі" размовамі пра далікатнасьць дзіцячай псыхікі, пра „псыхічныя траўмы" і інш.

„Яны бачаць, што рэволюцыя ўжо сама па сабе, у сапраўдным сваім выглядзе, здолела дайсьці да дзіцяці. Дзіця бачыць гэту рэволюцыйную рэчаістасьць на кожным кроку свайго жыцьця, яно творыць новую савецкую грамадзкасьць у сваім маленькім дзіцячым колектыве і сваімі ўласнымі маленькімі ножкамі

крочыць у агульным маршы з дарослымі па рэволюцыйных сьвятах і парадах"[1]).

Пролетарская дзятва павінна мець, апроч кніжак пра птушак і жывёл, кніжкі социяльнага, політычнага зьместу. Нам трэба выхаваць з дзяцей ня толькі прыродазнаўцаў, біолёгаў, агрономаў, жывёлаводаў і г. д., але ў першую чаргу—комуністых, змагароў за комунізм, будаўнікоў комунізму.

Нашы пісьменьнікі могуць сказаць, што надта цяжка напісаць дзіцячую кнігу з політычным, клясавым зьместам. У адказ на гэта мы запытаем іх: чаму-ж буржуазныя пісьменьнікі раней у Расіі і зараз за мяжой удала вырашалі і вырашаюць гэтую проблему?

1861 год, скасаваньне памешчыцкага прыгону—складаная політычная падзея. Здавалася-б. як цяжка падаць у зразумелай для малых дзетак форме гэты політычны акт. А буржуазныя пісьменьнікі падалі яго малым дзецям і скарысталі гэту „падачу" для монархічнай пропаганды, для „возвеличения" цара ў абаронцу і апякуна прыгонных сялян. Даволі ўспомніць вершык, паложаны на ноты, які сьпявалі дзеці ў школах і па-за школай у царскія часы:

„Ах, ты воля, моя воля.
Золотая ты моя,
Не с росой ли ты спустилась.
Не во сне ли вижу я—

Знать горячая молитва
Долетела да царя.
Знать услышал наш кормилец
Про житье-бытье, нужду" і г. д.

Дзеці пролетарыяту, які зрабіў Кастрычнікавую рэволюцыю і зараз будуе социялізм, павінны мець пролетарскую дзіцячую літаратуру. Стварыць такую літаратуру—грамадзкі абавязак нашых пролетарскіх пісьменьнікаў. Але ў гэтай адказнай і цяжкай працы ім павінны дапамагчы настаўнікі сваім пэдагогічным вопытам, сваёй таварыскай крытыкай і парадай.

Трэба адшукаць шляхі набліжэньня пэдагогічнай думкі і практыкі да творчай працы пісьменьнікаў і працы выдавецтва.

Па нашай думцы, часопісь „Комуністычнае Выхаваньне" павінна быць адным з шляхоў да гэтага набліжэньня.

Гэты артыкул ёсьць толькі заклік да настаўніцтва пачаць абгаварэньне проблем дзіцячае літаратуры. Мы толькі крыху спыніліся на дашкольнай літаратуры, закранулі толькі некаторыя пытаньні ў агульнай форме.

Дашкольная літаратура ёсьць і на беларускай мове. Да гэтага часу ніхто ня даў аналізу, ацэнкі гэтай літаратуры. А нам вядома, што кніжкамі карыстаюцца ў дашкольных установах. Вось настаўніцтва дашкольных устаноў, якое працавала і працуе з гэтымі кніжкамі, якое наглядае рэакцыю дзяцей на гэтыя кніжкі, павінна даць усебаковую ацэнку кніг. Паказаўшы ўсе адмоўныя і дадатныя бакі нашай дашкольнай літаратуры, настаўніцтва дапаможа работнікам над кнігай —пісьменьнікам, мастаком, выдавецтву убачыць памылкі, зразумець іх і ў далейшым унікаць гэтых памылак.

Ні пісьменьнік, ні мастак, ні выдавец ня маюць магчымасьці наглядаць і пачуць, як дзіцячая аўдыторыя сустракае кожную створаную імі кнігу. Настаўнік павінен памагчы ім у гэтай адказнай рабоце. Бяз удзелу, самага непасрэднага актыўнага ўдзелу, нашага пролетарскага настаўніцтва немагчыма стварыць новую ідэолёгічна і пэдагогічна вытрыманую дзіцячую кнігу.

**Рэдакцыя**

заклікае настаўнікаў, выхавацеляў адгукнуцца на артыкул тав. Цьвікевіча і на старонках „К. В." падзяліцца сваімі думкамі і парадамі аб дзіцячай кнізе.

[1]) „Какая книжка нужна дошкольнику". Сборник ГИЗ. 1928 г., стар. 54.

ЗЬМ. ПАВАРОТНЫ

# ДАМО ДЗЕЦЯМ ПРОЛЕТАРСКУЮ КНІЖКУ

Пролетарская рэволюцыя дала гіганцкія, гісторыяй нязнаныя, мажлівасьці і пэрспэктывы для культурна-нацыянальнага будаўніцтва. Беларуская Савецкая Соцыялістычная Рэспубліка, якая ўступіла ў 12-ы год свайго існаваньня, мае тут нязьмерныя дасягненьні. Будаўніцтва беларускай пролетарскай культуры і, у прыватнасьці, беларускай пролетарскай літаратуры, пад кіраўніцтвам КП(б)Б, ідзе ў БССР сямімільнымі, цьвёрдымі і вернымі крокамі наперад.

БАН, паўдзесятка беларускіх вышэйшых навучальных устаноў, дзесяткі тэхнікумаў, сотні сямігодак, тысячы вясковых школ, мільёны экзэмпляраў савецкай кніжкі, 5 год Беларускага дзяржаўнага выдавецтва, унівэрсытэцкі гарадок, „Маладняк“, а потым Беларуская асоцыяцыя пролетарскіх пісьменьнікаў— гэта самае нязначнае з усяго заваёванага і пабудаванага беларускім пролетарыятам і працоўным сялянствам, гэта тое, чаго ня могуць ня прызнаць „нашы“, нават самыя заядлыя і ўпартыя, „нац-дэмы“.

І на гэтым яркім, дасягненьнямі і перамогамі багатым фоне шырачэзнага будаўніцтва беларускай пролетарскай культуры і літаратуры асабліва кідаецца ў вочы адно пустое месца, адзін надзвычайна важны, але забыты вучастак ідэолёгічнага фронту — дзіцячая літаратура. Пролетарская літаратурная грамадзкасьць фактычна забылася пра гэты важны вучастак свае работы, не зьвяртае на яго належнай увагі, не аддае яму патрэбнай колькасьці патрэбных сіл, не клапоціцца аб ім.

А між тым „мастацкая літаратура для дзяцей зьяўляецца аднэй з самых моцных зброяў выхаваньня падрастаючага пакаленьня, якая стварае з яго новых людзей, узброеных комуністычным, матэрыялістычным сьветаадчуваньнем, людзей вольных ад забабонаў і паданьняў мінулага; людзёй, што ўмеюць жыць і працаваць колектывам, людзей высокай організаванасьці і дысцыплінаванасьці, бадзёрых творцоў, якія радасна будуюць соцыялістычную грамаду“. (Халатаў).

У гэтым напрамку беларускімі літаратурнымі організацыямі, беларускімі пролетарскімі пісьменьнікамі амаль нічога ня зроблена. Удзел нашых лепшых пісьменьнікаў, лепшых пэдагогаў-марксыстых ў дзіцячай літаратуры быў выпадковым, эпізодычным, на дзіцячую кніжку глядзелі, як на малаважную, другарадную справу.

Ёсьць шмат організацый і ўстаноў зацікаўленых у тым, каб дзіцячая літаратура была найбольш поўнакроўнай, каб гэта кроў была крывёю бальшавіцкай, але ніхто сур'ёзна не займаўся стварэньнем такой літаратуры, выяўленьнем кадраў пісьменьнікаў для дзіцячай літаратуры, не скарыстоўваліся і не прыцягваліся да работы тыя адзінкі, якія самацёкам, саматугам і выпадкова выяўляліся.

Абвешчаны Беларускім дзяржаўным выдавецтвам і Народным Комісарыятам Асьветы БССР конкурс на лепшую дзіцячую кніжку павінен зьявіцца самым крутым пераломам у гэтай справе, моцным штуршком, шырокім пачаткам вялікай работы па стварэньні высокамастацкай дзіцячай кніжкі на соцыяльныя тэмы нашага часу.

Конкурс ставіць перад сабою дзьве вялікія задачы:

а) даць пакаленьню Кастрычніка радасную, бадзёрую, таленавітую, высокамастацкую кніжку, якая-б найбольш поўна яскрава і праўдзіва, у даступнай дзіцячаму разуменьню форме, адлюстроўвала ідэі комунізму, паказвала сёньняшні дзень, час непасрэднага будаўніцтва соцыялізму.

б) прыцягнуць старых, выявіць новыя кадры пісьменьнікаў для стварэньня беларускай пролетарскай дзіцячай кніжкі.

Гэтыя задачы будуць з посьпехам вырашаны толькі тады, калі ўся пролетарская пісьменьніцкая грамадзкасьць, уся грамадзкасьць савецкая і настаўніцкая горача адгукнуцца на наш конкурс, прымуць у ім пасільны дзейны ўдзел, калі нашы лепшыя пісьменьнікі і пэдагогі, вялікія мастакі слова будуць глядзець на стварэньне дзіцячай літаратуры, як на справу крэўную, блізкую, сваю.

Мы бяром на сябе сьмеласьць назваць конкурс соцыяльным заказам ад пакаленьня Кастрычніка ўсім пісьменьнікам, усім мастаком слова, усім пэдагогам. і гэта зусім слушна. Сотні тысяч савецкіх і пролетарскіх дзяцей таго пакаленьня, якое будзе жыць і змагацца ў іншых ад умоў сёньняшняга дню—патрабуюць такую новую, радасна-бадзёрую кніжку, якая-б вучыла іх жыць пановаму, выхоўвала ў іх бальшавіцкую ўпартасьць перад цяжкасьцямі, матэрыялістычнае сьветаадчуваньне. Такую кніжку мы павінны і абавязаны даць нашым дзецям у магчыма бліжэйшы час. Ёсьць конкурс і конкурс. Ёсьць конкурс для конкурсу, і ёсьць конкурс, які павінен раскачаць, разварушыць, узбударажыць справу, зацікавіць усю пролетарскую грамадзкасьць пастаўленаю мэтаю, сабраць усе сілы для данай работы, зацікавіць гэтай работай, выявіць людзей і даць ім работу па іх прызначэньні. Такім—другім—павінен быць наш конкурс—конкурс на лепшую дзіцячую кніжку, бо менавіта перад ім і стаяць такія задачы.

Сярод нашых пісьменьнікаў, і старых і маладых, ёсьць многа людзей з пэдагогічнай асьветай. Яны ведаюць дзяцей, іх жаданьні, іх цікавасьць і парывы, ведаюць падыход да іх. Гэтыя людзі павінны прыйсьці са зброяй свайго мастацкага слова на службу савецкай пэдагогіцы.

Тысячы пэдагогаў і настаўнікаў тры чвэрткі году жывуць у абкружэньні гэтага жывога, гнуткага, іскрыстага матар'ялу—дзяцей, выхоўваюць іх у духу комунізму, прышчапляюць ім рысы новага колектывістычнага чалавека. Вялізарнейшая колькасьць пэдагогаў ведаюць дзяцей, сочаць за кожным іх крокам, вывучаюць і ведаюць псыхіку пролетарскай дзятвы. Колькі сабрана гэтымі людзьмі каштоўнага вопыту, назіраньня! Колькі цікавых прыкладаў і фактаў могуць прывесьці яны аб ініцыятыве, вынаходлівасьці, рысах новага чалавека ў нашых дзяцей! Але-ж гэты каштоўны скарб ляжыць нескарыстаным і... памірае.

Задача савецкага настаўніка—ня толькі прапрацоўваць гатовы матар'ял з дзецьмі ў школе; ён адначасна павінен і тварыць гэты матар'ял. Задача конкурсу—выявіць сотні таленавітых аўтараў (а яны ёсьць) для дзіцячай кніжкі з нашай шматтысячнай настаўніцкай арміі.

А нашы піонэрскія работнікі, студэнты унівэрсытэтаў і тэхнікумаў, працаўнікі дзіцячых садоў, дзіцячых гарадкоў і колёній, нашы рабкоры і селькоры! Колькі яны могуць даць будучых здольных таленавітых аўтараў і пісьменьнікаў!

Мы пераконаны, што конкурс знойдзе самы жывы водгук у нашай пролетарскай літаратурнай і настаўніцкай грамадзкасьці, што яго шчыра спатыкаюць усе тыя, што могуць даць многа карысьці ў стварэньні пролетарскай літаратуры для дзяцей.

Мы цьвёрда верым, што задача—даць дзецям пролетарскую кніжку—будзе выканана.

---

# КОНКУРС НА ЛЕПШУЮ ДЗІЦЯЧУЮ КНІЖКУ

Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва і Народны Камісарыят Асьветы БССР абвяшчаюць шырокі ўсебеларускі конкурс на лепшую дзіцячую кніжку і лепшую дзіцячую п'есу.

**Задачы конкурсу.**

1. Даць пакаленьню Кастрычніка—нашым акцябратам, піонэрам і школьнікам—радасную, бадзёрую, таленавітую, высока-мастацкую кніжку, якая-б найбольш поўна, яскрава і праўдзіва, у даступнай дзіцячаму разуменьню форме, адбівала ідэі комунізму, паказвала сёньняшні дзень—час непасрэднага будаўніцтва соцыялізму.

2. Прыцягнуць старых, выявіць новыя кадры (з пэдагогаў, настаўнікаў, пролетарскіх студэнтаў, пачынаючых поэтаў, журналістых, рабкораў і селькораў, работнікаў дашкольнага выхаваньня і г. д.) пісьменьнікаў для стварэньня беларускай пролетарскай дзіцячай кніжкі.

**Тэмы.**

Прапануем усім жадаючым прыняць у конкурсе ўдзел наступныя тэмы для распрацоўкі іх у мастацкай і бэлетрыстычнай форме.

1. Будаўніцтва соцыялізму ў Саюзе Саветаў і будучая сусьветная комуна.

2. Саветы, як форма пролетарскай дыктатуры і як самая вышэйшая форма дзяржаўнага ладу з усіх існаваўшых і існуючых.

3. Пяцігодка і яе социяльнае значэньне. Выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады.

4. Беларусь фабрык і заводаў (ператварэньне Беларусі ў індустрыяльна-аграрную краіну).

5. Будуецца комуністычная вёска. (Суцэльная колектывізацыя сельскай гаспадаркі, социяльна-экономічная перавага буйнай колектыўнай гаспадаркі над дробнай індывідуальнай).

6. Новы комуністычны быт. (Культурная рэволюцыя. Як дзеці, выхоўваючыся самі ў нашых школах, піонэр-атрадах і г. д., дапамагаюць пролетарскай дзяржаве будаваць новае жыцьцё, новыя комуністычныя адносіны паміж людзьмі).

7. Рысы новага чалавека. (Колектывізм. Як у піонэр-атрадзе, у працоўнай політэхнічнай школе, у гурткох і майстэрнях вырастае новы чалавек).

8. Комуністычная дзіцячая організацыя. (Дзеці да паступленьня ў піонэрскі атрад, піонэры ды іх актыўная грамадзка-карысная работа ў атрадзе, розьніца паміж неорганізаванымі дзецьмі і піонэрамі).

9. Чырвоная армія—абарона Савецкага Саюзу.

10. Сусьветная рэволюцыйная барацьба, яе асобныя яскравыя моманты ранейшых і апошніх часоў.

11. Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся! (Баявая міжнародная солідарнасьць).

12. Клясавая барацьба, як вынік разгорнутага социялістычнага будаўніцтва (перамога социялістычных элемэнтаў над капіталістычнымі, адкрытыя і замаскаваныя выступленьні клясавага ворага, клясавы вораг у савецкай школе, скарыстаньне ворагам дзяцей у сваіх інтарэсах і г. д.).

13. Рэволюцыйнае мінулае Савецкай Беларусі.

14. Панскі ўціск працоўнага народу ў Заходняй Беларусі.

15. Партызанскі рух і белапольская окупацыя Беларусі (гэроі-партызаны).

16. Дзеці - інтэрнацыяналістыя (ачышчэньне дзіцячай псыхікі ад атруты нацыянальнай варожасьці, шовінізмаў і г. д.).

17. Ударныя бязбожнікі (рэлігія, як самае ганебнае з усяго існуючага на сьвеце, несумяшчальнасьць рэлігіі з сьветапоглядам новага чалавека).

18. Ініцыятыва комуністычнай дзятвы. (Жаданьне аўладаць навукова-тэхнічнымі ведамі, юныя канструктары, юныя вынаходцы, юныя тэхнікі і г. д.).

19. Социялістычная прамысловасьць—асобныя буйныя фабрыкі і заводы, пабудаваныя пры савецкай уладзе.

20. Прыродныя багацьці БССР. (Лес, торп і інш.).

21. Прыродныя багацьці СССР.

22. Рэалістычная фантастыка социялістычнага будаўніцтва (Якім будзе выглядаць Савецкі Саюз праз 5-10 год, як мы „заўтрашнія“ ня будзем пазнаваць сябе „сёньняшніх“).

Можна пісаць і на іншыя тэмы, якія маюць социяльнае значэньне.

**Прэміі.**

| | | |
|---|---|---|
| 1-ая прэмія | . 1000 | руб. |
| 2-ая — 4 прэміі | па 500 | „ |
| 3-яя — 4 „ | „ 250 | „ |
| 4-ая — 6 прэміі | „ 100 | „ |

Усе рукапісы прэміяваныя, а таксама і тыя, што прэміі не атрымалі, але прыняты БДВ да друку, аплачваюцца падвышаным гонорарам: мастацкая проза—120 руб., п'есы—180 руб. за друкаваны аркуш. (1 аркуш = 40.000 літар).

**Умовы конкурсу.**

1. Кожная кніжка нямінуча формуе пэўным чынам социяльную псыхіку дзяцей, а таму кожны твор, пасылаемы на конкурс, павінен мець яскрава выражаную социяльную накіраванасьць, акрэсьленую социяльную мэту.

2. Дзіцячая кніжка павінна быць высока-мастацка напісана. Яна павінна даваць дзецям эмоцыі бадзёрасьці, эмоцыі радаснага ўспрыманьня социяльных процэсаў працы, адчуваньне жывой непарыўнай сувязі з колектывам.

3. Мова дзіцячай кніжкі павінна быць мастацка простай, вобразнай, чыстай, зразумелай, мовай, якая навучае дзяцей лёгка і правільна выказваць свае думкі.

4. Нельга замыкаць дзіцячыя творчыя парывы ў вузкім коле знаёмых рэ-

чаў. Кожная дзіцячая кніжка павінна мець сваёй задачай пашырыць кругагляд свайго чытача.

5. Фантастыка ў дзіцячай кніжцы павінна мець пераважна рэалістычны ды гульлівы характар і павінна быць цесна ўвязана з социяльнаю мэтай мастацкага твору.

6. Разьмер дасланай на конкурс дзіцячай кніжкі не павінен перавышаць: мастацкая проза — 6 друк. аркушаў, п'есы—1 друк. аркуш.

7. Рукапісы могуць быць напісаны на беларускай, яўрэйскай, польскай, расійскай ды інш. мовах. Апошні тэрмін прысылкі рукапісаў 1-га жніўня 1930 году.

8. Конкурс будзе закрытым. Гэта значыць, рукапісы трэба прысылаць выключна пад дэвізамі (умоўнымі абазначэньнямі—словамі, сказамі) з адначасным дадаткам запячатаных конвэртаў пад тымі ж самымі дэвізамі, у якіх хаваецца паведамленьне аб прозьвішчы, імені і адрасе аўтара.

Дэвізныя конвэрты прэм'яваных твораў ускрываюцца пасьля канчатковай пастановы савету журы аб выніках конкурсу. Дэвізы тых твораў, якія прэміі не атрымалі, але якія прызнаны годнымі для друку, ускрываюцца па згодзе аўтара.

9. Рукапісы дасылаць на адрас: Менск, Савецкая, 63, БДВ, Юнсэктару з паметкай „На конкурс дзіцячай кніжкі“.

**Савет журы:**

Народны поэта Якуб Колас, старшыня Галоўнавукі проф. Панкевіч, старшыня Галоўполітасьветы т. Галавач, т. т. Цьвікевіч (член Праўленьня БДВ, заг. выд. аддз.), Паваротны (адк. рэд. юнсэктару БДВ), Буклей (ЦБ ЮП), Рывін (НКА), Гарбуз (Піонэр Беларусі), Гэзін („Юнгер Ленінец“) Якімовіч („Іскры Ільліча“), Александровіч Алеся, Янка Маўр, Савёнак П. (настаўнікі і аўтары), Лабадаеў (АПАД ЦК КПБ), прадстаўнікі ад наступных організацый і ўстаноў: БелАПП'у і яго нацыянальных сэкцый, „РОМБ“, „Узвышша“, часопісі „Комуністычнае Выхаваньне“, Галоўліту і інспэктары дашкольнага і соцыяльнага выхаваньня НКА.

*Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва*
*Народны Комісарыят Асьветы БССР.*

# КНІГАПІС

**Л. Е. Раскін. „За интернациональное воспитание детей" с предисловием В. И. Шульгина. Изд-ство „Работник просвещения". Москва 1930 г.**

Гэта брошура зьяўляецца першай кнігай па пытаньню аб інтэрнацыянальным выхаваньні. Апроч паасобных артыкулаў, мы дагэтуль яшчэ ня мелі больш-менш падрабязна распрацаванай літаратуры па паказанаму пытаньню. Вось чаму мы павінны асабліва ўважліва аднесьціся да брошуры Раскіна.

Тав. Шульгін у сваёй прадмове дае наступную установку: „І трэба дамагацца таго, каб кожны дзень прабываньня дзяцей у школе замацоўваў у іх гэта новае, наша, і глушыў, выкарчоўваў, вырываў з карэньнямі шовіністычнае, антысэміцкае, вялікарасійскае. За комунізм, гэта значыць за інтэрнацыянальныя ідэалы рабочае клясы. За комунізм, гэта значыць за дружную барацьбу ўсіх прыгнечаных, да якой-бы расы яны ні належалі, дзе-б яны ні жылі, якой-бы нацыі яны ні былі, супроць буржуазіі ўва ўсім сьвеце. За комунізм, гэта значыць за бязьлітасную барацьбу з тым, хто нацкоўвае адну нацыянальнасьць на другую, хто спрабуе замазаць, затушаваць падпаліць клясавую барацьбу нацыянальнай варожасьцю. Інтэрнацыянальным сусьветным павінны навучыцца жыць нашы дзеці". Тут многае сказана правільна. Толькі трэба зрабіць адну заўвагу. У пададзенай вытрымцы і наогул у кніжцы Раскіна падкрэсьліваецца неабходнасьць барацьбы з „шовінізмам, антысэмітызмам, вялікарасійскім". Тут аўтар выходзіць з ўмоў Масквы, Ленінграду ды іншых цэнтральных гарадоў, дзе нямала ёсьць носьбітаў вялікадзяржаўнага шовінізму. А неабходнасьці барацьбы ня толькі з вялікадзяржаўным шовінізмам, але і з мясцовым нацыяналізмам—вось гэта ў брошуры Раскіна не падкрэсьліваецца. Бяз гэтага ня можа быць вырашана правільна проблема інтэрнацыянальнага выхаваньня. Раскін піша: „Трэтыраваньне нашых нацыянальнасьцяў, фанабэрыстыя адносіны да іх—усе гэта мае месца і ў школах і у піонэратрадах". Ці толькі трэтыраваньне малых нацыянальнасьцяй наглядаецца ў нашых выхаваўчых установах? А пагардныя і агідныя адносіны мясцовых нацыяналістых—беларускіх, украінскіх і г. д. да маскалёў, расійцаў—гэта ў школах не наглядаецца? Нельга падыходзіць да інтэрнацыянальнага выхаваньня аднабока. Тут трэба аднолькава біць як па вялікадзяржаўных шовіністых, гэтак і па нацыяналізмах розных адценьняў і колераў.

Паколькі кніжка Раскіна зьяўляецца першай, трэба было-б у тэорэтычным асьвятленьні інтэрнацыянальнага выхаваньня абавязкова выходзіць з аналізу думак Леніна. Па гэтаму пытаньню ў Леніна ёсьць шмат выказваньняў. але-ж апошнія мала чамусьці популярызуюцца. Напрыклад, найбольш вядомая брошура Н. К. Крупскай: „Заветы Ленина в области народного образования" амаль што ні слова не гаворыць пра думкі Леніна па інтэрнацыянальнаму выхаваньню. Бяз гэтага кніга Раскіна значна траціць сваю каштоўнасьць у прынцыповай пастаноўцы паказанага пытаньня.

Мэтодыка інтэрнацыянальнага выхаваньня зусім мала распрацавана. І тое, што падаецца ў брошуры Раскіна адносна мэтодыкі, зьяўляецца больш-менш дастатковым. Не зразумела толькі, чаму аўтар, пералічваючы цэлы шэраг мэтодаў, зусім не адзначыў неабходнасьць скарыстаньня ў выхаваўчых мэтах мастацкую літаратуру з характарам пролетарскага інтэрнацыяналізму? Апошняя мае вялікае значэньне ў выхаваньні.

Ня гледзячы на паказаныя недахопы, брошура Раскіна можа быць скарыстана нашым масавым настаўнікам у сваёй рабоце. **Панкевіч.**

---

**Л. Шашкоў, І. Самковіч, У Пігулеўскі, С. Касмовіч, А. Касабуцкі. „Антырэлігійнае выхаваньне ў школе для другога концэнтру школ-сямігодак".**

**(З практыкі Менскай цэнтральнай дасьледчай школы).**

Гэтая кніга дапушчана Навукова-Мэтодолёгічным Комітэтам пры Н. К. Асьветы ў якасьці дапаможніка для настаўнікаў другога концэнтру сямігадовай школы.

Што гэткія дапаможнікі для нашых школ патрэбны,—зьяўляецца бясспрэчным. Антырэлігійнае выхаваньне зараз займае адно з важнейшых месц у сыстэме комуністычнай асьветы. Ня гледзячы на гэта, мы маем у паказанай галіне адносна нязначны вопыт і невялікую літаратуру. На беларускай мове ў нас амаль што зусім адсутнічае літаратура па антырэлігійнаму выхаваньню. Вось чаму рэцэнзуемая кніга можа прынесьці пэўную карысьць нашаму масаваму настаўніку. Станоўчы бок паказанай кнігі месьціцца яшчэ і ў тым, што яна зьяўляецца падагульненьнем вопыту нашай дасьледчай школы.

Але-ж, побач з гэтым, кніга мае і сур'ёзныя недахопы. Антырэлігійнае выхаваньне прадстаўляе сабою пэўную сыстэму сродкаў пэдагогічнага ўплыву, якая ня зводзіцца да якіх-небудзь паасобных элемэнтаў узьдзеяньня. Антырэлігійнае выхаваньне ажыцьцяўляецца шляхам супольнага скарыстаньня такіх сродкаў пэдагогічнага ўплыву, як правільная пабудова школьных програм, пэўныя мэтоды выкладаньня паасобных дысцыплін, організацыя антырэлігійных гурткоў і кутоў бязбожнікаў, антырэлігійная пропаганда праз насьценную газэту, падбор адпаведных кіно-фільм, скарыстаньне мастацкай літаратуры і наогул мастацтва ў мэтах антырэлігійнага выхаваньня,

адпаведная работа сярод бацькоў і насельніцтва. Толькі супольнае ўжываньне гэтых сродкаў уплыву можа прывесьці да жаданага эфэкту. Ізаляваа ае паасобнае скарыстаньне сродкаў і мэтолаў антырэлігійнай работы ў значнай ступені памяншае эфэктыўнасьць выхаваньня. Вышэй паказаная кніга падае толькі прыклады выкладаньня паасобных дысцыплін у сувязі з антырэлігійнай асьветай, але-ж усе другія сродкі і мэтоды гэтай асьветы тут не закранаюцца. Дзякуючы гэтаму, зьмяншаецца пэдагогічная каштоўнасьць паказанай кнігі, як пэўнага мэтодычнага дапаможніка.

У кнізе ёсьць мэтодычны матар'ял па выкладаньню грамадазнаўства, беларускай і расійскай літаратуры, прыродазнаўства, хэміі і фізыкі.

У матар'яле па грамадазнаўству, беларускай і расійскай літаратуры падаецца шмат фактаў і прыкладаў, накіраваных супроць праваслаўнага духоўніцтва, але ж тут амаль што адсутнічаюць факты і прыклады, накіраваныя супроць каталіцкага духоўніцтва, рабінаў і сэктантаў, калі ня ўлічваць некаторых прыкладаў па каталіцкае духоўніцтва фэўдальнай эпохі па гісторычнай частцы грамадазнаўства. А між тым барацьба супроць ксяндзоў, рабінаў і сэктантаў ва ўмовах Беларусі мае такое-ж актуальнае значэньне, як і барацьба супроць папоў.

Другім сур'ёзным недахопам паказанага матар'ялу зьяўляецца тое, што аўтары, адзначаючы контррэволюцыйную ролю царквы ў пэрыод рэволюцыі і грамадзянскай вайны, надта мала ці, правільней сказаць, зусім нічога не гавораць аб контр-рэволюцыйнай дзейнасьці царквы і другіх рэлігійных організацый у сучасны пэрыод у нашай соцыялістычнай рэконструкцыі.

Яшчэ трэба адзначыць і тое, што ў кнізе не падаецца такі матар'ял, які б рашуча ставіў пытаньне пра хлусьню духоўніцтва розных рэлігійных культаў адносна існаваньня бога.

Аўтары сконцэнтравалі сваю ўвагу на тым, каб скомпрамантаваць духоўніцтва і зьнішчыць яго аўторытэт у вачох рэлігійных людзей. Гэта, зразумела, патрэбна. Але-ж гэта яшчэ не вырашае проблемы цалком. Можа здарыцца, што пад уплывам такой антырэлігійнай пропаганды удасца ўзбудзіць агіду сярод веруючых супроць прыслужнікаў культаў. Але-ж гэта ня значыць, што веруючыя, якія адмаўляюцца ад сваіх папоў, ксяндзоў, рабінаў і г. д., тым самым адначасова адмаўляюцца і ад веры ў бога. Часта бывае, калі чалавек захоўвае рэлігійныя настроі, ня гледзячы на тое, што ён адмоўна настроены супроць духоўніцтва. Вось чаму трэба падбіраць матар'ял ня толькі супроць царквы ды іншых рэлігійных аб'яднаньняў, але-ж і супроць рэлігійнага сьветапогляду, супроць уяўленьняў пра няісную чага бога. А што мы бачым у кнізе? Па грамадазнаўству зусім не закранаецца пытаньне аб анімізьме і ўзьнікненьні рэлігіі. Праўда, гэта пытаньне закранаецца па літаратуры, але-ж яно тут ня можа як належыць быць высьветлена дзякуючы таму, што выкладчык літаратуры ня мае мажлівасьці даць неабходны аналіз пэўным этапам гісторычнага разьвіцьця чалавечага грамадзтва. Па прыродазнаўству досыць правільна падаецца матар'ял супроць разных цудаў і забабонаў. Гэта можа даць пэўны эфэкт. Але-ж і тут ёсьць памылкі: напрыклад, шляхам вывучэньня натуральных процэсаў нараджэньня, разьвіцьця і сьмерці расьлін, жывёл і чалавека можна было-б лёгка абвергнуць забабоны наконт так званага „загробнага" жыцьця.

У кнізе аб гэтым ня сказана ніводнага слова. Зусім няўдала формулявана пытаньне аб паходжаньні жыцьця на зямлі ў разьдзеле прыродазнаўства. Аўтар піша: „Навука ня высьветліла канчаткова пытаньня пра паходжаньне жыцьця на зямлі". Калі-б гэта было правільна, было-б вельмі дрэнна: мы не маглі-б як належыць весьці антырэлігійную работу, ня маючы мажлівасьці даказаць хлусьню біблейскіх легенд пра стварэньне першага жыцьця. А сапраўды справа абстаіць ня так дрэнна, як гэта здаецца аўтару. Апошні паказвае дзьве гіпотэзы зараджэньня жыцьця: 1) тэорыя зараджэньня з неорганічнай матэрыі і 2) тэорыя пераносу жыцьця з іншай плянэты. Пры гэтым, аўтар не паказвае, якая тэорыя зьяўляецца правільнай. Для марксыстага-ж зусім ясна, што тэорыя пераносу жыцьця з іншае плянэты не адпавядае прынцыпам дыялектычнага матэрыялізму, што гэта тэорыя зьяўляецца мэханістычнай. Адзіна правільнай тэорыяй трэба лічыць толькі вучэньне пра нараджэньне органічнага сьвету з неорганічнага. Адсутнасьць у выкладчыка па гэтаму пытаньню цьвёрдай устаноўкі ня можа даць станоўчага эфэкту выхаваньня.

Яшчэ раз падкрэсьліваем, што ў процэсе антырэлігійнага выхаваньня трэба „біць па богу" у большай ступені, чым гэта мы маем у кнізе.

Па грамадазнаўству надта слаба выяўлены краязнаўчы матар'ял. Нават і тады, калі аўтар імкнецца раскрыць хлусьню папоў наконт мошчаў, падаюцца прыклады з Сяргеем Раданескім і Засімай і ніводнага слова не гаворыцца аб Ефрасіньні Полацкай, тады як апошняя якраз найбольш вядома насельніцтву Беларусі.

У аддзеле грамадазнаўства сустракаецца досыць шмат недакладных формулёвак, якія могуць прывесьці чытача да няправільных уяўленьняў аб рачаіснасьці. Кажучы пра выступленьні супроць каталіцкай царквы Яна Гуса, Лютэра і Мюнцэра, аўтар выкладае свае думкі ў такім выглядзе, быццам паказаныя выступленьні былі выкліканы асабістымі настроямі і нездавальненьнем паасобных перадавых людзей сярэднявечча, пры чым клясавая барацьба, як рухавік гісторыі тут затушоўваецца. Па тэме: „Узьнікненьне і разьвіцьцё гарадоў" аўтар рэкомэндуе правесьці гутарку па пытаньню: „Антырэлігійнасьць насельніцтва старажытных гарадоў". Гэта недакладна і няправільна. У старажытных гарадох былі выступленьні супроць царквы, яе эксплёататарскай ролі, а не супроць рэлігіі наогул. Нават самыя рэволюцыйныя рухі сярэднявечча, якія праходзілі часамі пад сьцягам комуністычных лёзунгаў, ня былі афарбованы у антырэлігійны колер, калі не ўлічваць пазьнейшых выступленьняў паасобных вучоных і філёзофаў, якія часта выказваліся ў матэрыялістычным напрамку. Пэўную антыцаркоўнасьць насельніцтва старажытных гарадоў, абумоўленую нараджэньнем капіталізму, нельга падменьваць іх антырэлігійнасьцю.

У цэлым шэрагу месц аўтар, кажучы пра клясавы характар рэлігіі, паказвае, што рэлігія служыла і служыць інтарэсам духоўніцтва і буржуазіі, пры чым аўтар чамусьці забывае адзначыць тут выключную зацікаўленасьць у рэлігіі і абшарнікаў. У адным месцы сказана, што „антырэлігійныя настроі і перажываньні зьвязаны з

дзейнасьцю варожых і чужых элемэнтаў савецкай сапраўднасьці" (стар. 7). Аўтар, відаць, хацеў тут сказаць не аб „антырэлігійных настроях і перажываньнях", а аб рэлігійных, бо будзе бяссэнсіцай зьвязваць антырэлігійнасьць з дзейнасьцю варожых кляс. Але-ж нават, калі мы будзем зьвязваць з варожымі элемэнтамі і рэлігійнасьць ва ўсіх выпадках, тады нам прыдзецца аднесьці да варожа-клясавых элемэнтаў і вясковую беднату, і сераднякоў, і нават некаторую частку пролетарыяў, якая яшчэ не пазбавілася рэлігійных настрояў. А гэта будзе сугуба няправільнай політычнай лініяй.

Зараз аўтар зрабіў адпаведную папраўку, якая ёсьць у кнізе.

У аддзеле беларускай літаратуры мы знаходзім такі красамоўны выраз: „І мы глядзім на літаратуру, як на магутную зброю, пры дапамозе якой пролетарыят з кожным днём пашырае свае позыцыі, адваёўвае іх ад капіталістычнага сьвету" (стар. 30). Калі-б пролетарыят у сваёй барацьбе карыстаўся толькі такой зброяй, як мастацкая літаратура, ён ні на адзін крок не пашырыў-бы сваіх позыцый. Тут пераацэнка гісторычнай ролі літаратуры. У тэй частцы, дзе аўтар у сувязі з творам Караленка „Лес шуміць" імкнецца растлумачыць сутнасьць анімізму, ён няправільна зводзіць прычыны анімізму да сноў першабытнага чалавека, затушоўваючы такім чынам важную ролю соцыяльных адносін таго часу. Таксама аўтар не разумее ролі соцыяльных адносін і ў процэсе ўтварэньня мовы. Ён піша: „Трэба паказаць вучням на прыкладах, што мова разьвіваецца разам з агульным разьвіцьцём чалавека" (стар. 51). Што гэта за „агульнае разьвіцьцё чалавека", цяжка сказаць. Пад гэтай формулёўкай могуць падпісацца самыя прававерныя ідэалістыя.

Прагледжваючы програму антырэлігійнага выхаваньня пры выкладаньні расійскай літаратуры, перш за ўсё трэба адзначыць адсутнасьць якога-небудзь строгага прынцыпу пры падборы літаратурнага матар'ялу. Тут поўная выпадковасьць, дзякуючы чаму програма мае такія ўзоры і прыклады, якія, бязумоўна, ня могуць быць сродкам комуністычнага выхаваньня. Напрыклад, у програме ёсьць — „Молох" Купрына а творы пролетарскага пісьменьніка Дзям'яна Беднага зусім адсутнічаюць. Купрын—эмігрант і заядлы контррэволюцыянэр. Ці варта вывучаць яго творы ў нашай савецкай школе? Ня толькі ня варта вывучаць, а наадварот трэба рашуча змагацца з ідэолёгіяй гэтага песьняра контррэволюціі. Дзям'ян Бедны—наш пролетарскі поэта і комуніст. У яго ёсьць шмат надта цікавага і каштоўнага антырэлігійнага матар'ялу. І аб ім у програме ні слова. У програме ёсьць „Мцыры" Лермантава, а такі поэта, як Бязыменскі адсутнічае. Праўда, для об'ектыўнасьці трэба сказаць, што аўтар паказанай програмы не ігнаруе і сучасных пісьменьнікаў. Ён рэкомэндуе творы Лебядзінскага, Коласава, Горкага і г. д. Але-ж побач з гэтымі тут ёсьць і такія пісьменьнікі, якія ў сэнсе антырэлігійнага выхаваньня нічога каштоўнага даць ня могуць. Тут трэба падбіраць творы, якія выклікаюць актыўнасьць барацьбы супроць рэлігіі. У гэтых адносінах „Мцыры" ці „Сон Абломава" ня могуць быць сродкам выхаваньня антырэлігійнай актыўнасьці. Аўтар зусім няправільна тлумачыць прычыны рэлігійнасьці дваран-памешчыкаў. Ён паказвае, што быццам страх экономічнага заняпаду „наводзіць цёмных дваран-памешчы аў у веру рэлігіі і зьвязаных з ёй забабонаў".

А чым-жа тады тлумачыць рэлігійнасьць фэўдалаў у часе росквіту фэўдальнага грамадзтва, калі ня было ніякага экономічнага заняпаду? Тут справа не ў экономічным заняпадзе, а ў клясавай структуры грамадзтва, у становішчы самых дваран-памешчыкаў, як эксплёататараў, зацікаўленых у захаваньні рэлігіі, якая зьяўлялася ідэолёгіяй пануючае клясы, адбіткам соцыяльных адносін фэўдальнага грамадзтва.

Ня гледзячы на паказаныя недахопы, кніга „Антырэлігійнае выхаваньне ў школе" можа быць рэкомэндавана настаўніку, як першы дапаможнік на беларускай мове па выкладаньню дысцыплін у школе ў сувязі з антырэлігійнай работаю.

**П. Панкевіч.**

---

**І. Гурскі. „Сварка". Дзіцячая п'еска ў 2-х дзеях. БДВ. 1929 г. 27 стар.** *Цана 20 кап.*

Бядняк Даніла часта піў і напіваўся да бяспрытомнасьці. Піў ён больш з заможнымі, з папом і таму цягнуў у іх руку. Зьвяртаючыся п'яным дамоў, Даніла паднімаў у хаце суматоху, лаяў, біў сваю жонку Кацярыну. Цёмная, забітая кабеціна пакорліва прымала кпіны і штурмакі ад мужа, плакала і праклінала свой паганы лёс.

У Кацярыны ёсьць двое дзяцей—Кастусь, 14 год. і Хімка, 12 год. Кастусь і Хімка вучацца ў школе і вучацца добра. Яны нават піонэры, але сваё піонэрства хаваюць ад бацькі, баючыся, каб той ня выгнаў іх з хаты. Праўда, так доўга ня было. Аднаго разу, калі Даніла, напіўшыся, пачаў муштраваць жонку, дзеці становяцца на бок мацеры і рашуча заяўляюць: „татка, ня бíся, бо інакш мы ў сельсавет. Нельга біць працоўную жанчыну". Так кажа сын Кастусь, а дачка Хімка дабаўляе: „мамачка, бяры развод... мы ўжо вялікія, не прападзем...".

Пасварыліся дзеці з бацькам і парашылі адыйсьці ад яго. На дапамогу піонэрам прыходзіць комсамолец Юзік, і Кастусь, Хімка і іх маці Кацярына ідуць у суседні колгас, пакінуўшы бацьку аднаго.

Пасьля гэтай сваркі прайшоў год. Даніла за гэты час пераменіўся, стаў іншым чалавекам і прыходзіць да свае сям'і ў колгас, бо „стала быць, моладзь перамагла. Ну, іх сіла".

Зьмест п'ескі надзвычайна цікавы і праўдзівы. Падобных прыкладаў, калі дзеці з маткай кідалі свайго бацьку, п'яніцу і падкулачніка, ды самі ішлі ў колгас, ёсьць шмат. Яны кажуць аб вялікім росьце нашых піонэраў, аб рабоце піонэрскай організацыі па выхаваньню з працоўнай дзятвы трывалых будаўнікоў соцыялізму.

Аўтар паставіў перад сабою цікавую, важную задачу і яе вырашыў.

П'еска „Сварка"—карысная і патрэбная рэч. Яна павінна быць выкарыстана нашымі школамі і піонэратрадамі ў часе правядзеньня імі сельска-гаспадарчай кампаніі.

Нам хочацца толькі адзначыць адзін недагляд аўтара—гэта мова. Асаблівасьці дзіцячай мовы тут зусім забыты. Піонэры гавораць моваю дарослых спрактыкаваных прамоўцаў. Напрыклад, піонэр Косьця разважае: „Гледзячы, якая сварка: калі абы пасварыцца, дык тады нядобра, але калі па прынцыпу, дык тады карысна. Такая сварка асьвяжае мазгі, дае штуршок да далейшае барацьбы за лепшае існаваньне чалавека“, а яго сястра Хімка, як старая кума, навучае сваю маму наступнымі словамі: „калі ў хаце няма сваркі, дык няма і скваркі“.

Бязумоўна, піонэры павінны выконваць вялікія работы па ажыцьцяўленьні пяцігодкі, але-ж нельга забываць асаблівасьцяй іх узросту, нельга забывацца, што дзеці—ёсьць дзеці.

**Юн.**

---

## ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

З заўвагамі рэцэнзэнта па свайму разьдзелу працы—„Антырэлігійнае выхаваньне пры выкладаньні грамадазнаўства“—па пытаньнях недастатковага высьвятленьня контррэволюцыйнай дзейнасьці папоў, ксяндзоў, рабінаў, сэктанцкіх арганізацый і г. д., у сучасны момант у сувязі з посьпехамі соцыялістычнага будаўніцтва і абвастрэньнем клясавай барацьбы; контр-рэволюцыйнай дзейнасьці ксяндзоў, рабінаў, сэктанцкіх організацый у часе рэволюцыі 1905 г., Кастрычнікавай рэволюцыі, грамадзянскай вайны, голаду на Паваложжы,—зусім згодзен. Зараз гэтыя дадатковыя матар'ялы мною распрацоўваюцца і будуць зданы для надрукаваньня ў бліжэйшыя нумары часопісі **„Комуністычнае выхаваньне“**.

На старонцы 7 п. 7 укралася друкарская памылка, якая выпраўлена. Зьмест тэмы: „Антырэлігійнасьць насельніцтва старажытных гарадоў“ якраз і паказвае на барацьбу насельніцтва старажытных гарадоў супроць царквы і абраднасьці. У зьмесьце не падкрэсьліваецца наогул антырэлігійнасьць насельніцтва старажытных гарадоў. Зьгодзен, што формуляваньне самой тэмы няўдалае і ня зусім адпавядае зьместу.

**Л. Шашкоў.**

---

# ХРОНІКА

## У Наркомасьветы.

✱ Колегія Наркомасьветы заслухала даклад Белдзяржкіно аб кінофікацыі колгасаў, саўгасаў і раёнаў суцэльнай колектывізацыі.

Адзначана, што Белдзяржкіно павінна ў першую чаргу абслугоўваць кіно-сеткаю саўгасы, колгасы і раёны суцэльнай колектывізацыі.

У 1930-31 годзе ў раёнах суцэльнай колектывізацыі колькасьць кіно-перасовак падвоіцца. Будзе адна перасоўка на 12 тысяч насельніцтва, у той час, як у іншых раёнаў—адна на 24 тыс.

У 1930-31 г. мець у раёнах суцэльнай колектывізацыі адну стацыянарку, устанавіўшы яе ў буйных колгасах ці саўгасах.

На працягу 5-годкі ў вёсках будзе пабудавана каля 50 памяшканьняў пад кіно.

✱ Колегія ўхваліла правесьці рэорганізацыю сеткі ўстаноў па соцыяльна-прававой ахове дзяцей, наступным чынам:

Дзіцячы дом для дзяцей ва ўзросьце ад 4 да 8 год і дзіцячы дом ад 8 год да 16.

Бяспрытульныя дзеці да 4-х гадоў знаходзяцца ва ўстановах Наркомаховы здароўя.

Бяспрытульныя падросткі да 16 год і вышэй устрайваюцца на работу органамі НК Працы.

Дзіцячы дом першага зьвяна будуецца па тыпу і програмах дашкольных устаноў.

У другім зьвяне дзеці ад 8 да 12 год вучацца ў школах 1-га концэнтру, а з 12 да 16 год—у другім концэнтры 7-годкі і профшкол розных тыпаў.

Бяспрытульныя пераросткі да 16 год, якія не падыходзяць да гэтых катэгорый, зьмяшчаюцца ў працоўныя комуны па падрыхтоўцы для вытворчасьці.

Комплектаваньне будзе праводзіцца выключна праз прыёмнікі.

Для хворых дзяцей з дзіцячых дамоў будуць адчынены спэцыяльныя дамы.

З выпускнікоў IV курсу пэдтэхнікумаў будзе выбрана 100 чалавек для работы ў дзіцячых дамох, папярэдне прапусьціўшы іх праз адпаведныя курсы.

Матар'яльнае забесьпячэньне дзяцей будзе палепшана. На адзеньне на аднаго выхаванца адпускаецца 50 р. у год, на харчаваньне ў дзень—да 50 капеек.

Колегія зьвярнулася з просьбаю ў СНК, каб абавязаць чыгуначныя органы прыняць захады да спыненьня руху бяспрытульных па чыгунцы ў БССР.

✱ Колегіяй ухвалена організаваць каротка тэрміновыя 6 ці месячныя курсы для падрыхтоўкі 30 настаўнікаў для вясковых школ на польмове.

У 193 годзе будуць таксама праведзены і курсы па падрыхтоўцы 100 чал. хатнікаў.

✱ У канцы верасьня 1930 году будзе зроблены выпуск 3-га курсу ўсіх пэдтэхнікумаў. Пэдтэхнікумы будуць пераведзены на 3-х гадовы курс навучаньня.

Мэтодкому даручана распрацаваць навучальныя пляны і програмы, прыстасаваўшы іх да 3-х гадовага навучаньня ў пэдтэхнікумах.

✱ Для прыстасаваньня вясковых 4 і 7 гадовых школ да выкананьня задач соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі і агрономізацыі насельніцтва, колегыя лічыць патрэбным:

Навучальны год у вясковых 4-х і 7 гадовых школах увязаць з сэзоннасьцю работы ў колгасах, каб школа працавала круглы год з двухмесячным перапынкам, у які настаўнікі будуць мець свой чарговы адпачынак. Перапынкі ў гэтым навучальным годзе будуць з 15 студзеня па 15 лютага і з 15 чэрвеня па 15 ліпеня.

Програмы вясковай 4-х гадовай школы і I концэнтру вясковых сямігодак будуць перабудаваны так, каб соцыялістычная рэконструкцыя сельскай гаспадаркі займала цэнтральнае месца ўва ўсіх комплексах.

У 2-м г. дзе навучаньня адзіным комплексам у програмах павінен быць комплекс—„Наш колгас“.

2-гі концэнтр вясковых сямігодак павінен зараз жа перайсьці на програмы навучаньня ШСМ.

Галоўнае месца павінна быць адведзена вывучэньню колектывізацыі і коопэраваньню сельскае гаспадаркі і шляхоў яе агрономізацыі. На працягу 2-х год усе вясковыя школы сямігодкі (2-гі канцэнтр) павінны быць рэорганізаваны па тыпу ШСМ.

Мэтодкому і БДВ прапанавана выдаць на працягу 2-х месяцаў новыя навучальныя пляны, програмы і падручнікі для вясковых 4-х і 7-мі гадовых школ.

✱ У Бабруйску ў гэтым годзе будзе адчынен Усебеларускі дзіцячы дом для цяжка-выхоўваемых дзяцей на 60-70 асоб. Дом будзе названы Усебеларускім домам для бяспрытульных імя комсамолу Беларусі.

✱ Колегія дазволіла Галоўмастацтву абвясьціць конкурс на масавую песьню і лібрэто для музычных драм (опэраў).

а) на напісаньне тэксту на мовах БССР масавай песьні.

Тэма: пяцігодка, прызначэньне для піонэраў і школьнікаў, для комсамольцаў, рабочых або чырвонаармейцаў.

Тэрмін прадстаўленьня—1-га сакавіка 1930 г.

Прэміі: Адна ў 75 р., 2 па 50 р., 3—па 25 р.

б) На напісаньне лібрэто для музычных драм (опэраў).

Тэмы: Барацьба за Савецкую Беларусь;
наша будаўніцтва; дарэволюцыйная Беларусь;
клясавая барацьба ў Заходняй Беларусі;
наша бліжэйшая будучына;
Чырвоная армія на варце.

Тэрміны прадстаўленьня—1 мая 1930 г.

✱ Колегія згадзілася з выданьнем газэты 10-ці дзёнкі для малапісьменных.

*Рэдактар*—Рэдкалегія *Адказны рэдактар*—Л. Бэндэ

ЦАНА 80 КАП.

## РАСПАЧАТА ПАДПІСКА НА 1930 г.

ВЫ ЎЖО СПАЗЬНІЛІСЯ ПАДПІСАЦЦА
НА ПЭДАГОГІЧНУЮ ЧАСОПІСЬ

**„А С Ь В Е Т А“**

ЗАМЕСТ „АСЬВЕТЫ“ БУДЗЕ ВЫДАВАЦЦА МАСАВАЯ ПЭДАГОГІЧНАЯ І ПОЛІТЫКА-АСЬВЕТНАЯ ЧАСОПІСЬ

# КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ

ЧАСОПІСЬ

**„КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ“** вядзе ваяўнічую барацьбу за комуністычнае выхаваньне працоўных мас, жыва адклікаецца на ўсе палітычныя, пэдолёга-пэдагогічныя, політасьветныя проблемы дню.

ЧАСОПІСЬ

**„КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ“** зьявіцца лепшым памочнікам у рабоце настаўніка, політасьветніка, дашкольніцы.

ЧАСОПІСЬ

**„КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ“** будзе выходзіць пры ўдзеле лепшых марксыцкіх сіл як Беларусі, так і інш. Саюзных Рэспублік.

У ЧАСОПІСІ

**„КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ“** ўводзіцца вялікі аддзел **„Работа на мясцох“** у якім прымаюць удзел усе настаўнікі і політасьветныя працаўнікі.

## УМОВЫ ПАДПІСКІ НА 1930 ГОД

| | |
|---|---|
| На 1 год (12 нумароў) . . . . . . . . . | 8 р. |
| „ паўгода (6 нумароў) . . . . . . . . . | 4 р. 50 к. |
| „ 3 м-цы (3 нумары) . . . . . . . . . | 2 р. 30 к. |
| Кошт асобнага нумару . . . . . . . . . | — 80 к. |

Скідка 25% подлуг агалошанай цаны даецца настаўнікам школ, хатнікам і інш., якія выпісваюць часопісь за свой кошт на цэлы год. Раённым установам (райінспэкцыя, мясцком) скідка 25% у тым выпадку, калі яны падпішуцца ня менш, як на 50 экзэмпляраў на цэлы год.

**Падпіска прымаецца рэдакцыяй: Менск, Пляц Волі, 23/2, а таксама поштай і аддзяленьнямі Белдзяржвыдавецтва.**

Усе, хто падпісаўся на часопісь „АСЬВЕТА“ на 1930 г., будуць атрымліваць без асобнай даплаты часопісь „КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ“.

**СЬПЯШАЙЦЕСЯ З ПАДПІСКАЙ НА ЧАСОПІСЬ „К О М У Н І С Т Ы Ч Н А Е   В Ы Х А В А Н Ь Н Е“.**